**Змест**

# Прадмова

У апошнія гады нарастае цікавасць да нядаўняй ЛГБТ-гісторыі ў краінах Усходняй Еўропы. З аднаго боку, яна выклікана неабходнасцю ізноў і ізноў даказваць відавочнае: аднаполая сэксуальнасць з'яўляецца ў нашым рэгіёне не нейкім "імпартам з Захаду", а існавала здаўна, як і ў кожным іншым грамадстве. З іншага боку, зараджэнне і развіццё ЛГБТ-супольнасці выклікае цікавасць прадстаўнікоў гэтай супольнасці да "сваёй" гісторыі, культуры, іншых спосабаў канструявання калектыўнай ідэнтычнасці. З пункту гледжання (прагрэсіўных) акадэмічных колаў, гісторыя (гома)сэксуальнасці – надзвычай цікавы сюжэт, па якім можна прасачыць і ўзровень аўтаноміі медыцыны і юрыспрудэнцыі, і агульны ўзровень талерантнасці ў грамадстве, і проста зірнуць на ўсё той жа "рэальны сацыялізм" 1960-1980-х гадоў з зусім іншага пункту гледжання.

Акадэмічныя даследаванні па ЛГБТ-гісторыі ў апошнія гады з'явіліся па Венгрыі (працы Юдыт Такач / Judit Takacs), Чэхаславакіі [Sokolova 2014]. На жаль, азнаёміцца з імі ў межах падрыхтоўкі дадзенага тэксту не атрымалася.

Польскі ангельскамоўны часопіс "DIK Fagazine" прысвячае гістарычнай тэматыцы некаторыя свае нумары. У матэрыялах асвятляецца ЛГБТ-гісторыя не толькі Польшчы, але і Чэхаславакіі, Румыніі, іншых краін Усходняй Еўропы [DIK Fagazine №8; DIK Fagazine №9].

У Латвіі распрацоўвае гісторыю сэксуальнасці, і ў тым ліку гісторыю гомасэксуальнасці, супрацоўніца Інстытута гісторыі Латвіі Інэта Ліпша (Ineta Lipša). У Рызе выйшла кніга "Змушанае падполле. Гомасэксуалы ў Савецкай Латвіі" журналісткі Рыты Рудушы, у тым ліку ў перакладзе на ангельскую мову [Ruduša 2014]. Рыта Рудуша стварыла серыю партрэтных нарысаў пра геяў, лесбіек і транссэксуалаў Латвіі, заснаваных (за выняткам аднаго) на інтэрв'ю.

Журналісцкі падыход пераважае і ва ўкраінскай публікацыі, прысвечанай ЛГБТ-супольнасці гадоў незалежнасці [Украинское ЛГБТ-движение 2015]. Некалькі старонак у ёй адведзена і характарыстыцы гей-субкультуры Кіева ў 1970-я і 1980-я гады.

Значна раней, яшчэ з пачатку 1990-х гадоў, цікавасць да квір-гісторыі СССР (Расіі) праявілі акадэмічныя даследчыцы і даследчыкі з ангельскамоўнай прасторы: Лоры Эсіг [Essig 1999], Дэн Хілі, Дэніэл Шлютэр

[Schluter 2002], Франчэска Стэла [Стелла 2014; Stella 2015]. Іх мы ўзгадваем пазней, бо іх погляд – погляд звонку, і з-за моўнага бар’ера іх даследаванні атрымалі меншы розгалас, чым маглі б. Выняткам стала перакладзеная на расійскую мову кніга Дэна Хілі [Хили 2008].

З-за моўнага бар’ера аўтар дадзенай брашуры змог азнаёміцца толькі з тымі артыкуламі французскага даследчыка Арцюра Клеша, якія перакладзены на расійскую мову [Клеш 2012; Клеш 2013].

Апрача работ уласна гісторыкаў, немагчыма не ўзгадаць працы сацыёлага Ігара Кона. Гістарычная частка была ўключана Конам у яго кнігу пра гомасэксуальнасць [Кон 2001], а адна з работ была цалкам прысвечана гісторыі сэксуальнай культуры ў Расіі/СССР [Кон 2010]. Нарэшце, многае для разумення гісторыі расійскай (савецкай) сэксалогіі даюць успаміны Ігара Кона, напісаныя ў жанры інтэлектуальнай аўтабіяграфіі [Кон 2008].

Істотнымі крыніцамі для даследавання сталі 11 інтэрв’ю, праведзеных з людзьмі, у той ці іншай ступені датычнымі да гомасэксуальнай (лесбійскай) субкультуры ці адпаведных грамадскіх арганізацый (клубаў, рухаў) у другой палове 1980-х – пачатку 2000-х гадоў. З 11-ці я правёў 4 інтэрв'ю, астатнія правялі Таня Сяцко, Кацярына Борсук, Наталля Манькоўская і яшчэ адзін даследчык, які пажадаў застацца не названым. Імёны рэспандэнтаў, іх месца жыхарства, узрост і прафесійная прыналежнасць у публікацыі не раскрываюцца, каб гарантаваць захаванне тайны іх асабістага жыцця.

Выкарыстоўвалася таксама крымінальная статыстыка з Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага архіву Расійскай Федэрацыі.[1]

Спачатку я планаваў устанавіць як верхнюю часавую рамку даследавання 1994 год, калі адбылася дэкрыміналізацыя гомасэксуальнасці ў Беларусі, але маладзейшыя прадстаўнікі грамадскасці запатрабавалі працягнуць аповед да 2007 года (год стварэння ініцыятывы “ГейБеларусь”). Як ні дзіва, але ў ЛГБТ-асяроддзі Беларусі настолькі слаба працуе сувязь пакаленняў, што нават першая палова 2000-х многім 18-20-гадовым актывістам і актывісткам уяўляецца як “былінныя часы”, пра якія нешматлікія ацалелыя аксакалы могуць складаць эпас.

[1] Больш падрабязная характарыстыка крыніц даецца ў той частцы брашуры, дзе вядзецца мова пра крымінальны пераслед. Пералік і (месцамі) характарыстыка друкаваных крыніц даюцца ў асноўным тэксце брашуры.

Ніжняй часавай рамкай стаў 1945 год, бо атрымалася знайсці архіўную статыстыку, пачынаючы з гэтага году. Аднак крыміналістычныя і сэксапаталагічныя публікацыі пра гомасэксуальнасць з'яўляюцца ў СССР пасля доўгага перапынку з-за "сталінскага тэрмідора" толькі ў 1960-я гады. Вуснагістарычныя сведчанні і публікацыі ў прэсе, якія атрымалася сабраць, адносяцца да часу, не ранейшага за "перабудову".

Неабходна зрабіць метадалагічную заўвагу: мне бліжэй канструктывісцкі, чым эсэнцыялісцкі погляд на ідэнтычнасць. Адпаведна, мне ў большай ступені хочацца пісаць квір-гісторыю, чым ЛГБТ-гісторыю. Гэтаму, аднак, супраціўляецца матэрыял: у другой палове XX стагоддзя афіцыйныя інстытуцыі (ў першую чаргу псіхіятрычныя) актыўна канструявалі ўяўленне менавіта пра "гомасэксуалістаў" ці "педэрастаў" як сацыяльную групу. За гэтым агульным найменнем цяжка разабраць адценні квірнасці, уявіць сабе ўсю разнастайнасць "сэксуальных дысідэнтаў". У сённяшняй Беларусі сярод актывістак і актывістаў існуе некаторае захапленне палітыкамі ідэнтычнасці, а слова "квір" часта выкарыстоўваецца толькі як сінонім "ЛГБТ". Між тым, квір-тэорыя накіравана на падрыў не толькі гетэранормы, але і гоманарматыўнасці.

Гэтае выданне не прэтэндуе на статус акадэмічнага (навуковага), таму яно не заснавана на грунтоўна распрацаванай метадалогіі, але даведачны апарат (спасылкі і бібліяграфія) ў ім захаваны. У цытатах з крыніц захоўваюцца арфаграфія і пунктуацыя арыгіналу, якія не заўжды адпавядаюць сучасным моўным нормам.

Пры напісанні раздзела "Праз оптыку юрыспрудэнцыі: крымінальны пераслед за гомасэксуальнасць у БССР" быў выкарыстаны артыкул "Крымінальны пераслед мужчын-гомасэксуалаў у БССР: невядомыя статыстычныя дадзеныя з архіўных крыніц", падрыхтаваны для беластоцкага часопіса "Białoruskie Zeszyty Historyczne – Беларускі гістарычны зборнік". У сваю чаргу, для напісання раздзела "Медычны дыскурс пра «палавыя вычварэнні» ў СССР" быў выкарыстаны артыкул "Сэксапаталогія СССР пра гомасэксуальнасць і іншыя "адхіленні" ад гетэранарматыўнасці (1960-1980-я гады)", падрыхтаваны для часопіса "Палітычная сфера". Паколькі працэс падрыхтоўкі акадэмічных публікацый доўгі, то згаданыя артыкулы ўсё яшчэ знаходзяцца ў друку. Спадзяюся, выкарыстанне матэрыялу з акадэмічных

артыкулаў у папулярнай брашуры не спыніць друк першых. Аўдыторыі згаданых часопісаў і дадзенай брашуры вельмі розныя, да таго ж, брашура перакладзеная на расійскую і ангельскую мовы, што дазваляе пашырыць яе аўдыторыю.

Напрыканцы хачу выказаць падзяку тым, хто пры сустрэчы ці дыстанцыйна кансультаваў па тэме даследавання, дзяліўся літаратурай, выказваў заўвагі да тэкстаў. Гэта Іра Ралдугіна (Масква), Таня Сяцко (Менск), Наталля Манькоўская (Менск), Кацярына Борсук (грамадзянка сусвету), Валерый Сазаеў (Санкт-Пецярбург), Алена Рыгораўна Гусяцінская (Масква), Дэн Хілі (Оксфард), Франчэска Стэла (Глазга), Дзмітрый Ісаеў (Санкт-Пецярбург), Аляксандр Кандакоў (Санкт-Пецярбург), Слава Бортнік (Вашынгтон), Ігар Іваноў (Лондан), Уладзіслаў Іваноў (Вільня), Наста Манцэвіч (Менск), супрацоўнікі Цэнтра незалежных сацыялагічных даследаванняў (Санкт-Пецярбург), Schwules Museum (Берлін) і IHLIA (Амстэрдам). Прашу прабачэння ў тых, каго забыўся назваць. За ўсе недахопы выніковага тэксту нясе адказнасць, безумоўна, сам аўтар, а не калегі і шматлікія кансультанты.

## Мінулыя стагоддзі

Перад тым, як перайсці непасрэдна да разгляду становішча негетэранарматыўных людзей у БССР другой паловы XX стагоддзя, неабходна сцісла акрэсліць, што адбывалася ў папярэднія стагоддзі.

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года не рэгламентаваў пакаранні за гомасэксуальныя стасункі, ані мужчынскія, ані жаночыя [Статут 1989]. Гэта значыць, што яны аддаваліся на разгляд духоўных судоў.

Праваслаўнае царкоўнае права прадугледжвала не надта суровыя пакаранні за гомасэксуальнасць. Часцей мова ішла пра епітым'ю і грашовыя штрафы на карысць царквы. Напрыклад, рукапісны трэбнік XVI ст. прадпісваў адлучаць "мужаложнікаў" ад царквы на 5 год. Такое самае царкоўнае пакаранне чакала мужчын за мастурбацыю ці "блуд" з замужняй жанчынай [Сліж 2015: 293-294]. Прычым, паводле свецкага права за "чужаложства" (адзюльтэр) як палюбоўніка, так і жонку магло чакаць смяротнае пакаранне [Статут 1989: 344-345].

Нават будучым святарам гомасэксуальныя акты маглі даравацца. У (праваслаўнай) кормчай XVI ст., што бытавала на землях Беларусі, было напісана, што прэтэндэнт на духоўнае званне, які здзяйсняў гомасэксуальныя акты ў "актыўнай" пазіцыі, яшчэ мае права на "пастаўленне", але той, хто выконваў "пасіўную" ролю, не можа быць прыняты ў святарства [Марзалюк 2001: 133-134].

Палавыя стасункі паміж жанчынамі ў праваслаўі лічыліся грахом, але не вельмі вялікім (асабліва, калі захоўвалася цнота ў дзяўчат) [Сліж 2015: 285]. Пытанні да жанчын у трэбніках вылучаліся асобна і ў многім дубліравалі пытанні да мужчын, але ў нечым былі менш падрабязнымі. Так, трэбнік XVI-XVII стагоддзяў з бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук утрымлівае пытанне, ці не чыніла прыхаджанка "садомскі блуд" (што менавіта мелася ў дадзеным выпадку на ўвазе, застаецца здагадвацца). У трэбніку разглядалася магчымасць таго, што жанчыны праяўлялі ініцыятыву ў пазашлюбных стасунках, то бок выступалі суб'ектамі сэксуальнага жыцця [Сліж 2015: 288]. Зрэшты, у іншым дакуменце, кормчай XVI ст. са збораў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, пытанне пра лесбійскія стасункі прыводзіцца [Марзалюк 2001: 135].

Стаўленне да гомасэксуальнасці ва Усходняй Еўропе рэзка кантрастуе з Заходняй Еўропай. Ані ў Масковіі, ані ў Вялікім Княстве Літоўскім няма слядоў масавага пераследу "садамітаў", хаця асобныя пакаранні смерцю і не могуць быць выключаны.

Маладаследаванымі застаюцца ўяўленні жыхароў Беларусі мінулых стагоддзяў пра гендэр і пол. Так, Ігар Марзалюк прывёў у якасці анекдота фрагмент з уніяцкай кнігі “Собрание припадков краткое, и духовным особом потребное” (Супрасль, 1722), але пакінуў яго практычна без каментару: “Чи может Невеста оженитися, коли переменится в Мужа? Ответ. Ест много Прикладов, особливе в Панстве Гишпанском, же Невесты, которыи были за Мужами, и дети мели, переминилися в Мужеский Пол, для причин, которыи зде не выявляются, любо Пол Мужеский, не может переменитися в Пол Женский. В таких припадках, может Жена переменшаяся в Мужа покинувши Малжонка своего, себе Малжонку взяти, якося не раз притрафило в Гишпании, в которой Жены мающия дети, переминившися в Мужеский Пол, и оженившися, дети с Женами своими восприяша” [Марзалюк 2001: 129; Собрание припадков 1722].

Нешматлікія прыклады крыніц па гісторыі гомасэксуальнасці ў Рэчы Паспалітай падрабязна разбіраюць Томаш Настульчык і Пётр Очка ў сваёй кнізе “Старапольская гомасэксуальнасць” [Nastulczyk, Oczko 2012]. Часцей гэтыя крыніцы (пераклады Бібліі, мастацкая літаратура, палемічная літаратура ды інш.) даюць нам разуменне таго, як успрымалі аднаполыя сэксуальныя стасункі ў Рэчы Паспалітай, але рэдка мова вядзецца пра рэальных гомасэксуалаў з імёнамі і датамі жыцця.

Часам у мемуарнай літаратуры можна знайсці згадкі пра гомасэксуальнасць магнатаў. Адным з такіх магнатаў быў князь Януш Аляксандр Сангушка (1712–1775), надворны маршалак Вялікага Княства Літоўскага. Жыў ён у сваёй рэзідэнцыі ў Дубне (сёння – горад у Ровенскай вобласці Украіны) і быў па матчынай лініі спадкаемцам Астрогскай ардынацыі. Князь Януш жыў на такую шырокую нагу, што ў 1753 годзе раздрабіў ардынацыю і раздарыў яе сваім крэдыторам і фаварытам. Скандал выклікала не гомасэксуальнасць князя Сангушкі, а раздрабненне Астрогскай ардынацыі. Тыя магнацкія сем’і, якім не дасталося нічога пры падзеле ардынацыі, спрабавалі адмяніць падзел (для гэтага былі юрыдычныя падставы). Адначасова распаўсюджваліся звесткі пра тое, што са сваёй жонкай Канстанцыяй Калумбіяй з дому Дэнгоф (1716 – 1791) Януш Сангушка не жыў, таму і дзяцей у шлюбе не было, а жыў з палюбоўнікамі [Nastulczyk, Oczko 2012: 213-216]. Як пісаў мемуарыст ксёндз Енджэй Кітовіч (1727 ці 1728 – 1804), Сангушку “…вока людское не бачыла пры выкананні абавязкаў. Заглыблены ў гультайства, забавы

і п’янства, ён не любіў займацца нават справамі сваіх маёнткаў...” [Kitowicz 1882: 26]. Таму можна меркаваць, што на землях ВКЛ дзяржаўны службоўца з’яўляўся толькі эпізадычна (напрыклад, на сеймах, якія праходзілі ў Гародні). Але выпадак з падзелам ардынацыі абмяркоўваўся ў тым ліку ў польскамоўнай беларускай мемуарыстыцы – у “Дыярыушы жыцця майго” берасцейскага кашталяна Марціна Матушэвіча (1714-1773): “Князь Януш Сангушка, спачатку мечнік літ[оўскі], а потым надворны маршалак літ[оўскі], па смерці свайго бацькі, князя Паўла Сангушкі, вялікага маршалка В[ялікага] Кн[яства] Літ[оўскага], пусціўся ва ўсялякія свавольнасці – асабліва ўжываў мужчын да сваіх залётаў, а прыгожую жонку Дэнгафоўну, ваявадзянку полацкую, кінуў – і ўсялякія марнатраўствы. Аплецены лёстачкамі кароннага канцлера Малахоўскага і князёў Чартарыскіх, распісаў у Калбушове ўсе маёнткі ардынацыі астрогскай праз аўтэнтычныя данацыі на розных асоб, беручы ў іх надта малыя сумы і марна трацячы тыя” [Matuszewicz 1986: 428]. Далей М. Матушэвіч на некалькіх старонках падрабязна распісвае юрыдычныя, эканамічныя і палітычныя акалічнасці справы. Такім чынам, варта аднесці згаданую справу да гісторыі не толькі Украіны і Польшчы, але і Беларусі.

Граф на Лагойску і Свіслачы Вінцэнт Тышкевіч (1757–1816) любіў апранацца ў жаночую вопратку. Яго жонка, Марыя Тэрэза Панятоўская (1760-1834), атрымала развод (рэдкі выпадак для XVIII стагоддзя) на падставе таго, што ў мужа “быў нейкі фізічны дэфект” [Nastulczyk, Oczko 2012: 91]. Пра сужонкаў Тышкевічаў пісаў ва “Успамінах маіх часоў” знакаміты ўраджэнец берасцейшчыны, палітычны дзеяч і пісьменнік Юльян Урсын Нямцэвіч (1757-1841): “Адны з нашых памятных адведзін былі ў Свіслач. Жыў там пан Вінцэнт Тышкевіч, рэферэндар літоўскі, які ўзяў шлюб з пляменніцай караля, дачкой аўстрыйскага генерала князя Панятоўскага. Відаць, ніколі на свеце не бачылі падобнай пары. Тышкевіч, тлусты як розумам, так і целам, аднак добры і акуратны гаспадар, меў дзіўныя густы, найсмяшнейшыя ў сваім родзе. Найвялікшым яго шчасцем, наймілейшай забавай было ранкам адпраўляць імшу, а ўвечары апранацца па-жаночы. Заўжды меў прыгатаваны да гэтых двух пераапрананняў гардэроб. Наадварот, жонка яго, з найгарачэйшым уяўленнем, уся раманічная, жывая, прыгожая, [з] мужчынскай смеласцю, [нічога] не любіла [так] як коні, спорт [zawody] і мужчынскія забавы. Як толькі гэтая пара прыбывала з Варшавы да Свіслачы, адразу ж муж апранаў спадніцу і сутану, а

жонка – нагавіцы, фрак і капялюш. Калі гаспадар праводзіў раніцу за імшой, а вечар – на канапе ў чапцы і мантэльцы [w mantelce], абмахваючыся веерам, казаў цалаваць яго ў руку і прымаў ад моладзі знакі ўвагі, гаспадыня лётала па палях на кані праз равы і хутка ездзіла [sadziła] на кабыліцах. Многіх з нас гэта забаўляла; хацелі, аднак, лётаць на кані з кабетай у фраку, а не заляцацца да тлустага Тышкевіча” [цыт. паводле: Nastulczyk, Oczko 2012: 333].

У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай (1772–1795) усе землі Беларусі ўвайшлі ў Расійскую імперыю. На той час у Расійскай імперыі ўжо існавала адказнасць за “мужаложства” (анальны сэкс паміж мужчынамі), уведзеная Воінскім статутам 1716 года. Нягледзячы на назву, гэты дакумент распаўсюджваўся не толькі на войска і флот, але і на грамадзянскіх асоб[2]. У 1835 годзе быў уведзены ў дзеянне новы Звод крымінальных законаў, у якім утрымліваўся артыкул 677 (“мужаложства”). Артыкул прымяняўся не вельмі часта і даволі выбарачна. Як правіла, пакарання пазбягалі выхадцы з сацыяльных вярхоў [Хили 2008: 100-124].

У канцы XIX – пачатку XX стагоддзя многія правазнаўцы Расійскай імперыі выступалі за дэкрыміналізацыю добраахвотнага сэксу паміж мужчынамі. Сярод іх быў і магілёўскі юрыст Барыс Пятніцкі. У яго кнізе “Палавыя вычварэнні і крымінальнае права” вялікі раздзел быў аддадзены “педэрастыі” і яшчэ адзін, меншы – лесбійскаму каханню (якое ў Расійскай імперыі не праследавалася). Аўтар пісаў: “Ясна, што ў выпадках педэрастыі па ўзаемнай згодзе, пры адсутнасці аб’екта злачынства, няма ніякіх юрыдычных падстаў для пакарання. Крымінальныя кодэксы, якія яго захоўваюць, грашаць супраць саміх сябе: яны прызнаюць, што згода дарослага апраўдвае і выключае пакаранне пры ўсялякім іншым блудным дзеянні, але ў праследзе педэрастыі сыходзяць з простага і яснага шляху, які ўказваецца логікай. І гэты пункт гледжання ўсё больш і больш становіцца распаўсюджаным у асяроддзі юрыстаў, як тэарэтыкаў, так і практыкаў” [Пятницкий 1910: 32]. Далей аўтар прыводзіць спіс асобных юрыстаў і груп спецыялістаў, якія пры абмеркаванні Крымінальнага кодэкса (*Уголовного уложения*) выказаліся супраць карання “педэрастыі”. Сярод такіх былі і “чыны” Полацкага акруговага суда. На жаль, звестак пра Барыса Пятніцкага амаль не знайшлося. Вядома, што ў 1904 годзе Барыс Пятніцкі (невядома, ці той самы) скончыў поўны курс у Магілёўскай

[2] Інфармацыя Ірыны Ралдугінай, якая абапіраецца на архіўныя звесткі.

гімназіі [http://www.petergen.com/history/moggim.shtml]. У 1917 годзе Барыс Іванавіч Пятніцкі, які пражываў у Магілёве, балатаваўся на выбарах ва Установчы сход па Магілёўскай акрузе па спісе партыі народнай свабоды (кадэтаў) [Воробьев 2013: 47].

Высокапастаўленыя саноўнікі Расійскай імперыі заўжды былі навідавоку, таму іх інтымнае жыццё не з'яўлялася тайнай за сям'ю пячаткамі. Схільнасцю да аднаполага кахання славіўся граф Мікалай Пятровіч Румянцаў (1754–1826), найвышэйшым кар'ерным дасягненнем якога быў пост дзяржаўнага канцлера [Кон 2001: 162; Кирсанов 2005: 19-28]. М. Румянцаў стаў шырока вядомы дзякуючы сваёй мецэнацкай і збіральніцкай дзейнасці: пад яго кіраўніцтвам і на яго сродкі ажыццяўляліся пошук і публікацыя многіх дакументаў па гісторыі Усходняй Еўропы, яго калекцыі кніг і рукапісаў складаюць істотную частку сённяшняй Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Адзін з тамоў дакументаў, выдадзены ў 1824 годзе на сродкі М. Румянцава пад рэдакцыяй протаіерэя Іяана Грыгаровіча, называўся "Белорусский архив древних грамот" і ўключаў у сябе 57 дакументаў XV-XVIII стагоддзяў па гісторыі Усходняй Беларусі. У 1796 годзе Мікалай Румянцаў па смерці бацькі атрымаў у спадчыну маёнтак Гомель. На той час гэта – прыватнаўласніцкае мястэчка Магілёўскай губерні. Пры М. Румянцаве ў Гомелі ішло актыўнае будаўніцтва. Тады паўсталі некаторыя будынкі, якія цяпер з'яўляюцца візітоўкай горада, напрыклад, Петрапаўлаўскі сабор. У саборы, згодна з завяшчаннем, і быў пахаваны граф М. Румянцаў.

У апошнія гады гомельскія ўлады панадзіліся славіць былых уласнікаў мястэчка – прыгоннікаў Паскевічаў і Румянцавых. Іх імёнамі называюць вуліцы, ім ставяць помнікі. Так, праслаўляюць душыцеля паўстання 1830-31 гадоў Івана Паскевіча. Дасталося лаўраў і Мікалаю Румянцаву. У 1996 годзе ў парку каля палаца Румянцавых і Паскевічаў быў пастаўлены помнік М. Румянцаву. Не ведалі гомельскія ўлады, што сваімі рукамі ствараюць месца збора для гіпатэтычнага гомельскага гей-прайда. А пакуль гей-прайда ў Гомелі няма, помнік падыдзе як фон для "тэмнага"[3] фота на памяць.

Забаўна назіраць, як імя Мікалая Румянцава спрабуе "адмыць" ад падазрэнняў у гомасэксуальнасці гісторык Таццяна Салаўёва. Для яе

[3] "Тэма" - назва гомасэксуальнай / лесбійскай субкультуры ў слэнгу. Адпаведна, "тэмны" - які мае дачыненне да гомасэксуальнай / лесбійскай субкультуры.

М. Румянцаў “на працягу ўсяго жыцця аддана служыў сваёй радзіме – Расіі, пакінуў пасля сябе ўнікальныя зборы па Рускай гісторыі і сумленнае імя вернага слугі Айчыны” [Соловьева 2007: 44]. А “верны слуга Айчыны” ў сённяшняй Расіі ніяк не можа быць гомасэксуалам. Таму Т. Салаўёва акцэнтуе ўвагу на блізкіх стасунках М. Румянцава з вялікай княгіняй, а потым імператрыцай Марыяй Фёдараўнай (1759 – 1828), жонкай Паўла І. Няма ніякіх доказаў, што стасункі былі эратычнымі, але пецярбургская даследчыца спяшаецца абвясціць, што М. Румянцаў усё жыццё палаў каханнем да імператрыцы, і таму не ўзяў шлюб і не завёў дзетак. Яшчэ больш смешна, што як доказ “непорочности” дзяржаўнага канцлера Т. Салаўёва прыводзіць пахвальную характарыстыку М. Румянцава з мемуараў знанага гомасэксуала Філіпа Вігеля (1786-1856); прыхільнасць апошняга да мужчын згадваецца ў вядомым вершы Аляксандра Пушкіна.

Аднаполае каханне было распаўсюджана не толькі сярод расійскіх саноўнікаў, але і сярод спаланізаванай шляхты. З пэўнасцю невядома, ці была лесбійкай польскамоўная пісьменніца Марыя Радзевіч (1864–1944), але гетэранорму яна парушала дакладна. Нарадзілася Марыя Радзевіч у маёнтку Пянюха каля Гародні. На будучую пісьменніцу, відавочна, паўплывала ссылка бацькоў у Сібір за ўдзел у паўстанні 1863-1864 гадоў (Марыю некалькі год да вяртання бацькоў выхоўвалі сваякі). Большую частку жыцця яна правяла ў маёнтку Грушава (цяпер – вёска ў Кобрынскім раёне). Творчасць яе дастаткова канвенцыянальная, прысвечаная таму, як важна “ўтрымаць зямлю ў польскіх руках”. Затое сама фігура пісьменніцы ў канвенцыі не ўкладаецца. Яна сама вяла гаспадарку ў маёнтку, не выйшла замуж і не завяла дзяцей, наогул мужчын у яе прыватным жыцці не было. Дом у Грушаве пісьменніца дзяліла з жанчынамі: некалькі год з Геленай Вэйхерт, а потым доўгі час (да пачатку Другой сусветнай вайны) з Ядвігай Скірмунт, сваёй далёкай сваячкай. Паколькі Марыя Радзевіч старанна ахоўвала таямніцу прыватнага жыцця, ніякіх прызнанняў у каханні да жанчыны з-пад яе пяра не захавалася. Затое захаваліся фотаздымкі пісьменніцы, на якіх яна заўжды ў мужчынскай вопратцы, з каротка астрыжанымі валасамі, без аніякай касметыкі. “Рабіла ўражанне хутчэй ксяндза, чым жанчыны”, - пісаў пра 60-гадовую М. Радзевіч Юзаф Пузына. На гэтым фоне могуць шакаваць палітычныя погляды Марыі Радзевіч: у Грушаве праходзілі вучэнні скрайне

правага парамілітарнага “Лагеру Вялікай Польшчы” (Obóz Wielkiej Polski, існаваў у 1926-1933), а ў 1937 годзе М. Радзевіч увайшла ў кіраўніцтва праўладнага і скрайне антысеміцкага “Лагеру нацыянальнага аб’яднання” (Obóz Zjednoczenia Narodowego) [Tomasik 2014: 56-77].

Кшыштаф Тамасік піша таксама пра гомасэксуальнасць Ежы Гедройца і Юзафа Чапскага [Tomasik 2014: 8].

Ежы Гедройц (1906-2000) быў народжаны ў Менску і жыў тут да 1916 года. Ягоны бацька, з беднай шляхецкай сям’і, працаваў аптэкарам. Ежы Гедройц атрымаў вядомасць у паваеннай польскай эміграцыі як рэдактар парыжскага польскамоўнага часопіса “Kultura” (1947–2000). Е. Гедройц выступаў за наладжванне Польшчай добрых стасункаў з Украінай, Беларуссю і Літвой, за што яго люта ненавідзяць польскія нацыяналісты. Ён не ўступаў у шлюб і не завёў дзяцей. Ягоным імем названая вуліца ў Менску (у мікрараёне Брылевічы) і прэмія для беларускіх літаратараў, якую заснавала амбасада Польшчы ў Менску. Вось вам яшчэ два “месцы памяці” для беларускіх гомасэксуалаў. Засталося дачакацца, калі прэмію Гедройца атрымае пісьменніца ці пісьменнік, што актыўна выступае за квір-эмансіпацыю.

Блізкім сябрам і калегам Ежы Гедройца быў Юзаф Чапскі (1896–1993). Дзяцінства Юзафа прайшло ў сямейным маёнтку Прылукі пад Менскам, у міжваенны час ён атрымаў мастацкую адукацыю ў Кракаве і Парыжы. Ю. Чапскі быў адным з 450 афіцэраў польскага войска, якія не былі расстраляныя ў канцлагеры ў Старабельску, і яго ўспаміны пра савецкі палон сталі шырока вядомымі. У 1942 годзе Юзаф Чапскі трапіў у армію Андэрса, і па Другой сусветнай вайне застаўся на Захадзе. Ён быў вельмі важным чалавекам для рэдакцыі часопіса “Культура” і адначасова стаў вядомы як жывапісец. Як і Е. Гедройц, Ю. Чапскі заставаўся бяздзетным халасцяком.

Як бачна, з-за малалікасці даследаванняў па гісторыі сэксуальнасці ў Беларусі, пра дзеі мінулых стагоддзяў даводзіцца збіраць толькі ўрыўкавыя звесткі. Часта гэтыя звесткі тычацца жыцця вядомых асоб, у першую чаргу – з вышэйшых саслоўяў. Застаецца спадзявацца, што сітуацыя выправіцца, і айчынныя медыявісты і навачаснікі парадуюць нас сваімі знаходкамі і адпаведным аналізам ужо вядомых дакументаў.

## Праз оптыку юрыспрудэнцыі: крымінальны пераслед за гомасэксуальнасць у БССР

Напісанне гісторыі гомасэксуальнасці часта ператвараецца ў напісанне гісторыі гамафобіі. Крыніцы па крымінальным праследзе гомасэксуалаў у многіх выпадках з'яўляюцца адносна лёгкадаступнымі і дастаткова шматколькаснымі, каб менавіта з іх пачынаць вывучэнне гісторыі гомасэксуальнасці таго ці іншага перыяду ў той ці іншай краіне Еўропы. Такім чынам, і наша даследаванне гісторыі гомасэксуальнасці ў Беларусі другой паловы XX стагоддзя не магло пазбегнуць вывучэння і інтэрпрэтацыі крыніц па крымінальным праследзе мужчын, якія мелі аднаполы сэкс.

### Крымінальнае заканадаўства СССР і гомасэксуалы

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года бальшавікі адмянілі адразу ўсё заканадаўства Расійскай імперыі, і артыкул, які караў "мужаложства", перастаў дзейнічаць. У Крымінальным кодэксе РСФСР 1922 года такога артыкула не было. Не з'явіўся ён і ў Крымінальным кодэксе РСФСР 1926 года. Публічная рыторыка тых часоў паказвае, што гэта было не выпадковасцю, а паслядоўнай пазіцыяй большасці бальшавіцкіх спецыялістаў ад права і медыцыны [Хили 2008: 143-171]. У БССР з 1 ліпеня 1922 года дзейнічаў Крымінальны кодэкс РСФСР. Праца над праектам Крымінальнага кодэкса БССР пачалася ў 1925 годзе. Крымінальны кодэкс БССР быў уведзены ў дзеянне 15 лістапада 1928 года [Круталевіч, Юхо 2000: 172]. Ён таксама не ўтрымліваў артыкула, які б караў за аднаполыя стасункі [Крымінальны кодэкс 1929].

Тым не меней, вядомыя выпадкі (напрыклад, у Адэсе), калі ў 1920-я гады гомасэксуалаў праследавалі па іншых артыкулах крымінальнага кодэкса [Ролдугина 2016].

У суседняй Польшчы (а значыць, і ў Заходняй Беларусі) гомасэксуальнасць была дэкрыміналізаваная ў 1932 годзе. У СССР жа стан справаў набываў адваротны кірунак.

У жніўні-кастрычніку 1933 года Паўнамоцнае прадстаўніцтва Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) ў Ленінградскай ваеннай акрузе правяло масавыя арышты сярод гомасэксуалаў Ленінграда. Агулам было арыштавана не менш за 198 чалавек, большасць з якіх у далейшым была асуджана за "контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду"

(арт. 58[10] КК РСФСР). Крымінальная справа ў 8 тамах захоўваецца ў архіве Упраўлення ФСБ РФ па Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці. Першым апублікаваў артыкул па матэрыялах гэтай крымінальнай справы прафесар Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктар Іваноў, які, аднак, не здолеў стрымацца ад гамафобных каментароў [Иванов 2013].

13 снежня 1933 года намеснік старшыні АДПУ Генрых Ягода накіраваў сакратару ЦК УКП(б) Іосіфу Сталіну запіску, у якой прапаноўваў рэкрыміналізаваць "педэрастыю". На запісцы з'явілася ўхвальная рэзалюцыя Сталіна, і ўжо 16 снежня Палітбюро ЦК УКП(б) прыняла пастанову "Аб крымінальнай каранасці за педэрастыю" ["Примерно наказать…" 1993].

7 сакавіка 1934 года Прэзідыум ЦВК СССР прыняў пастанову "Аб крымінальнай адказнасці за мужаложства", у якой былі зменены ў параўнанні з першапачатковым праектам фармулёўкі і ўсталяваныя ніжнія межы пакарання. Пастанова была абавязковай для выканання цэнтральнымі выканаўчымі камітэтамі ўсіх саюзных рэспублік [Хили 2008: 223-230].

У Крымінальны кодэкс Беларускай ССР адпаведны артыкул 235[1] быў уведзены 30 красавіка 1934 года. Вось яго тэкст:

"Палавыя зносіны мужчыны з мужчынай (мужаложства), выклікаюць –

пазбаўленне свабоды на тэрмін ад трох да пяці год.

Мужаложства, учыненае з прымяненнем насілля або са скарыстаннем залежнага становішча пацярпеўшага, выклікае –

пазбаўленне свабоды на тэрмін ад пяці да васьмі год" [Крымінальны кодэкс 1935: 57].

У 1960-1961 гадах ва ўсіх саюзных рэспубліках СССР былі зменены крымінальныя кодэксы. У Крымінальным кодэксе Беларускай ССР, які ўступіў у дзеянне з 1 красавіка 1961 года, артыкул меў іншы нумар і змененую фармулёўку. Таксама была адмененая ніжняя мяжа пакарання:

"Артыкул 119. Мужаложства

Палавыя зносіны мужчыны з мужчынам (мужаложства) –

караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці год.

Мужаложства, учыненае з ужываннем фізічнага насілля, пагроз ці ў адносінах да непаўналетняга, або з выкарыстаннем залежнага становішча пацярпеўшага, -

караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да васьмі год" [Крымінальны кодэкс 1961: 46].

Савецкія крыміналісты спрачаліся, якім быў узрост згоды – 18 ці 16 гадоў (на сённяшні дзень у Беларусі – 16 гадоў). Не было прапісана заканадаўча, але мелася на ўвазе, што паводле гэтага артыкула мог карацца толькі анальны сэкс (coitus per anum) паміж мужчынамі. Узаемная мастурбацыя і аральны сэкс былі намінальна легальнымі.

У розных рэспубліках СССР санкцыя магла быць рознай. Так, у Эстонскай ССР артыкул 118 прадугледжваў па першай частцы зняволенне да 2 год, а па другой частцы – зняволенне ад 2 да 6 год са ссылкай ці без ссылкі да 3 год [Veispak 1991: 111].

## Экспертныя погляды на заканадаўчыя нормы

Беларускія юрысты стараліся ніяк артыкул 119 КК БССР не каментаваць. Так, у беларускім падручніку па крымінальным праве для студэнтаў-юрыстаў тлумачэнне гэтага артыкула зводзілася да пераказу крымінальнага кодэкса сваімі словамі. Змест тэрміну "мужаложства" тлумачыўся праз сінонімы "гомасэксуалізм", "педэрастыя", а таксама праз вызначэнне "мужаложствам з'яўляюцца палавыя зносіны мужчыны з мужчынам" [Горелик, Ефимов и Тишкевич 1971: 148]. Нават лацінскага тэрміну coitus per anum аўтары падручніка пабаяліся (а можа, яго і не ведалі). Адпаведна, студэнты-юрысты ў БССР нават не вельмі выразна сабе ўяўлялі, што ж пераследавалася крымінальным кодэксам.

Разам з тым, у Расіі некаторыя юрысты адкрыта выступалі за адмену артыкула "мужаложства" і прыводзілі разгорнутую аргументацыю на карысць адмены. Так, супрацоўнікі кафедры крымінальнага права Ленінградскага ўніверсітэта прафесар Міхаіл Шаргародскі і дацэнт Павел Осіпаў настойвалі на "мэтазгоднасці выключэння з дзейнага заканадаўства склада добраахвотнага мужаложства паміж паўнагадовымі" і прыводзілі даволі разгорнутую аргументацыю на карысць адмены першай часткі артыкула 121 КК РСФСР. Яны пісалі: "У савецкай юрыдычнай літаратуры ані разу не прадпрымалася спроба падвесці трывалую навуковую базу пад крымінальную адказнасць за добраахвотнае мужаложства, а адзіны довад, які звычайна прыводзіцца (маральная разбэшчанасць суб'екта і парушэнне ім правілаў сацыялістычнай маральнасці), нельга прызнаць слушным, бо адмоўныя ўласцівасці асобы не

могуць служыць падставай для крымінальнай адказнасці, а амаральнасць дзеяння недастатковая для абвяшчэння яго злачынным” [Шаргородский, Осипов 1973: 647]. Сярод аргументацыі Шаргародскага і Осіпава была і спасылка на дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці ў краінах “народнай дэмакратыі” (ГДР, Венгрыі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Польшчы).

Раней Павел Осіпаў выказваўся за дэкрыміналізацыю “добраахвотнага мужаложства паміж поўнагадовымі мужчынамі” ў сваёй кандыдацкай дысертацыі, аб чым можна меркаваць па аўтарэфераце [Осипов 1967: 11]. Тамсама П. Осіпаў больш шырока крытыкаваў “змены, унесеныя ў сістэму складаў палавых злачынстваў у 30-х гадах”.

Вялікі раздзел “Мужаложства” ўтрымліваецца ў манаграфіі “Палавыя злачынствы” дацэнта Таджыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, былога супрацоўніка АДПУ Якава Якаўлева [Яковлев 1969: 303-343]. З аднаго боку, Я. Якаўлеў таксама выступаў за дэкрыміналізацыю добраахвотнай мужчынскай гомасэксуальнасці [Яковлев 1969: 323, 342]. Разам з тым, юрыст з Душанбэ рэкамендаваў паліцыі весці картатэкі гомасэксуалаў: “Вялікае значэнне для папярэджання палавых злачынстваў маюць аператыўныя мерапрыемствы органаў міліцыі па выяўленні асоб, здольных здзейсніць палавыя злачынствы. Да ліку такіх асоб адносяцца: асобы, якія пакутуюць на палавыя анамаліі, у тым ліку падазраваныя ў гомасэксуальных схільнасцях; [...]. Для выяўлення ўказаных асоб неабходна выкарыстоўваць спецыяльныя сродкі і метады (аператыўны ўлік, асабісты вышук, назіранне і г. д.), якія маюцца ў распараджэнні органаў міліцыі” [Яковлев 1969: 414].

Паслядоўна выказваўся за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці доктар юрыдычных навук Аляксей Ігнатаў з Масквы. У сваёй кнізе 1966 года “Адказнасць за злачынствы супраць маральнасці” ён асцярожна пісаў, што “ў літаратуры неаднаразова выказвалася меркаванне пра немэтазгоднасць карання добраахвотнага мужаложства” [Игнатов 1966: 182]. Пры тым прыводзіліся спасылкі на працы расійскіх юрыстаў 1920-х гадоў. У кнізе “Кваліфікацыя палавых злачынстваў”, якая выйшла на восем гадоў пазней, А. Ігнатаў прыводзіў ужо разгорнутую аргументацыю за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці:

“...Выклікае вялікія сумневы мэтазгоднасць карання добраахвотнай гомасэксуальнай сувязі дарослых людзей.

У шырокай медыцынскай і юрыдычнай літаратуры, як айчыннай, так і замежнай, даводзілася, што такія гомасэксуальныя сувязі не ўяўляюць грамадскай небяспекі і не наносяць шкоду дзяржаве. Таксама даводзілася, што барацьба з такой з'явай, як гомасэксуалізм, мерамі крымінальнай рэпрэсіі неэфектыўная, бо ў выпадку паталагічнага характару яна бессэнсоўная, а ў іншых выпадках утрыманне гомасэксуаліста ў зняволенні з асобамі аднаго з ім пола можа толькі замацаваць гомасэксуальныя тэндэнцыі. Забарона крымінальным законам перашкаджае гомасэксуалістам звяртацца да ўрачоў і падлягацца лячэнню” [Игнатов 1974: 233-234].

Каб абгрунтаваць гэтае сцверджанне, аўтар спасылаўся ўжо не толькі на літаратуру 1920-х гадоў, але і на дарэвалюцыйную літаратуру, выдадзеную ў Расіі. Ён таксама спасылаўся на рэзалюцыю IX Міжнароднага кангрэса крымінальнага права (Гаага, 1964), якая рэкамендавала не забараняць добраахвотныя гомасэксуальныя стасункі дарослых людзей. Нарэшце, А. Ігнатаў спасылаўся на прававую практыку іншых дзяржаў, як капіталістычных, так і саюзнікаў СССР: “У цяперашні час аніводная з еўрапейскіх сацыялістычных дзяржаў, акрамя Савецкага Саюза, не ўстанаўлівае крымінальную адказнасць за добраахвотны гомасэксуалізм” [Игнатов 1974: 234]. Тут неабходна агаварыцца, што мужчынская гомасэксуальнасць да 1995 года пераследавалася ў Албаніі. У Румыніі як мужчынская, так і жаночая гомасэксуальнасць была дэкрыміналізавана толькі ў 1996 годзе. На час публікацыі кнігі А. Ігнатава “Кваліфікацыя палавых злачынстваў” захоўваўся крымінальны пераслед гомасэксуалаў ва ўсёй Югаславіі (у 1977 годзе адбылася дэкрыміналізацыя ў Славеніі, Харватыі, Чарнагорыі і Ваяводзіне). Але Албанія была ў той час у самаізаляцыі, яшчэ ў 1960-я гады выйшла з Савета эканамічнай узаемадапамогі і Арганізацыі Варшаўскай дамовы. Югаславія ніколі ў Арганізацыю Варшаўскай дамовы не ўступала, а ў Савеце эканамічнай узаемадапамогі была назіральнікам. Нарэшце, Румынія захоўвала свой удзел у названых арганізацыях, але Нікалае Чаўшэску імкнуўся мінімізаваць залежнасць ад СССР і праводзіў самастойную знешнюю палітыку ў дачыненнях з капіталістычнымі краінамі і Кітаем. Такім чынам, не даводзіцца здзіўляцца, што Албанія, Румынія і Югаславія выпалі з поля зроку А. Ігнатава, затое былі ім заўважаныя Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча і Чэхаславакія.

Кнігі А. Ігнатава і Я. Якаўлева, выдадзеныя ў часы “застою”, насілі грыф “для службовага карыстання”. Гэты грыф у Расіі не зняты да сёння, што азначае пэўныя складанасці ў атрыманні доступу да кніг у дзяржаўных бібліятэках. Але адначасова адна з прыватных фірмаў у Маскве адкрыта прадае ксеракопіі і сканы з кнігі А. Ігнатава “Кваліфікацыя палавых злачынстваў”. А ў некаторых былых саюзных рэспубліках кнігі даўно знаходзяцца ў адкрытым доступе. Напрыклад, з “Кваліфікацыяй палавых злачынстваў” А. Ігнатава можна свабодна азнаёміцца ў бібліятэцы Тартускага ўніверсітэта, а з “Палавымі злачынствамі” Я. Якаўлева – у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. Прававы статус кніг у Беларусі незразумелы, паколькі ў каталогах публічных бібліятэк краіны іх няма.

Што ж хавалі і хаваюць ад шырокага чытача цэнзары? Пра метады раскрыцця рэальных і ўяўных злачынстваў, якія і зараз могуць залічвацца да закрытых звестак, у кнігах А. Ігнатава размова не вядзецца. Кніга “Кваліфікацыя палавых злачынстваў” прысвечана, як і можна зразумець па назве, юрыдычнай кваліфікацыі дзеянняў следствам, судом і некаторым аспектам крымінальнага працэсу. Хутчэй за ўсё, у часы СССР яна падпала пад грыф “для службовага карыстання” з-за таго, што там прыводзілася статыстыка па некаторых відах злачынстваў. Разам з тым, закрытым для шырокай публікі заставалася меркаванне А. Ігнатава пра неабходнасць адмены артыкула “мужаложства”. У адкрытым друку яно з’явілася ў 1988 годзе ў артыкуле для часопіса “Савецкая юстыцыя” [Игнатов 1988].

Вядома, што А. Ігнатаў не толькі выказваўся за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці ў сваіх кнігах, але і спрабаваў узняць гэтае пытанне ў 1979 годзе перад кіраўніцтвам Міністэрства ўнутраных спраў СССР (беспаспяхова) [Кон 2001: 196].

Спрабаваў выказацца ў друку за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці і сацыёлаг Ігар Кон. Артыкул на гэтую тэму ён напісаў у 1982 годзе па прапанове галоўнага рэдактара часопіса “Савецкая дзяржава і права” Міхаіла Піскоціна. Станоўчыя водгукі на артыкул далі знаныя навукоўцы: сэксапатолаг Георгій Васільчанка і псіхіятр Дзмітрый М. Ісаеў. Але артыкул не прайшоў абмеркавання на рэдкалегіі часопіса, як не прайшоў і ўзгадненне ў адміністрацыйным аддзеле ЦК КПСС. Спробу публікацыі артыкула І. Кон

апісаў у аўтабіяграфіі [Кон 2008: 334-336]. Ізноў жа, даступным шырокай публіцы меркаванне Ігара Кона стала толькі ў гады “перабудовы”.

Выказванні за дэкрыміналізацыю мужчынскай гомасэксуальнасці маглі з'явіцца ў 1960-я і 1970-я гады дзякуючы працэсам сэксуальнай лібералізацыі, якія ішлі ў СССР. Так, у 1955 годзе былі легалізаваныя аборты, а ў 1968 годзе дэмакратызавалася заканадаўства пра шлюб і сям'ю. Разам з тым, у грамадстве адбываліся змены ў сэксуальных паводзінах “знізу”. Сэксуальная рэвалюцыя ў СССР другой паловы 1980-х, калі інфармацыя пра палавое жыццё і кантрацэпцыю стала шырока даступнай, трапіла на гатовую да яе глебу. Пісьмовыя аўтабіяграфіі і вусныя інтэрв'ю з пецярбуржцамі, сабраныя калектывам расійскіх і фінскіх сацыёлагаў у 1990-я гады, указваюць на значна большую ступень сэксуальнай разняволенасці ў Ленінградзе 1960-1970-х, чым магло б падацца з-за афіцыйнага замоўчвання тэматыкі сэксуальнага жыцця. На гэтым фоне прыведзеныя вышэй экспертныя выказванні выглядаюць не галасамі дзівакаватых адзіночак, а праявамі ціхіх грамадскіх зменаў [Роткирх 2011: 31-38, 192-195, 268, 284].

Па-свойму “распрацоўвалі” праблематыку спецыялісты ад судовай медыцыны. Сярод іх не было чуваць галасоў за дэкрыміналізацыю. Першым прысвяціў судова-медыцынскай экспертызе “мужаложства” адну старонку ў сваім падручніку па судовай медыцыне галоўны судова-медыцынскі эксперт Міністэрства абароны СССР Міхаіл Аўдзееў. На яго меркаванне часта спасылаліся, калі трэба было вызначыць, якія менавіта дзеянні падумоўліваюцца пад тэрмінам “мужаложства”. М. Аўдзееў пісаў: “Пра мужаложства можна казаць толькі ў тым выпадку, калі мела месца ўвядзенне палавога члена ў заднепраходную адтуліну” [Авдеев 1959: 500].

Асобны артыкул “Судова-медыцынская экспертыза па справах аб мужаложстве” напісаў дацэнт Горкаўскага медыцынскага інстытута Мікалай Шалаеў. Артыкул насычаны тэхнічнымі падрабязнасцямі. Аўтар падкрэсліваў: “Асобы, якія падазраюцца ў мужаложстве, ліквідуюць сляды вычварнай палавой сувязі: абмываюць палавыя органы, замываюць плямы кала і спермы на вопратцы. Таму судова-медыцынская экспертыза іх павінна праводзіцца ў тэрміновым парадку” [Шалаев 1966: 31].

Найбольш падрабязна пра анатамічныя асаблівасці гомасэксуалаў пісаў супрацоўнік Бюро судова-медыцынскай экспертызы Масквы і

Маскоўскай вобласці І. Блюмін. Ён распрацаваў даволі падрабязную інструкцыю па “экспертызе гомасэксуалізму” [Блюмин 1967: 48-59] і нават абараніў кандыдацкую дысертацыю, цалкам прысвечаную судмедэкспертызе “мужаложства”. Дысертацыя насіла завуаляваную назву “Матэрыялы да экспертызы палавых станаў”. У пачатку аўтарэферата дысертацыі рытуальна кляймілася “распуста”:

“Сярод палавых злачынстваў па ступені сацыяльнай небяспекі і складанасці расследавання асобае месца займае мужаложства (гомасэксуалізм, педэрастыя).

У капіталістычных краінах гэты від палавога вычварэння атрымаў шырокае распаўсюджанне […].

Іншае становішча ў нашай краіне. Ліквідацыя прастытуцыі і парнаграфічнай літаратуры, якія культывуюць розныя палавыя вычварэнні, агульнае аздараўленне побыту савецкіх людзей і маральны кодэкс прывялі да таго, што ў Савецкім Саюзе выпадкі гомасэксуалізму і іншыя палавыя злачынствы сустракаюцца рэдка. Аднак, нягледзячы на гэта, яны ўяўляюць пэўную сацыяльную і грамадскую небяспеку” [Блюмин 1970: 3].

І. Блюмін абапіраўся на аўтараў другой паловы XIX стагоддзя (Амбруаза Тардзьё, Ёгана Каспера ды іншых) і выказваў шкадаванні, што з таго часу судовая экспертыза не займалася “мэтаскіраванымі даследаваннямі па дадзеным пытанні”. Судова-медыцынскі эксперт абыходзіў тое, што ў большасці краін Еўропы на час абароны яго дысертацыі гомасэксуальнасць была дэкрыміналізаваная.

Метады расследавання справаў па артыкуле “мужаложства” былі каротка апісаныя ў канцы 1950-х гадоў Георгіем Карновічам і Міхаілам Коршыкам [Карнович и Коршик 1958: 76-79].

Больш падрабязна яны раскрыты дацэнтам Саратаўскага юрыдычнага інстытута Міхаілам Хлынцовым [Хлынцов 1965: 141-157]. Наступная разгорнутая цытата дае ўяўленне пра тое, якім чынам узбуджаліся крымінальныя справы па “мужаложстве” ў расійскай правінцыі (Саратаўская, Куйбышаўская ды іншыя вобласці): “Справы аб мужаложстве сустракаюцца ў следчай практыцы вельмі рэдка. Гэта ў значнай ступені звязана са складанасцямі ў выяўленні такіх злачынстваў. […] Асаблівасці расследавання мужаложства заключаюцца ў тым, што сведкаў-відавочцаў такога злачынства

практычна не бывае, а ўдзельнікі яго (калі мужаложства здзяйсняецца паводле згоды абодвух бакоў) не схільны даводзіць свае дзеянні да агульнага ведама. […] Большай часткай нагодамі для ўзбуджэння крымінальнай справы аб мужаложстве з'яўляюцца заявы розных асоб, якія з нейкіх крыніц даведаліся пра факт мужаложства ці звярнулі ўвагу на незвычайныя стасункі паміж двума мужчынамі, на дзівакаватасць у іх паводзінах, на іх падазроныя схільнасці і звычкі, ці заспелі ўдзельнікаў мужаложства на месцы злачынства. Часам такія заявы могуць паступіць ад асоб, якіх тая ці іншая асоба схіляла да мужаложства альбо знаёмым якіх рабілася падобная прапанова" [Хлынцов 1965: 145-146]. На наступнай старонцы ізноў падкрэсліваецца роля пільных суседзяў у завядзенні крымінальных спраў супраць гомасэксуалаў: "Не рэдкія факты, калі самі заяўнікі, падазраючы кепскае ў паводзінах тых ці іншых асоб, пачынаюць прыглядацца да абставінаў сустрэч паміж падазраванымі, асабліва калі гэтыя асобы не маюць паміж сабой нічога агульнага, і паведамляюць у адпаведныя органы пра такую сустрэчу неадкладна, што дазваляе часам заспець злачынцаў на месцы злачынства" [Хлынцов 1965: 147].

### Крымінальная статыстыка: архіўныя крыніцы
### пра колькасць асуджаных за "мужаложства"

Як вядома, у СССР большая частка статыстыкі была сакрэтнай. Гэта тычылася і крымінальнай статыстыкі. Апублікаваных дадзеных пра абсалютную колькасць пакараных няма, але цэнзура дазволіла агучыць, што ў 1961-1973 гадах судзімасць па артыкуле 119 у БССР складала ад 0,02% да 0,7% ад ліку асуджаных за злачынствы супраць асобы [Горелик, Тишкевич 1976: 14].

Здаецца, упершыню (ў абсалютных лічбах) статыстыка асуджэнняў у СССР па артыкуле "мужаложства" была апублікавана Цііттам Вэйспакам у 1991 годзе. Гэтая статыстыка датычылася толькі Эстоніі, была толькі за 1960-1989 гады і паходзіла з архіву Міністэрства юстыцыі Эстонскай Рэспублікі [Veispak 1991: 112].

У расійскім перакладзе кнігі Дэна Хілі "Гомасэксуальная цяга ў рэвалюцыйнай Расіі" змешчаны невялікі дадатак пад назвай "Колькі ўсяго ахвяр закона супраць мужаложства?" [Хили 2008: 311-316]. У гэтым дадатку ангельскі даследчык прыводзіць архіўныя статыстычныя звесткі пра колькасць асуджаных па артыкуле "мужаложства" ў РСФСР за 1935-1950 (гэтыя звесткі ўрывачныя, няпоўныя) і пра колькасць асуджаных па артыкуле "мужаложства" ў СССР і

РСФСР за 1961-1982 гады. Таксама Хілі перадрукоўвае звесткі Джэймса Рыярдана па асуджэннях у СССР у 1987-1990 гадах і ў РСФСР у 1991 годзе (падрабязней дакладнасць гэтых звестак разглядаецца ніжэй).

Дэн Хілі карыстаўся пераважна статыстыкай Міністэрства юстыцыі СССР. У сваім даследаванні мы пайшлі па аналагічным шляху і звярнуліся да статыстыкі Міністэрства юстыцыі БССР, якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Крымінальная статыстыка БССР рассакрэчана толькі па 1960 год уключна. Даваенныя фонды наркамата юстыцыі захаваліся вельмі ўрывачна, статыстыка даваеннага часу не захавалася. Звесткі пра колькасць асуджаных па розных артыкулах крымінальнага кодэкса можна атрымаць з запоўненых бланкаў формы №10. У гэтых бланках, якія выраблялі ў Маскве і былі аднолькавымі для ўсяго СССР, была асобная графа для артыкула 154а КК РСФСР і адпаведных артыкулаў крымінальных кодэксаў іншых рэспублік. У фондзе Міністэрства юстыцыі БССР захоўваюцца штоквартальныя справаздачы з абласцей. У кожнай вобласці рабілася асобная справаздача па судах першай інстанцыі (“народных судах”) і асобная – па абласным судзе. Гэтыя справаздачы абагульняліся ў Міністэрстве юстыцыі ў квартальныя, а затым і гадавыя рэспубліканскія, якія высылаліся ў Міністэрства юстыцыі СССР у Маскву (копіі захоўваліся ў Менску). Па справаздачах формы №10 можна бачыць, у якім квартале і ў якой вобласці былі асуджаныя (ці апраўданыя, ці справы ў дачыненні да іх спыненыя) людзі па тым ці іншым артыкуле. Больш за тое, у форме №10 прыводзяцца звесткі пра прысуды, сацыяльнае паходжанне і ўзрост асуджаных і месца здзяйснення “злачынстваў” (горад ці вёска).

У статыстыцы не праводзіцца адрозненне паміж асуджанымі па першай і другой частках артыкула $235^{1}$ Крымінальнага кодэкса БССР. У большасці выпадкаў, аднак, колькасць асуджаных па першай і другой частках артыкула можна высветліць ускосна – праз працягласць пакарання.

Статыстыка першых паваенных гадоў недакладная — часта клеркі з абласных аддзелаў юстыцыі блыталі нумары артыкулаў ці ўпісвалі колькасць асуджаных па адным артыкуле ў графу асуджэнняў па іншым. У статыстычных бланках формы №10, якія распаўсюджваліся Наркаматам (з 1946 года — Міністэрствам) юстыцыі СССР, была асобная графа для асуджаных па артыкуле “мужаложства”. У друкаваных бланках указваўся нумар артыкула

Крымінальнага кодэкса РСФСР і прапаноўвалася ўпісаць ад рукі нумар адпаведнага артыкула крымінальнага кодэкса савецкай рэспублікі. Часта адпаведнікам артыкулу 154а КК РСФСР указваўся не артыкул $235^1$ КК БССР, але артыкул 235, 235а, 236 ці нейкі іншы. Адпаведна, асуджаныя па артыкуле $235^1$ маглі трапіць у графу "іншыя злачынствы супраць асобы".

Так ці іначай, але колькасць асуджаных у 1945-1960 гадах заставалася мізэрнай. Звяртае на сябе ўвагу, што ў некалькіх выпадках тэрмін зняволення асуджаных быў ніжэй за ніжні парог магчымага па артыкуле $235^1$ (тры гады). Верагодна, быў прыменены артыкул 51 КК БССР: "Калі суд прызнае мэтазгодным назначыць меру сацыяльнай аховы ніжэй ніжэйшай мяжы размеру, устаноўленага адпаведным артыкулам гэтага Кодэкса, або выбраць іншую менш цяжкую меру, не ўказаную ў гэтым артыкуле, то суд можа гэта зрабіць, але не інакш, як дакладна выклаўшы ў прыгаворы матывы змякчэння" [Крымінальны кодэкс 1957: 14]. Верагодна, гэтая самая норма была прыменёная ў 1958 годзе, калі па частцы 2 артыкула $235^1$ двое былі асуджаны Гомельскім абласным судом менш, чым на пяць гадоў зняволення.

Бачна, што ў пераважнай большасці выпадкаў месцам здзяйснення "злачынстваў" названыя гарады і рабочыя пасёлкі, а не сельская мясцовасць (большасць жыхароў Беларусі тады яшчэ жыла на вёсцы). Гэта можна звязаць з большай заўважнасцю гомасэксуальнасці ў гарадах (наяўнасць месцаў сустрэч гомасэксуалаў, зародкаў субкультуры).

У некалькіх выпадках артыкул $235^1$ быў прыменены да зняволеных. Гэта бачна з дакументаў па форме №11 ("Судзімасць за асобныя віды злачынстваў па галінах народнай гаспадаркі і дзяржаўнага кіравання"), у якіх асобна адзначана колькасць асоб, асуджаных за злачынствы, здзейсненыя ў месцах зняволення, у тым ліку па арт. 154а КК РСФСР і аналагічных артыкулах крымінальных кодэксаў іншых саюзных рэспублік. У гэтай форме таксама ўказвалася, хто здзейсніў злачынствы – зняволеныя ці работнікі месцаў зняволення. Па прысуджаных тэрмінах пазбаўлення свабоды (да пяці год) бачна, што прымянялася першая частка артыкула $235^1$. Можна меркаваць, што ён выкарыстоўваўся адміністрацыяй карных устаноў, каб прынізіць непакорных зняволеных і пакінуць іх у месцах пазбаўлення волі на больш працяглы тэрмін.

Табліца 1. Колькасць асуджаных па артыкуле 235[1] КК БССР (1945-1960 гады)

| Год | Колькасць асуджаных | Заўвагі | Крыніца |
|---|---|---|---|
| 1945 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 304 |
| 1946 | 1 | Асуджаны ў Брэсцкай вобласці ў 2 квартале 1946 г. да пазбаўлення волі тэрмінам 5 год, служачы, узрост ад 26 да 50 год, месца здзяйснення “злачынства” - сельская мясцовасць; яшчэ адзін чалавек апраўданы. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 305, арк. 57-57 адв., 119-119 адв. |
| 1947 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 306 |
| 1948 | 2 | Абое асуджаны ў першым квартале 1948 г. у Магілёўскай вобласці да пазбаўлення волі тэрмінам 5 год, абое ўзростам ад 26 да 50 год, месца здзяйснення “злачынства” - гарады і рабочыя пасёлкі, 1 з асуджаных – рабочы, 1 - “непрацоўны элемент”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 310, арк. 2-2 адв., 7-7 адв. |
| 1949 | 0 (1?) | Агульнарэспубліканскія справаздачы не паказваюць асуджаных, але справаздачы па Мінскай вобласці даюць 1 асуджанага ў першым квартале, які быў пазбаўлены свабоды на тэрмін звыш за 3 гады да 4 год, сацыяльная група - “служачыя і іх сем'і”, узрост ад 26 да 50 год, месца здзяйснення “злачынства” - “гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 313, арк. 17-17 адв., 260-260 адв. |
| 1950 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 315, 316 |
| 1951 | 1 | Асуджаны ў Палескай вобласці ў III квартале да пазбаўлення свабоды “звыш за 7 да 8 год уключна”, сацыяльная група - “служачыя і іх сем'і”, узрост ад 40 да 49 год, месца здзяйснення злачынства - “гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 323, арк. 94-94 адв.; тамсама, спр. 324, арк. 121-121 адв. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1952 | 2 | У І квартале ў Гродзенскай вобласці 1 апраўданы і 2 асуджаны. У адным выпадку - “пазбаўленне свабоды да аднаго года ўключна”, у другім - “пазбаўленне свабоды звыш 1 года да 2 гадоў уключна”. 1 асуджаны з сацыяльнай групы “рабочыя і іх сем'і”, 1 – з групы “іншыя”, аднаму - “ад 25 да 29 гадоў”, другому - “ад 30 да 39 гадоў”, 1 – член УЛКСМ, 1 раней быў судзімы за “аднародныя злачынствы”. Месца здзяйснення “злачынства”: у адным выпадку - “гарады і рабочыя пасёлкі”, у другім - “сельскія мясцовасці”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 330, арк. 12-12 адв.; тамсама, спр. 331, арк. 74-74 адв. |
| 1953 | 1 | Асуджаны ў Віцебскай вобласці ў IV квартале да “пазбаўлення свабоды звыш за 7 да 8 гадоў уключна”, сацыяльная група “рабочыя і члены іх сем’яў”, узрост “ад 18 да 19 гадоў”, раней судзімы “за рознародныя злачынствы”, месца здзяйснення злачынства - “гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 338, арк. 70-70 адв.; тамсама, спр. 339, арк. 84-84 адв. |
| 1954 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 346 |
| 1955 | 0 (1?) | Агульнарэспубліканскія справаздачы не паказваюць асуджаных, але справаздача па Гомельскай вобласці за IV квартал дае 1 асуджанага, які быў пазбаўлены свабоды на тэрмін звыш за 4 гады да 5 год уключна, сацыяльная група - “іншыя”, узрост ад 25 да 29 год, раней судзімы “за рознародныя злачынствы”, месца здзяйснення “злачынства” - “гарады і рабочыя пасёлкі”. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 352, арк. 73-73 адв., 135-135 адв. |
| 1956 | 4 | Усе 4 асуджаны ў Віцебскай вобласці да пазбаўлення свабоды звыш за 4 да 5 год уключна, раней судзімыя “за рознародныя злачынствы”, месцы здзяйснення “злачынстваў” - “гарады і рабочыя пасёлкі”, сацыяльная група - “іншыя”, узрост: “ад 18 да 19 год” - 1, “ад 25 да 29 год” - 3. 3 асуджаны ў ІІ квартале, 1 – у ІІІ квартале. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 358, арк. 25-25 адв., 43-43 адв., 122-122 адв. |
| 1957 | 4 | Трое асуджаны ў першым квартале ў Брэсцкай вобласці, усе трое – зняволеныя, 2 асуджаны да пазбаўлення свабоды “звыш за 3 да 4 год уключна”, 1 - “звыш за 4 да 5 год уключна”; узрост “ад 20 да 24 | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 364, арк. 1-1 адв., 28-28 адв.; |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | год” - 1, “ад 25 да 29 год” - 2.<br>Чацвёрты асуджаны ў другім квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды “звыш за 1 да 2 год уключна”, сацыяльная група - “рабочыя і члены іх сем'яў”, узрост “ад 40 да 49 год”, месца здзяйснення “злачынства” - “гарады і рабочыя пасёлкі”. | тамсама, спр. 365, арк. 1-1 адв., 24-24 адв., 144-144 адв. |
| 1958 | 6 | Двое асуджаны Гомельскім абласным судом у трэцім квартале па арт. 235[1] ч. 2 да пазбаўлення свабоды “звыш за 3 да 4 год уключна”, сацыяльная група - “іншыя”, узрост “ад 18 да 19 год” - 1, “ад 20 да 24 год” - 1, абодвух судзілі раней “за рознародныя злачынствы”, месца здзяйснення “злачынства” - “гарады і рабочыя пасёлкі”, час здзяйснення - “у дадзеным годзе”.<br>Яшчэ двое асуджаны ў чацвёртым квартале ў Мінскай вобласці, да пазбаўлення свабоды “звыш за 2 да 3 год уключна” - 1, “звыш за 4 да 5 год уключна” - 1, сацыяльная група “рабочыя і члены іх сем'яў” - 1, “служачыя і члены іх сем'яў” - 1, узрост “ад 25 да 29 год” - 1, “50 год і старэйшы” - 1, месца здзяйснення “ў гарадах і рабочых пасёлках” - 2, час здзяйснення “ў дадзеным годзе” - 2.<br>Таксама двое асуджаны ў чацвёртым квартале ў Магілёўскай вобласці да пазбаўлення свабоды “звыш за 4 да 5 год уключна”, абое з сацыяльнай групы “рабочыя і члены іх сем'яў”, абодвух судзілі раней “за рознародныя злачынствы”, узрост “ад 25 да 29 год” - 1, “ад 30 да 39 год” - 1, месца здзяйснення “ў гарадах і рабочых пасёлках” - 2, час здзяйснення “ў дадзеным годзе” - 2. | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 372, арк. 49-49 адв., 93-93 адв., 95-95 адв., 160-160 адв. |
| 1959 | 4 | Двое асуджаны ў першым квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды “звыш за 2 да 3 год уключна” - 1, “звыш за 4 да 5 год уключна” - 1, сацыяльная група “служачыя і члены іх сем'яў” - 1, “калгаснікі і члены іх сем'яў” - 1, узрост “ад 25 да 29 год” - 1, “ад 40 да 49 год” - 1, месца здзяйснення “ў гарадах і рабочых пасёлках” - 2, час здзяйснення “ў мінулым годзе” - 2.<br>Трэці асуджаны ў першым квартале ў Магілёўскай вобласці да пазбаўлення свабоды “звыш за 4 да 5 год | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 377, арк. 8-8 адв., 16-16 адв., 60-60 адв., 165-165 адв. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | уключна", сацыяльная група - "рабочыя і члены іх сем'яў", узрост "ад 18 да 19 год", месца здзяйснення - "у гарадах і рабочых пасёлках", час здзяйснення - "у мінулым годзе".<br>Чацвёрты асуджаны ў трэцім квартале ў Гомельскай вобласці да пазбаўлення свабоды "звыш за 7 да 8 год уключна", сацыяльная група - "рабочыя і члены іх сем'яў", "рабочы, які пакінуў работу", узрост "ад 25 да 29 год", быў судзімы раней "за аднародныя злачынствы", месца здзяйснення - "у сельскіх мясцовасцях", час здзяйснення - "у дадзеным годзе".<br>Адзін падсудны апраўданы ў трэцім квартале ў Гродзенскай вобласці. | |
| 1960 | 0 | | НАРБ, ф. 99, воп. 6, спр. 386 |

Карыстаючыся спасылкамі Дэна Хілі [Хили 2008: 316] на фонды Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (Государственный архив Российской Федерации, далей – ГАРФ), атрымалася знайсці статыстыку наконт асуджаных па Беларускай ССР з 1961 года і пазней.

Звесткі за 1961-1991 гады ўзятыя з дакументаў па форме №10а. Формы былі змененыя ў сувязі з увядзеннем у дзеянне ў 1961 годзе новых крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік. У гэтых дакументах няма дадзеных пра месцы здзяйснення "злачынстваў" (горад/вёска), прызначаныя пакаранні, узрост "злачынцаў" і сацыяльныя групы, з якіх яны паходзілі. У Маскве адкладаліся толькі справаздачы саюзных рэспублік, абласных справаздач туды не дасылалі, адпаведна, мы не можам лакалізаваць асуджаных па абласцях.

Дзеля параўнання тут прыводзяцца звесткі за 1961-1991 гады ў табліцы 2 не толькі па БССР, але таксама па СССР, РСФСР, Украінскай ССР, Літоўскай ССР і Малдаўскай ССР. З гэтых звестак можна бачыць, што былі агульнасаюзныя трэнды па колькасці асуджаных, але ў асобных саюзных рэспубліках у розныя гады можна пабачыць даволі значнае адхіленне ад іх. Відавочна, што на колькасць асуджаных уплывала пазіцыя мясцовага

кіраўніцтва міністэрства ўнутраных справаў, пракуратуры, камітэта дзяржбяспекі, а магчыма – і партыйных органаў[4].

Можна заўважыць, што колькасць асуджаных карэліруе з палітычнымі эпохамі. Так, у 1945-1954 гадах у сярэднім асуджаўся менш, чым адзін чалавек у год. За 1955-1964 гады – у сярэднім 4,7 асуджаных у год. За 1965-1974 гады – у сярэднім 18,6 асуджаных у год. За 1975-1984 гады – у сярэднім 28,3 асуджаных у год. За 1985-1990 гады – у сярэднім 18,5 асуджаных у год. Такім чынам, можна заўважыць, што ў познесталінскія гады карныя органы на такі экзатычны артыкул як "мужаложства" ўвагі амаль не звярталі. Перад імі стаялі больш пільныя задачы па так званай "барацьбе з бандытызмам", прымусовай калектывізацыі Заходняй Беларусі, прымусовым утрыманні сялян у калгасах, а рабочых на заводах і г. д. У гады хрушчоўскай "адлігі" колькасць асуджаных паступовa павялічваецца, каб у гады брэжнеўскага "застою" няўхільна нарастаць. Цікава, што ў гады гарбачоўскай "перабудовы" колькасць асуджаных змяншалася далёка не адразу і далёка не так хутка, як можна было б чакаць, сыходзячы з дэмакратычнай рыторыкі той эпохі. Інэрцыя ў паліцыі, пракуратуры і судах была дастаткова вялікая, каб працягваць асуджаць па артыкуле "мужаложства" нават за лічаныя месяцы да яго адмены. На жаль, статыстыка асуджэнняў па артыкуле 119 КК БССР/РБ за другую палову 1991 года, 1992 і 1993 гады і пачатак 1994 года застаецца закрытай.

У некаторыя гады можна пабачыць, што колькасць асуджаных істотна ўзрастала, але ўжо на наступны год спадала. Верагодна, гэта былі вынікі арганізаваных аблаў на гомасэксуалаў. На жаль, мы пакуль не можам суаднесці такія аблавы з дырэктыўнымі дакументамі міністэрства ўнутраных справаў ці кампартыі. Падобную дынаміку можна заўважыць па апублікаванай раней статыстыцы па Эстонскай ССР: 1967 год – 17 асуджаных, 1968 год – 1 асуджаны (за 1966 год няма дадзеных) [Veispak 1991: 112].

У Д. Хілі не прыведзена статыстыка па СССР і РСФСР за 1983-1986 гады: ці тое яму не хапіла часу на апрацоўку архіваў, ці тое ў той час, калі ён працаваў у

---

[4] Наконт рэгулявання партыяй крымінальных асуджэнняў па артыкуле "мужаложства" Ігар Кон узгадваў: "Адзін з членаў рэдкалегіі, былы начальнік ленінградскай міліцыі, а затым усімі паважаны прафесар (сапраўды добры спецыяліст і мілы чалавек), проста развёў рукамі ад здзіўлення: як Ігар Сямёнавіч наогул можа ўздымаць гэтае пытанне?! І распавёў, як у свой час ён сабраў вялікі матэрыял на ленінградскіх гомасэксуалаў, але ў абкаме партыі яму сказалі: «Ты што, хочаш зачыніць аркестр Філармоніі і Кіраўскі балет?!» Генералу давялося адступіць, але ён запаматаў крыўду, і нават пасля прачытання майго артыкула думка, што ў абкаме былі правы, а ён памыляўся, яго не наведала" [Кон 2008: 335-336].

архіве, дакументы за гэтыя гады яшчэ не былі рассакрэчаныя. Але акурат на гэтыя гады прыпадае пік асуджэнняў у СССР па артыкуле “мужаложства”: 1440 асуджаных у 1983-м годзе, 1516 – у 1984-м, 1620 – у 1985-м і 1455 – у 1986-м. У БССР пік асуджэнняў даводзіцца на 1977 год – 49 асуджаных.

Дарэчы сказаць, апублікаваныя Джэймсам Рыярданам [Riordan 1996: 160-161] і перадрукаваныя Дэнам Хілі лічбы асуджэнняў за 1987-1990 гады не адпавядаюць дадзеным з фонда Міністэрства юстыцыі СССР. Дж. Рыярдан у свой час абапіраўся на ўрыўкавыя звесткі, атрыманыя з розных крыніц (газеты “СПИД-инфо”, “Литературная газета” і справаздача Міжнароднай камісіі па правах чалавека для гомасэксуалаў і лесбіек), і да таго ж памылкова прыняў дадзеныя па РСФСР за дадзеныя па СССР у цэлым. Прыведзеныя ж у згаданай справаздачы Міжнароднай камісіі звесткі даставерныя; прынамсі, лічбы асуджэнняў па РСФСР за 1989 і 1990 гады супадаюць з лічбамі ў прагледжанай намі статыстыцы [Гессен 1994: 11].

Табліца 2. Колькасць асуджаных па артыкуле 119 КК БССР, артыкуле 121 КК РСФСР і аналагічных артыкулах крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік (1961-1991 гады)

| Год | Колькасць асуджаных у СССР | Колькасць асуджаных у РСФСР | Колькасць асуджаных ва Украінскай ССР | Колькасць асуджаных у БССР | Колькасць асуджаных у Літоўскай ССР | Колькасць асуджаных у Малдаўскай ССР | Крыніца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1961 | 705 | 464 | 50 | 10 | 19 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 58, л. 2, 37, 40 об., 42, 45 об., 47, 70 об., 71 об., 99, 103, 107, 127, 131 |
| 1962 | 767 | 530 | 42 | 1 | 3 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 69, л. 2, 150, 154, 158, 178, 182 |
| 1963 | 831 | 592 | 64 | 13 | 5 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 81, л. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1964 | 777 | 547 | 47 | 4 | 5 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 91, л. 2, 52, 56, 60, 80, 84 |
| 1965 | 627 | 393 | 59 | 5 | 4 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 102, л. 2, 50, 54, 58, 78, 82 |
| 1966 | 770 | 485 | 70 | 3 | 4 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 112, л. 2, 45, 51 об., 53, 73, 77 |
| 1967 | 940 | 617 | 68 | 25 | 3 | 1 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 128, л. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |
| 1968 | 756 | 453 | 65 | 20 | 9 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 141, л. 2, 47, 51, 55, 75, 79 |
| 1969 | 993 | 641 | 67 | 13 | 12 | 1 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 151, л. 2, 41, 45, 49, 69, 73 |
| 1970 | 1223 | 787 | 84 | 33 | 11 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 161, л. 2, 40, 44, 48, 68, 72 |
| 1971 | 1206 | 854 | 75 | 20 | 5 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 177, л. 2, 45, 49, 53, 73, 77 |
| 1972 | 1255 | 882 | 57 | 10 | 3 | 4 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 193, л. 2, 29, 33, 37, 57, 61 |
| 1973 | 1319 | 853 | 96 | 33 | 9 | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 205, л. 2, 26, 30, 34, 54, 58 |
| 1974 | 1355 | 883 | 95 | 24 | 11 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 221, л. 2, 29, 33, 37, 59, 63 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1975 | 1214 | 803 | 88 | 34 | 5 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 239, л. 2, 28, 32, 36, 56, 60 |
| 1976 | 1181 | 773 | 87 | 36 | 9 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 254, л. 2, 35, 39, 43, 63, 67 |
| 1977 | 1320 | 877 | 85 | 49 | 7 | 7 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 271, л. 2, 38, 42, 46, 66, 70 |
| 1978 | 1314 | 882 | 72 | 24 | 24 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 285, л. 2, 36, 40, 44, 64, 68 |
| 1979 | 1262 | 822 | 81 | 23 | 13 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 300, л. 2, 38, 42, 46, 66, 70 |
| 1980 | 1119 | 708 | 93 | 16 | 6 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 317, л. 2, 39, 43, 47, 67, 71 |
| 1981 | 1229 | 849 | 76 | 15 | 7 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 328, л. 2, 30, 34, 38, 58, 62 |
| 1982 | 1191 | 809 | 78 | 31 | 9 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 368, л. 2, 27, 31, 35, 55, 59 |
| 1983 | 1440 | 1012 | 95 | 37 | 14 | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 393, л. 2, 32, 37, 41, 61, 65 |
| 1984 | 1516 | 1091 | 120 | 18 | 10 | 5 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 427, л. 2, 24, 28, 32, 52, 56 |
| 1985 | 1620 | 1106 | 148 | 29 | 3 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 466, л. 2, 23, 27, 31, 51, 55 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1986 | 1455 | 1011 | 93 | 23 | 8 | 8 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 500, л. 2, 27, 31, 35, 55, 59 |
| 1987 | 1155 | 829 | 64 | 17 | 4 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 533, л. 2, 25, 29, 33, 53, 57 |
| 1988 | 831 | 592 | 39 | 13 | 4 | 6 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 555, л. 2, 26, 30, 34, 54, 58 |
| 1989 | 788 | 538 | 45 | 17 | 6 | 3 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 579, л. 2, 21, 25, 29, 49, 53 |
| 1990 | 732 | 497 | 43 | 12 | няма дадзеных | 2 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 605, л. 2, 19, 23, 27, 49 |
| 1991 (першае паўгоддзе) | 343 | 247 | 17 | 9 | няма дадзеных | 0 | ГАРФ, ф. Р9492, оп. 6, д. 650, л. 2, 9, 13, 18, 36 |

### Надаць гісторыі твар: ад лічбаў да лёсаў

Тое, як выглядалі крымінальныя справы па артыкуле “мужаложства”, мы пакуль не можам уявіць на матэрыялах БССР ці РСФСР. Да большасці гэтых справаў доступ закрыты, бо дзейнічае 75-гадовы тэрмін тайны асабістага жыцця асуджаных. Дэн Хілі ў свой час здолеў адшукаць у архівах дакументы васьмі судовых працэсаў за 1935-1941 гады, якія выкарыстаў пры напісанні сваёй манаграфіі [Хили 2008: 253-269]. Пазней Д. Хілі таксама атрымаў доступ да дзвюх крымінальных спраў (1951 і 1959 гадоў) па Ленінградскай вобласці і апублікаваў даволі падрабязны разбор іх [Healey 2012]. Больш свабодны доступ да крымінальных спраў такой катэгорыі ёсць у прыбалтыйскіх краінах.

Эстонскі мастак Янус Самма некалькі год даследуе жыццё гомасэксуалаў у Эстонскай ССР, у тым ліку крымінальны пераслед. Яго выстава “Непрыдатны для працы. Паданне пра старшыню” (куратар Эўджэніо Віола) была размешчана

ў эстонскім павільёне на венецыянскай біенале 2015 года. Выстава распавядала пра старшыню калгаса, якога ў 1960-я гады спачатку пазбавілі пасады і выключылі з партыі за гомасэксуальнасць, а потым і асудзілі па артыкуле 118 частка 1 КК ЭССР (“мужаложства”). З кнігі, якая суправаджала выставу Я. Саммы, можна атрымаць уяўленне пра тое, як выглядала справа па артыкуле “мужаложства” [Samma 2015]. Апублікавана хаця і меншая, але даволі прадстаўнічая частка крымінальнай справы: данос, з якога крымінальная справа была распачата, пратаколы допытаў сведак і абвінавачаных, пратакол вочнай стаўкі, акты судова-медыцынскай экспертызы (у тым ліку псіхіятрычнай), урыўкі з пратаколаў судовых паседжанняў, судовыя пастановы і іншыя дакументы.

Ад артыкула “мужаложства” ў СССР пацярпелі дзясяткі тысяч людзей. Сярод іх былі і вядомыя людзі, у тым ліку такія, біяграфія якіх звязаная з Беларуссю. Напрыклад, пецярбургскі археолаг Леў Клейн нарадзіўся ў 1927 годзе і пражыў да вайны ў Віцебску, хадзіў у школу з беларускай мовай навучання. Пасля вайны сям'я Клейнаў асела ў Гародні, і менавіта там скончыў педагагічны інстытут і пазней выкладаў у ім малодшы брат Льва Барыс Клейн. Пачынаў вучыцца ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце і Леў Клейн, але ў 1947 годзе вымушаны быў спешна перавесціся ў Ленінградскі ўніверсітэт з-за канфлікту з сакратаром Гарадзенскага гаркама партыі. У 1981 годзе Л. Клейн быў арыштаваны і асуджаны на тры гады зняволення па артыкуле “мужаложства”. Прыкладна ў той самы час у Ленінградзе былі арыштаваныя філолаг Канстанцін Азадоўскі (асуджаны нібыта за захоўванне наркотыкаў) і гісторык Арсеній Рагінскі (асуджаны нібыта за падлог дакументаў). Л. Клейн напалягае на тым, што прычынай яго арышту і асуджэння сталі яго занадта незалежныя і нязручныя для навуковага істэблішмента СССР (у першую чаргу, акадэміка Барыса Рыбакова) навуковыя погляды. Паводле звестак Л. Клейна, распараджэнне распраявіцца з ім паступіла ад загадчыка аддзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПСС Сяргея Трапезнікава [Клейн 2010: 322-332]. Спачатку Л. Клейна асудзілі да 3 гадоў зняволення, але ён здолеў дамагчыся адмены прысуду, і ў другі раз ён атрымаў тэрмін 1,5 гады, якія адбыў. У адрозненне ад Канстанціна Азадоўскага і Арсенія Рагінскага, Леў Клейн так і не быў рэабілітаваны. Яго пазбавілі навуковых ступеняў і званняў і ніколі іх не аднавілі – ён дамогся новых.

Іншая гучная справа па абвінавачванні ў “мужаложстве” – справа кінарэжысёра Сяргея Параджанава, якога арыштавалі ў Кіеве ў снежні 1973 года

і асудзілі на 5 год зняволення. С. Параджанаў быў амніставаны і выпушчаны на год раней за заканчэнне тэрміну пад ціскам міжнароднай артыстычнай грамадскасці. Паводле легенды, вырашальную ролю ў датэрміновым вызваленні С. Параджанава адыграў Луі Арагон, які асабіста звярнуўся да Леаніда Брэжнева з просьбай вызваліць рэжысёра. Да арышту ў С. Параджанава былі канфлікты з уладамі з-за яго незалежнага характару. Нягледзячы на міжнародную вядомасць, яму не давалі здымаць фільмы. З Беларуссю справа С. Параджанава звязаная наступным чынам: 1 снежня 1971 года ў Менску прайшла творчая сустрэча з Сяргеем Параджанавым, арганізаваная дзеля прагляду яго фільма “Саят-Нава” (“Колер граната”), якога не было ў шырокім пракаце. Пасля паказу фільма рэжысёр выступіў з даволі доўгай прамовай, у якой рэзка выказваўся пра кіраўніцтва Дзяржкіно СССР, кампартыі Арменіі і кампартыі Украіны [Белоусов 2005]. Прамова была запісана супрацоўнікамі КДБ Беларускай ССР, а ў далейшым яе стэнаграма трапіла ў Маскву, у КДБ СССР і ЦК КПСС, адкуль была перасланая ў ЦК кампартыі Украіны [Григорян 2011: 191-194]. Меліся за С. Параджанавым і іншыя палітычныя “грахі”, таму яго зняволенне лічаць выкліканым палітычнымі прычынамі.

Нам невядома, каб нехта раней у Беларусі ставіў пытанне пра рэабілітацыю людзей, асуджаных па першай частцы артыкула “мужаложства” Крымінальнага кодэксу Беларускай ССР (стасункі па ўзаемнай згодзе паміж мужчынамі, якія дасягнулі 18 гадоў). Падаецца відавочным, што такая рэабілітацыя, з верагоднай далейшай выплатай кампенсацый былым асуджаным і іх сем'ям, неабходная. Пры цяперашнім палітычным рэжыме гэта можа здавацца фантастычным, але на выпадак змены палітычнага рэжыму неабходна мець распрацаваны падыход да праблемы.

Шмат часу спатрэбілася, каб былі прызнаныя ахвярамі нацысцкага тэрору гомасэксуалы, якія ў 1933-1945 гадах загінулі ці трапілі ў канцэнтрацыйныя лагеры на тэрыторыях, кантраляваных Трэцім Райхам. Артыкул 175 крымінальнага кодэксу, уведзены яшчэ за прускім часам, працягваў дзейнічаць у абедзьвюх частках Германіі і пасля Другой сусветнай вайны. Зараз плануецца рэабілітаваць пацярпелых ад артыкула 175 пасля 1945 года [Bosold, Brill und Weitz 2015; Schwules Museum 2004]. Нямецкі вопыт можна вывучаць і пераймаць.

## Медычны дыскурс пра «палавыя вычварэнні» ў СССР

Перад тым, як прыступіць да разгляду прадстаўленых у спецыяльнай літаратуры поглядаў савецкай сэксапаталогіі, трэба зрабіць агаворку, што аўтар брашуры – гісторык, а не псіхіятр і не псіхолаг. Такім чынам, погляд аўтара дадзенага тэкста на сэксалогію і сэксапаталогію – гэта погляд дылетанта, што, аднак, можа мець не толькі адмоўны, але і станоўчы бок. Агляд збоку дазваляе заўважыць пэўныя нюансы, не асабліва істотныя для самой дысцыпліны, тое, што з'яўляецца для ўдзельнікаў дыскурсу нечым банальным, тым, што само сабой падумоўліваецца і не патрабуе прагаворвання.

Гомасэксуальнасць у псіхіятрычным і сэксапаталагічным дыскурсе

Крымінальным пераследам дыскрымінацыя гомасэксуалаў, вядома, не вычэрпвалася. У прыватнасці, ствараўся вобраз гомасэксуалаў як "хворых", яны паталагізаваліся. Апошняе тычылася ўжо не толькі мужчын, але і жанчын.

У 1980-я гады на тэрыторыі Беларусі дзейнічала Міжнародная статыстычная класіфікацыя хваробаў, траўмаў і прычын смерці 9-га перагляду, "адаптаваная" для выкарыстання ў СССР. У ёй змяшчаўся і пункт 302 "полавыя вычварэнні і парушэнні", у адпаведнасці з якім "вычварэннямі і парушэннямі" лічыліся "гомасэксуалізм" (302.0), "скаталожніцтва" (302.1), "педафілія" (302.2), "трансвестызм" (302.3), "эксгібіцыянізм" (302.4), "транссэксуалізм" (302.5), "парушэнне псіхасэксуальнай індывідуальнасці" (302.6), "фрыгіднасць і імпатэнцыя" (302.7), "іншыя полавыя вычварэнні", у тым ліку "фетышызм, мазахізм, садызм" (302.8), "неўдакладненыя полавыя вычварэнні і парушэнні" (302.9) [Снежневский 1983, т. 1: 474].

У адпаведнасці з традыцыяй, якая ўзыходзіць да кнігі "Сэксуальная псіхапатыя" ("Psychopathia Sexualis") Рыхарда Крафт-Эбінга (Richard Freiherr von Krafft-Ebing, 1840-1902), псіхіятрыя СССР звязвала гомасэксуальнасць з псіхапатыямі. У 1960-я гады дэбаты вяліся вакол таго, ці з'яўляецца гомасэксуальнасць асобнай псіхапатыяй: "Атрыманыя дадзеныя паказалі, што гомасэксуалісткі ў большасці выпадкаў з'яўляюцца псіхапатычнымі асобамі, аднак не ўтвараюць якой-небудзь адзінай асобай групы псіхапатый" [Деревинская 1967].

У познезастойным двухтомным дапаможніку па псіхіятрыі пад рэдакцыяй найбольш уплывовага ў СССР псіхіятра акадэміка Андрэя Сняжнеўскага "палавыя вычварэнні" адназначна змяшчаліся сярод

псіхапатый. “Палавыя вычварэнні не спецыфічныя для якой-небудзь групы анамальных асоб; яны узнікаюць у дынаміцы розных відаў псіхапатый. Палавыя перверсіі магчымыя пры шэрагу псіхічных захворванняў. […] Часцей за ўсё сэксуальныя вычварэнні назіраюцца ў асоб з псіхічнымі анамаліямі (у гістэрыкаў, псіхастэнікаў, узбудлівых, шызоідаў ды іншых псіхапатычных асоб), а таксама пры некаторых псіхічных захворваннях (шызафрэнія, эпілепсія, старэчая прыдуркаватасць ды інш.)” [Снежневский 1983, т. 2: 417].

Паміж крымінальным пераследам гомасэксуальнасці і яе вызначэннем як хваробы ўзнікала відавочная супярэчнасць, якую заўважылі расійскія юрысты (самым знаным з якіх быў Уладзімір Набокаў) яшчэ ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя [Хили, 2008: 135-136]. Калі двое здзяйсняюць акт “мужаложства” ў выніку свайго хворага стану, то ім трэба аказваць медычную дапамогу, а не змяшчаць у пенітэнцыярныя ўстановы.

Сярод савецкіх сэксапатолагаў паціху выспявалі ідэі дэкрыміналізацыі гомасэксуальнасці. Адкрыта іх сталі выказваць у гады перабудовы, а раней мела месца своеасаблівая барацьба з пенітэнцыярнай сістэмай за “кліента”. Цікавай з’яўляецца гісторыя, якую выклаў судовы псіхіятр Косараў, супрацоўнік Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута судовай псіхіятрыі імя Уладзіміра Сербскага [Косарев 1967]. У гэтым выпадку мужчына, які адбываў пакаранне па артыкуле 121 (“мужаложства”) КК РСФСР, пісаў лісты ў органы аховы здароўя і дамогся шпіталізацыі. У далейшым яму быў пастаўлены псіхіатрычны дыягназ, і ў месцы пазбаўлення волі ён не вярнуўся. Той самы аўтар спасылаецца на факт дэкрыміналізацыі гомасэксуальнасці ў Чэхаславакіі ў 1962 годзе і згадвае, што “на 3-ім Берлінскім судова-псіхіятрычным сімпозіуме выказваліся скептычныя заўвагі наконт эфектыўнасці псіхатэрапіі пры гомасэксуалізме” [Косарев 1967: 293].

Сэксалогія і сэксапаталогія ў СССР да перабудовы існавала ў абмежаваным выглядзе. Колькасць публікацый і іх абег былі абмежаванымі. Замежная літаратура па тэматыцы трапляла ў СССР з вялікімі цяжкасцямі (нават да навукоўцаў з афіцыйным статусам не даходзілі пасылкі з літаратурай). У выдадзеных у БССР сэксалагічных публікацыях гомасэксуальнасць наогул замоўчваецца [напрыклад: Владин и Капустин 1981]. Аднак у Беларусі цыркулявалі публікацыі, выдадзеныя ў іншых рэспубліках СССР (Расіі, Украіне, Казахстане).

Пра ўзровень развіцця савецкай сэксалогіі і сэксапаталогіі можа сказаць тое, што ў 1970-я гады яшчэ можна было сустрэць меркаванне, што мастурбацыя і фантазаванне на эратычныя тэмы – перверсіі [Аптер 1974: 143]. Той самы аўтар у якасці "палавой ненармальнасці" прыводзіць і "пікацызм", пры якім "задавальненне з аб'ектам іншага полу дасягаецца не натуральным шляхам, а праз іншыя адтуліны і часткі цела". Да праяў пікацызму залічваліся "coitus per oris, coitus per anum, intermamma, а таксама cunnilingvus, penilinctio, anilinctio" [Аптер, 1974: 141]. Для неспрактыкаваных у лаціне: маюцца на ўвазе аральны сэкс розных відаў, анальны сэкс і пранікненне пеніса паміж жаночых грудзей.

Сэксапаталагічная літаратура, якая выдавалася ў СССР, падвяргалася не толькі самацэнзуры, але і знешняй цэнзуры, прычым цэнзарамі былі чыноўнікі ад ідэалогіі, а не псіхіятры. З перакладных кніг выключаліся пэўныя раздзелы, часта згадванне гомасэксуальнасці было немагчымым менавіта з-за цэнзурных перашкод. Так, вядомы расійскі псіхіятр Дзмітрый Д. Ісаеў (Санкт-Пецярбург) указаў мне, што з кнігі сэксолага з ГДР Зігфрыда Шнабля (Siegfried Schnabl) "Мужчына і жанчына: інтымныя стасункі", пераклад якой выйшаў у Кішынёве ў 1982 годзе, выкінулі прысвечаны гомасэксуальнасці раздзел. Верагодна, гэта было зроблена з прычыны таго, што ў ГДР гомасэксуальнасць была дэкрыміналізавана яшчэ ў 1968 годзе і ў цэлым стаўленне да гомасэксуалаў было нашмат больш ліберальным. Праўда, пра гэтае "скарачэнне" кнігі засталася згадка ў прадмове Абрама Свядашча да яе перакладу: "Пры перакладзе кнігі на расійскую мову выключаны раздзел, прысвечаны палавым вычварэнням, а таксама бібліяграфія прац, якія выйшлі на нямецкай мове" [Шнабль 1982: 6].

Цэнзуру сэксалагічнай літаратуры ў доступе да яе і ў выдавецкай практыцы СССР даволі падрабязна апісаў Ігар Кон [Кон 2010: 277-280, 298-315]. "Ды што там Фройд! Савецкія кнігі па сэксапаталогіі ў навуковых бібліятэках – у звычайных бібліятэках такіх кніг зусім не было! – не выдаваліся нават лекарам без спецыяльнага ліста з месца працы, які завяраў, што таварыш гэткі прафесійна займаецца сэксапаталогіяй, а не проста задавальняе сваю нездаровую цікаўнасць. Гэта спынілася толькі пасля таго, як ужо ў эпоху "перабудовы і галоснасці" я высмеяў такую практыку на старонках тэарэтычнага часопіса ЦК КПСС "Коммунист". Раней гэтага нідзе б

не надрукавалі – існаванне цэнзуры і яе парадкі былі гэткай самай тайнай, як і сэкс” [Кон 2010: 279]. Дадам, што нават у гады перабудовы да лекараў у СССР не даходзіла дасланая поштай літаратура па сэксалогіі – цэнзура вымала яе як парнаграфічную [Исаев 1994: 75].

Аб тым, наколькі незадаволеным быў попыт на сэксалагічную літаратуру ў СССР, сведчаць самвыдавецкія копіі кніг, якія раней легальна выйшлі ў Савецкім Саюзе. Адзін з такіх артэфактаў, самаробная копія перакладной кнігі польскага сэксолага Казіміра Імеліньскага “Псіхагігіена сэксуальнага жыцця” (расійскі пераклад выйшаў у выдавецтве “Медыцына”), захоўваецца ў калекцыі аўтара брашуры [Имелинский 1973].

Партыйныя органы змяшчалі сэксапаталогію ў даволі вузкія рамкі, калі навукоўцы былі вымушаны даводзіць, што “ў нашай краіне няма тых сацыяльных фактараў, якія прыводзілі да распаўсюджання і развіцця шматлікіх полавых ненармальнасцяў у дарэвалюцыйны час. Падвышэнне культуры насельніцтва, прафілактычны кірунак савецкай аховы здароўя, ліквідацыя прастытуцыі, аздараўленне побыту, паляпшэнне жыццёвых умоў, санітарна-гігіенічныя захады, забарона парнаграфічнай літаратуры прывялі да рэзкага змяншэння полавых ненармальнасцяў” [Аптер 1974: 135].

Савецкая статыстыка (якая, аднак, рэдка прыводзіла канкрэтныя лічбы) пастулявала, што ў той час, як у капіталістычных краінах развіваюцца палавыя ненармальнасці, у СССР “дадзеныя пра колькасць зваротаў у лячэбныя ўстановы з нагоды розных форм палавых ненармальнасцяў сведчаць пра значнае змяншэнне гэтых захворванняў за апошнія 20 гадоў. У параўнанні з 20-мі і 30-мі гадамі колькасць асоб, якія звярталіся па медычную дапамогу з прычыны перверсій, зменшылася ў 10 разоў, у прыватнасці, з прычыны гомасэксуалізму – у 6 разоў” [Аптер, 1974: 135]. Апошняя лічба – не дзіва, калі прыгадаць, што ў 1920-я гады мужчынская гомасэксуальнасць не была крымiналізавана. Першая ж лічба можа сведчыць пра поўнае табу на абмеркаванне сэксу, пры якім цяжка было даведацца пра само існаванне сэксолагаў ці сэксапатолагаў, і пра недавер да сістэмы аховы здароўя.

Цікава, што чалавек, які падпісаўся пад вышэйпрыведзенымі цытатамі, быў знаёмы з сучаснай яму заходняй літаратурай, на якую спасылаўся, але вызначэнні ўсё адно даваў паводле “Сэксуальнай псіхапатыі” Рыхарда Крафт-Эбінга.

Вынікам сталінскіх гадоў было поўнае замоўчванне сэксуальнасці як такой. “Сэксуальнасць, эротыка і ўсё, што з імі звязана, падаваліся выключна ў адмоўнай танальнасці, як нешта варожае сацыяльнаму парадку, сям’і, культуры і маральнасці” [Кон 2010: 275]. Нават навуковыя даследаванні па “палавой” тэматыцы былі немагчымымі. Толькі ў другой палове 1960-х гадоў з’яўляюцца працы, прысвечаныя сэксуальнасці. Пры гэтым лічылася, што “нармальную”, “беспраблемную” сэксуальнасць апісваць не мае сэнсу, увага надзялялася таму, што ўспрымалася як паталогія. “Важным дасягненнем 1960-1970 гг. было нараджэнне медычнай сэксалогіі, якая атрымала ў СССР імя “сэксапаталогіі”. Гэтая назва, пад якой мелася на ўвазе, што “нармальная” сэксуальнасць беспраблемная, з ёй усё ясна, а той, у каго праблемы ёсць, павінен аддацца на волю лекараў, сімптаматычная” [Кон 2010: 302].

У пералічаных вышэй выданнях разглядалася як мужчынская, так і жаночая “дэвіянтная” сэксуальнасць. Ранняй працай, прысвечанай жаночай гомасэксуальнасці, была кандыдацкая дысертацыя Лізаветы Дзеравінскай [Деревинская 1965]. Пра друк яе ў якасці манаграфіі тады не магла ісці мова. Пазней матэрыялы дысертацыі выкарыстаў для падрыхтоўкі сваёй кнігі “Жаночая сэксапаталогія” Абрам Свядашч [Свядощ 1974]. Як і аўтары многіх ранейшых і пазнейшых працаў, Л. Дзеравінская падзяляе лесбіек на “актыўных” і “пасіўных”. Апрача фальклорнай традыцыі, тут адыграла ролю тое, што большасць жанчын, якіх даследавала Л. Дзеравінская, былі зняволенымі ў калоніі і гралі там пэўныя сацыяльныя ролі. Дэн Хілі звяртае ўвагу, што падзел гомасэксуальных людзей на “актыўных” і “пасіўных” быў характэрны і для савецкай псіхіятрыі 1920-х гадоў [Хили 2008: 179-181].

“Лячэнне” гомасэксуальнасці

У сэксапаталогіі СССР існавалі розныя погляды на магчымасць “лячэння” гомасэксуалаў. Некаторыя аўтары адкрыта выказвалі сумневы ў прынцыповай магчымасці “лячыць” гомасэксуальнасць. Многія пісалі пра прынцыповую магчымасць “лячэння”, але самі такое не практыкавалі.

Л. Дзеравінская прапанавала схему лячэння ад “жаночага гомасэксуалізму”, але не прывяла звестак, наколькі такая схема была паспяховай у яе ўласнай практыцы [Деревинская 1965: 12-14]. У больш познім артыкуле (у

суаўтарстве з Абрамам Свядашчам) Лізавета Дзеравінская расплывіста пісала: “Станоўчыя вынікі ад прымянення гэтага метада назіраліся намі ў жанчын у выпадку пасіўнай формы гомасэксуалізму” [Свядощ и Деревинская 1967: 125].

Некаторыя аўтары рапартавалі пра свае поспехі ў “лячэнні”. Так, Ёган Аптэр спрабаваў “лячыць” 122 гомасэксуалы: 96 мужчын і 26 жанчын. Ён сцвярджаў, што “ў частцы выпадкаў пры спрыяльных умовах мікрасацыяльнага асяроддзя, пры магчымасці выбару гетэрасэксуальнага палавога аб’екта ўдалася поўнасцю пераключыць палавую схільнасць на гэты аб’ект і дапамагчы вылечанаму пацыенту знайсці сваё шчасце ў шлюбе” [Аптер 1974: 149]. Уладзімір Андрыянаў сцвярджаў, што праведзеная ім псіхатэрапія 5 гомасэксуалаў трансфармавала “татальную гомасэксуальную накіраванасць лібіда ў бісэксуальную ў 4 хворых, прычым у 2 гетэрасэксуальная схільнасць стала дамінуючай” [Андрианов 1968: 425].

Быў прыхільнікам “лячэння” і Абрам Свядашч. У сваёй кнізе “Жаночая сэксапаталогія” ён прыводзіць некалькі метадаў “тэрапіі”. Так, адзін з іх – “умоўнарэфлекторная тэрапія гомасэксуалізму” – заключаўся ў тым, што ахвяры давалі апамарфін (сродак, які выклікае ваніты), а потым паказвалі фатаграфію гомасэксуальнага партнёра ці прапаноўвалі ўяўляць сабе гомасэксуальныя стасункі [Свядощ 1974: 164].

Як падаецца, падобнымі метадамі можна “лячыць” і ад гетэрасэксуальнасці. “Лячэнне” гомасэксуальнасці пры бліжэйшым разглядзе аказваецца падобным на “лячэнне” іншадумства – хімічнымі сродкамі падаўляюць волю чалавека (ці запускаюць нейкія біяхімічныя рэакцыі), а затым імкнуцца навязаць яму (ёй) пэўны лад думак / пэўныя рэфлексы. У дачыненні да змяшчэння як палітычных дысідэнтаў, так і гомасэксуалаў у псіхіятрычныя стацыянары выкарыстоўваўся тэрмін “карная псіхіятрыя” [Гессен 1994: 16]. Раней было адзначана, што для “лячэння” гомасэксуальнасці актыўна выкарыстоўваўся аміназін [Хили 2008: 293-294, 472]. Напрыклад, лячэнне аміназінам прапаноўвалі Абрам Свядашч [Свядощ 1974: 165-166] і Лізавета Дзеравінская [Деревинская 1965: 14]. Пры гэтым метадзе аміназін выкарыстоўвалі, каб часова падавіць палавую цягу, і адначасова праводзіць псіхатэрапеўтычныя гутаркі і “сеансы намовы на яве, пад час якіх навяваецца спачатку поўная абыякавасць да партнёршы, а затым і агіда да гомасэксуальнай актыўнасці”. Затым навяваліся “цікавасць да мужчын” думкі пра “сямейнае

шчасце” і жаданне “мець дзяцей”. Аміназін стаў знакамітым праз выкарыстанне яго ў карнай псіхіятрыі СССР для падаўлення іншадумства [Подрабинек 1979].

Асаблівую вядомасць атрымаў псіхіятр з горада Горкага (Ніжняга Ноўгарада) Ян Голанд. Ён апублікаваў даволі шмат артыкулаў, у якіх рапартаваў пра свае поспехі ў справе “лячэння” гомасэксуальнасці [напрыклад, Голанд 1968; Голанд 1972]. Спосабы “лячэння” гомасэксуальнасці, якія прапаноўваў Я. Голанд, былі адносна “гуманнымі”. Так, ён не выкарыстоўваў хімічныя лекавыя сродкі, не шпіталізаваў сваіх пацыентаў. Для “прывіцця” гетэрасэксуальнасці Янам Голандам выкарыстоўваліся гутаркі з лекарам, гіпноз, аўтатрэнінг. Цікава, што ў адрозненне ад А. Свядашча, Я. Голанд не спрабаваў фармаваць агіду да гомасэксуальнасці: “Наяўнасць у структуры паталагічнай цягі пры гомасэксуалізме асабовага кампанента, часам высокаразвітага, які ўздымаецца да вышыняў сапраўднага кахання і сяброўства, патрабуе асабліва далікатнага падыходу ў першым этапе. У прыватнасці, пагэтаму мы прывіваем пацыенту не агіду да неадэкватнага аб’екта (бо для яго і пачуццёвы, і асабовы кампаненты злітыя ў цэлае), а менавіта спакойнае абыякавае стаўленне” [Голанд 1973: 183]. Апрача гомасэксуальнасці, Я. Голанд спрабаваў “лячыць” таксама “фетышызм, трансвестызм, візіянізм, эксгібіцыянізм, педафілію” [Голанд 1973: 184].

Непасрэдным папярэднікам і настаўнікам Яна Голанда быў Мікалай Іваноў, які працаваў у Іркуцку, а пазней у Горкім. М. Іваноў меў даволі вялікі досвед у “лячэнні” гомасэксуальнасці. У сваю чаргу, ён абапіраўся на досвед старэйшага калегі па Іркуцку Ігара Сумбаева. Як сведчыць Арон Белкін, Ігар Сумбаеў і Мікалай Іваноў займаліся “лячэннем” гомасэксуальнасці ўжо ў познесталінскія гады [Белкин 2000: 265-268, 283]. Курсы псіхатэрапіі былі працяглымі і не прадугледжвалі шпіталізацыі. Улічваючы ўзровень сталінісцкай гамафобіі і разнастайнай іншай ксенафобіі, гэта патэнцыйна магло прыцягнуць да псіхатэрапеўтаў непрыемнасці і патрабавала пэўнай смеласці. На жаль, па тэме псіхатэрапіі гомасэксуальнасці названыя аўтары пакінулі зусім няшмат публікацый. Найбольш даступнай была і застаецца кніга М. Іванова “Пытанні псіхатэрапіі функцыянальных сэксуальных разладаў”, у якой адзін з раздзелаў прысвечаны “сэксуальным перверсіям”, у першую чаргу гомасэксуальнасці [Иванов 1966: 128-139].

У двухтомніку “Прыватная сэксапаталогія” Георгій Васільчанка падтрымлівае ідэі Мікалая Іванова і Яна Голанда ў тэорыі [Васильченко 1983, т. 2: 109-114]. Але характэрна, што на практыцы ён “лячэннем” гомасэксуальнасці не займаўся.

Варта адзначыць, што ўсе савецкія сэксапатолагі – прыхільнікі “лячэння” гомасэксуальнасці, у тым ліку і Ян Голанд, пісалі, што для паспяховасці “лячэння” зусім неабходнае жаданне пацыента “вылечыцца”. Іншымі словамі, у пацыента да візіта ў кабінет псіхатэрапеўта-сэксапатолага павінны быць сфармаваны “адмоўнае эмацыйнае стаўленне да свайго разладу, страх перад яго сацыяльнымі наступствамі, усведамленне прыніжэння сацыяльнай годнасці асобы фактам наяўнасці перверсіі” [Голанд 1973: 181]. Тых, хто сам не хацеў “лячыцца”, аўтары савецкіх кніг па сэксапаталогіі “лячыць” не рэкамендавалі [напрыклад: Васильченко 1983, т. 2: 99, 109, 114]. Праведзенае Франчэскай Стэлай вуснагістарычнае даследаванне паказала, што ў СССР лекары хаця і ўспрымалі лесбіек як “паталагічных” ці “хворых” асоб, але рэдка рабілі спробы лячыць іх прымусова [Стелла 2014: 236-237; Stella 2015: 47-49]. Натуральна, жаданне “вылечыцца” фармавалася пад уплывам гетэрасэксісцкага асяроддзя, але важна, што псіхатэрапеўты яго фармаваннем не займаліся.

А ў калектыўнай манаграфіі трох спецыялістаў “Функцыянальная жаночая сэксапаталогія” амаль незавуаліравана выказваецца думка пра немагчымасць “лячэння” гомасэксуальнасці [Здравомыслов, Анисимова и Либих 1985: 189-191]. Праўда, кніга гэтая выйшла ў Алма-Аце, і не таму, што аўтары там жылі (Сяргей Лібіх, напрыклад, жыў і працаваў у Ленінградзе), а таму, што там было магчыма прайсці цэнзуру.

Сэксапатолагі з СССР спрабавалі “лячыць” не толькі гомасэксуальнасць, але і іншыя “палавыя вычварэнні”. Некаторыя з клінічных выпадкаў былі апублікаваныя. Так, Ёган Аптэр прыводзіў клінічныя прыклады фетышызму (не ўказана, ці праводзілася тэрапія), мазахізму (з паспяховай тэрапіяй) і BDSM-пары (“садыстка” і “мазахіст”, тэрапія праводзілася толькі ў дачыненні да мужчыны). Цікава, што ў апошнім выпадку, калі меркаваць з апісання, стасункі развіваліся па поўнай узаемнай згодзе, то бок адпавядаюць сучаснаму вызначэнню “нормы” ў сэксуальных стасунках [Аптер 1974: 153-155].

## Іншыя выпадкі сэксуальна-гендэрнай ненарматыўнасці: інтэрсэксуальнасць і транссэксуальнасць

Інтэрсэксуальныя людзі атрымлівалі значна больш спагады ад медыцыны СССР, чым гомасэксуальныя. У нейкай ступені гэта тлумачылася тым, што яны былі даменам не сэксапаталогіі, а міждысцыплінарных даследаванняў, цэнтральнымі дысцыплінамі ў якіх былі эндакрыналогія, генэтыка і хірургія. Выкарыстоўваўся сам тэрмін "інтэрсэксуальнасць". Інтэрсэксуалаў, праўда, называлі "хворымі", але ўжо ў 1960-я гады ўяўленні пра пол былі дастаткова развітымі: "Паняцце "сапраўдны пол" выявілася медычна няслушным, бо генетычна вялікая колькасць хворых адрозніваецца і ад мужчын, і ад жанчын" [Либерман 1966: 3]. Што праўда, лічылася абсалютна неабходным па сацыяльных прычынах абавязкова "прыпісаць" інтэрсэксуала або да мужчын, або да жанчын; магчымасць нявызначанасці гендэра або ўвядзення трэцяга гендэра не разглядалася. Шмат увагі надавалася самасвядомасці інтэрсэксуалаў, накірунак іх лячэння і змена пашпартнага пола (або пакіданне яго ранейшым) залежылі ў першую чаргу ад жадання пацыента (калі той быў у свядомым веку): "Варта мець на ўвазе, што назалагічны дыягназ зусім не мае за мэту дыягназ полу, у якім варта выхоўваць дзіця, і зусім не прэтэндуе на тое, каб вызначыць "сапраўдны пол", бо пол чалавека з'яўляецца часткай яго фенатыпу. У сувязі з гэтым вызначэнне таго ці іншага захворвання важна для прагнозу і выбару метаду лячэння, але сам метад лячэння і выбар полу вызначаюцца далёка не толькі назалагічна, але і сацыяльна (узрост хворага, яго пашпартны пол)" [Либерман 1966: 179]. Паводле меркавання Леаніда Лібермана, "псіхасэксуальная арыентацыя залежыць ад выхавання і пашпартнага пола" [Либерман 1966: 194]. Названы аўтар лічыў, што для фармавання гендэрнай і сэксуальнай ідэнтычнасці чалавека прынцыповае значэнне маюць выхаванне і прыпісаны пры нараджэнні пашпартны пол, а генетычныя і гарманальныя чыннікі з'яўляюцца другаснымі.

Пра некаторыя разнавіднасці інтэрсэксуальнасці, аб'яднаныя тэрмінам "гермафрадытызм"*, напісала манаграфію супрацоўніца Інстытута эксперыментальнай эндакрыналогіі і хіміі гармонаў Акадэміі медычных навук СССР хірург Ірына Голубева [Голубева 1980]. Яна надавала вялікае значэнне псіхасэксуальнаму абследаванню інтэрсэксаў (а не толькі генетычнаму,

* На бягучы час тэрмін "гермафрадытызм" лічыцца састарэлым і рэдка ўжываецца, але ў 1960-1980-я гады ў СССР ім называлі многія прыватныя выпадкі інтэрсэксуальнасці. Адначасова ўжываўся тэрмін "інтэрсэксуальнасць" як больш шырокі.

гарманальнаму абследаванню ці біяпсіі ганад). “Роля ўрача пры гэтым ані не абмяжоўваецца прызначэннем гарманальных прэпаратаў і хірургічнай карэкцыяй геніталій. Толькі глыбокае разуменне псіхалогіі хворага, асаблівасцей яго асобы і характару, яго сэксалагічнага анамнэзу дае магчымасць урачу дапамагчы хвораму займець поўную ўпэўненасць у выбраным поле, аж да ўтварэння сям’і” [Голубева 1980: 33]. Ірына Голубева заўважала, што, хаця найбольшы ўплыў на самасвядомасць інтэрсэксаў мае гендэр выхавання, аднак “у выпадках выражанай неадпаведнасці фенатыпу, будовы вонкавых геніталій з полам выхавання выразнай палавой аўтаідэнтыфікацыі не адбываецца, бо хворага трывожаць сумневы, ці слушна вызначаны яго пол” [Голубева 1980: 34]. Нарэшце, аўтарка падкрэслівала неабходнасць датрымання ўрачэбнай этыкі, а таксама пакідання за “хворым” апошняга слова ў справе выбару гендэру: “Пры збіранні сэксалагічнага анамнэзу […] урач ні ў якім выпадку не павінен выказваць, а тым болей навязваць сваё меркаванне аб ім хвораму. Неабходна быць надзвычай асцярожным, тактоўным і чулым, памятаючы, якога набалелага і інтымнага пытання даводзіцца датыкацца. Часцей за ўсё, урач з’яўляецца адзіным чалавекам, якому хворы наважваецца даверыць усе свае трагедыі, сумневы і тайны, і хворы павінен быць упэўнены, што «тайна споведзі» не будзе парушана” [Голубева 1980: 35]. Ірына Голубева шкадавала пра адсутнасць у заканадаўстве СССР праўнай рэгламентацыі вызначэння і змены пола, афармлення дакументаў для інтэрсэксаў. Так, у адпаведнасці з дзейным у той час заканадаўствам, пры змене грамадзянскага/пашпартнага гендэра, чалавек павінен быў сам змяняць усе дакументы ў тых інстанцыях, якія іх выдалі (пашпартны стол па месцы прапіскі, аддзел кадраў па месцы працы і г. д.). Гэта псіхалагічна немагчыма, бо вымушала распавесці пра факт змены пашпартнага гендэра фактычна паўсюль у сваім раёне пражывання, і прытым зрабіць гэта самастойна. Лекары ў кожным канкрэтным выпадку “неафіцыйна” дамагаліся права змяніць дакументы ў больш высокіх інстанцыях (абласных, рэспубліканскіх або агульнасаюзных). Але гэта расцягвалася больш чым на месяц, і гэты час чалавек займаў ложка-месца ў лякарні, бо не меў ані пашпарта, ані прапіскі, ані працы. Што, у сваю чаргу, прымушала чакаць сваёй чаргі іншых людзей з падобнымі праблемамі. Лекары прыбягалі і да іншых нефармальных практык, напрыклад, дзеля захавання тайны зробленых аперацый выдавалі несапраўдныя медычныя даведкі. Нарэшце, Ірына Голубева выказвалася за

забеспячэння інтэрсэксаў бясплатнымі гарманальнымі прэпаратамі для замяшчальнай тэрапіі, чаго большасць з іх была пазбаўлена [Голубева 1980: 101-107]. Яна таксама звяртала ўвагу і на транссэксуалаў: "Хворыя з гэтым захворваннем, хаця і адносяцца да кампетэнцыі псіхіятрыі, аднак неабходнасць у шэрагу выпадкаў юрыдычнай, сацыяльнай, хірургічнай і гарманальнай карэкцыі пола мімаволі сутыкае іх з урачамі, якія займаюцца, калі можна так выказацца, саматычнымі формамі гермафрадытызму. У той жа час у айчыннай, як медычнай, так і юрыдычнай літаратуры, нам не ўдалося знайсці навуковых распрацовак па гэтым пытанні. Тым не меней досвед паказвае, што хворыя з транссэксуалізмам сустракаюцца і настойліва патрабуюць медычнай дапамогі" [Голубева 1980: 150].

Псіхалагічнай дапамогай інтэрсэксуальным пацыентам Ірыны Голубевай займаўся псіхаэндакрынолаг з НДІ псіхіятрыі Міністэрства аховы здароўя РСФСР Арон Белкін. Ужо ў 1990-я гады ён напісаў навукова-папулярную кнігу "Трэці пол" [Белкин, 2000], у якой дэтальна распавёў пра інтэрсэксаў, гомасэксуалаў і транссэксуалаў, разглядаў разнастайныя гіпотэзы пра паходжанне інтэр-, гома- і транссэксуальнасці. А. Белкін прывёў у сваёй кнізе даволі шмат прыкладаў з уласнай практыкі часоў СССР. Як і Ірына Голубева, Арон Белкін прыводзіць шмат прыкладаў "нефармальнага" стаўлення медыкаў да пацыентаў. Так, у некаторых выпадках яму даводзілася асабіста дамагацца ў чыноўніцкіх кабінетах "дазволу на змену пола" для інтэрсэксаў, якім было пажадана змяніць пашпартны гендэр. Белкін ужо не называе інтэрсэксаў і транссэксуалаў хворымі, але не будзем забывацца – кніга напісана і выдадзена праз некалькі год пасля распаду СССР.

У часы СССР даволі падрабязны артыкул з назіраннямі за транссэксуалам апублікаваў Павел Пасвянскі (пазней гэты самы выпадак быў апісаны ў кнізе Арона Белкіна). "Хворы" Аляксандр Васілевіч В. адчуў сябе жанчынай даволі позна, у 55 гадоў. "Жаночы стан" прыходзіў да яго цыклічна, то з'яўляўся, то знікаў. У апошнім выпадку Аляксандр Васілевіч адчуваў сябе мужчынам. У "жаночым стане" ён прыязджаў у Маскву ў спадзяванні зрабіць аперацыю па змене пола і дзеля магчымасці свабодна хадзіць у жаночым выглядзе (вялікі горад дае ананімнасць). Аляксандр Васілевіч (Аляксандра Васілеўна) звяртаўся да сэксапатолагаў (знаходзіўся пад назіраннем Паўла Пасвянскага 7 год), але не даў сябе шпіталізаваць, адмовіўся ад фотаздымак і запісу на магнітафонную стужку [Посвянский 1972: 391]. Стан Аляксандра Васілевіча быў ахарактарызаваны псіхіятрам як "цыркулярны псіхоз".

Распаўсюд сэксалагічных ведаў у апошнія гады існавання СССР

Папулярызацыяй уласна сэксалагічных (а не сэксапаталагічных) ведаў займаўся вядомы сацыёлаг і псіхолаг Ігар Кон. Што праўда, яго кніга “Уводзіны ў сэксалогію” была апублікавана ў Венгрыі і ГДР, але не магла выйсці ў СССР да перабудовы па цэнзурных прычынах. Артыкул Ігара Кона пра псіхалогію падлеткавай і юнацкай гомасэксуальнасці быў апублікаваны ў малатыражным зборніку, прысвечаным “палавым разладам”. У гэтым артыкуле І. Кон, абапіраючыся пераважна на нядаўнія заходнееўрапейскія і амерыканскія крыніцы, стараўся абмяркоўваць гомасэксуальнасць як з’яву не паталагічную, не хваробу, але цэнзурныя абмежаванні давалі знаць пра сябе; так, гомасэксуальнасць называлася “парафіліяй”. А вось прыклад сказа, у якім выразна праявілася як імкненне зняць стыгму з гомасэксуальнасці, так і неабходнасць падпарадкавацца цэнзурным патрабаванням: “Падчас вывучэння праблемных псіхасэксуальных паводзінаў асабліва важна пазбягаць іх стыгматызацыі, памятаючы, што неасцярожна наклееny цэтлік лёгка становіцца магутным патагенным чыннікам, стрыжнем, вакол якога структуруецца псіхасэксуальная самасвядомасць асобы, якая фарміруецца” [Кон 1978: 63].

У 1986 годзе быў выдадзены расійскі пераклад кнігі польскага сэксолага Казіміра Імелінскага [Имелинский 1986]. У кнізе, польскі арыгінал якой выйшаў у 1982 годзе, гомасэксуальнасць называецца “адхіленнем”, а не “хваробай”. Аўтар выступаў за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці (у “народнай” Польшчы на час напісання кнігі гомасэксуальнасць была дэкрыміналізавана), а таксама пісаў пра тое, што гомасэксуальнасць пры чарговым пераглядзе планавалі вывесці з міжнароднай класіфікацыі хваробаў (што неўзабаве і адбылося). Усе гэтыя месцы пры перакладзе былі пакінутыя (не адцэнзураваныя). Навуковым рэдактарам перакладной кнігі быў вядучы савецкі сэксапатолаг Г. Васільчанка. Здавалася б, савецкая сэксапаталогія атрымала магчымасць перагледзець свае пазіцыі, прыкрываючыся перабудовай, галоснасцю і аўтарытэтам сусветнай навукі. Але ў 1990 годзе пад рэдакцыяй таго самага Г. Васільчанкі выйшаў аднатомны даведнік “Сэксапаталогія”, у якім скарочана выкладаліся ранейшыя (“застойных” часоў) погляды на “гомасэксуалізм” і магчымасці яго “лячэння” [Васильченко 1990].

У гады перабудовы сэксалагічная літаратура, нарэшце, стала выдавацца вялікімі накладамі і пісаць яе сталі даступнай для неспецыялістаў

мовай. Але якасць гэтай літаратуры была розная. Поруч з кнігай Ігара Кона “Уводзіны ў сэксалогію” [Кон 1988], друкаваліся і сумнеўныя памфлеты, у якіх гомасэксуальнасць звязвалася са СНІДам і па-ранейшаму называлася хваробай: “І ўсё ж, нягледзячы на лагічнасць і заканамернасць больш ліберальнага стаўлення да гомасэксуалізму, у параўнанні з гадамі адміністрацыйна-каманднага рэжыму ў нашай краіне, дадзеную праблему не варта разглядаць як бяскрыўдную і такую, якая не патрабуе адпаведнага кантролю. Справа заключаецца не столькі ў пагрозе СНІДу, колькі ў нейтралізацыі гомасэксуальнага спакушэння падрастаючага пакалення, як справядліва зазначае супрацоўнік МУРа В. Качанаў… […] З нашага пункту гледжання, выяўленыя гомасэксуальныя тэндэнцыі ў дарослага мужчыны і асабліва яго нежаданне змяніць лад палавога жыцця не павінны падводзіцца пад гвалтоўную карэкцыю, тым больш пад іншыя рэпрэсіўныя ўздзеянні. Аднак гэта не значыць, што мы павінны адмовіцца ад барацьбы за гетэрасэксуальную арыентацыю падлеткаў” [Чемоданов и Гришин 1990: 22]. У 1991 годзе вялікім накладам была выдадзена брашура стаўрапальскага ўролага Ігара Дзеравянкі, які не бачыў адрозненняў паміж гомасэксуальнасцю, транссэксуальнасцю і інтэрсэксуальнасцю і прапагандаваў погляд на гэтыя феномены як на варыяцыі адной і той “хваробы”. У той самай брашуры можна знайсці фразы накшталт: “Пры нармальным гетэрасэксуальным палавым акце […] мужчына грае актыўную ролю, а жанчына з’яўляецца пасіўным палавым партнёрам” [Деревянко 1991: 15]. Пры гэтым І. Дзеравянка выступаў за дэкрыміналізацыю гомасэксуальнасці і ставіўся да гомасэксуалаў з пэўнай спагадай.

## Гомасэксуальнасць і псіхіятрыя ў БССР

Недахоп пісьмовых (прынамсі, апублікаваных) крыніц па развіцці поглядаў псіхіятрыі ў БССР на гомасэксуальнасць мы паспрабавалі кампенсаваць праз інтэрв’ю з псіхіятрам N., які пажадаў застацца ананімным. Гэта спецыяліст з Менску са стажам працы ў галіне больш як 40 гадоў. Паводле словаў N., урачы разумелі, што гомасэксуальнасць не лечыцца, але ўлады прымушалі “лячыць”. Пацыентам прызначалі транквілізатары, нейралептыкі. Гомасэксуалы, якія (у невялікай колькасці) апыналіся ў стацыянары, былі накіраваны з пенітэнцыярнай сістэмы. Добраахвотна па “лячэнне” ніхто не звяртаўся. Сэксапаталогія, сэксалогія як прадмет у медыцынскіх інстытутах не

выкладалася, сваіх тэарэтыкаў у гэтых галінах у БССР не было. Адсутнасць сэксалагічнай тэорыі ў БССР падцвердзіў у размове і Дзмітрый Ісаеў (Санкт-Пецярбург). Выняткам з’яўляўся згаданы вышэй аўтар некалькіх папулярных кніг Дзмітрый Капусцін, але ён быў у большай ступені практыкам, да таго ж нічога не пісаў пра гомасэксуальнасць і іншыя “дэвіяцыі”.

Захавалася запісаная падчас этнаграфічнай экспедыцыі ў 1999 годзе гісторыя пра вясковага гомасэксуала з Ушаччыны, запісаная ад рэспандэнткі 1930 г. н. Ён трапіў не ў турму, а менавіта ў псіхіятрычную лякарню, адкуль дадому не вярнуўся: “З бабамі ён дужа ругаўся. А я яго не баялася, мы з ім разам кароў пасвілі. Баб ён не любіў, мужчын дужа любіў. Адзін ён жыў, бацькі памёрлі. Хадзіў абадраны ўсё ўрэмя. Дома самагонку гнаў. Бывала, завядзе да сябе мужыка, напоіць і спаць пакладзе. А патом нехта далажыў аб гэтым начальству, ну яго і забралі ў дурдом. Там ён, як кажуць, дужа ўлюбіўся ў начальніка бальніцы. Мусіць, ён там усім надаеў і яго атравілі” [Лобач 2006: 101].

Мной была зроблена спроба знайсці ў медыцынскай статыстыцы колькасць дыягназаў “сэксуальных перверсій”. Аднак пошукі нічога не далі: у псіхіятрычнай статыстыцы, якая захоўваецца ў фондзе Міністэрства аховы здароўя БССР (фонд 46) НАРБ, падзел паводле дыягназаў недастаткова падрабязны.

Здаецца, першым з псіхіятраў Беларусі звярнуўся да разгляду сэксуальных “дэвіяцый” у сваёй публікацыі Валянцін Кандрашэнка; адбылося гэта ўжо ў гады перабудовы. У раздзеле “Адхіленні ў сэксуальных паводзінах” сваёй кнігі “Дэвіянтныя паводзіны ў падлеткаў” ён у даволі талерантным духу пералічваў разнастайныя варыяцыі сэксуальных паводзінаў [Кондрашенко 1988: 145-158]. В. Кандрашэнка пісаў, што “размежаванне непаталагічных і паталагічных формаў сэксуальных дэвіяцый выклікае вялікія складанасці і ў многіх адносінах умоўнае. […] Яшчэ большыя складанасці выклікае адмежаванне непаталагічных формаў сэксуальных дэвіяцый ад нормы палавых паводзінаў. Паняцце «нормы палавых паводзінаў» расплывістае і неадназначнае. […] Усе пералічаныя крытэры адносныя і неаднолькава ацэньваюцца грамадствам у залежнасці ад эпохі, рэлігійных поглядаў, узроўню культуры і навуковых ведаў. Вядома, напрыклад, што ў розныя часы грамадства неаднолькава ставілася да гомасэксуалізму, трансвестызму, эксгібіцыянізму (асабліва жаночага) і да т. п.” [Кондрашенко 1988: 146-147].

## Паўсядзённае жыццё

У часы СССР веды пра ненарматыўную сэксуальнасць (у тым ліку гомасэксуальнасць) па-за межамі сэксапаталагічнага і крымінальнага дыскурсаў усяляк падаўляліся і заглушаліся. Таму з публікацый вельмі мала можна дазнацца пра тое, як жылося тым гомасэксуалам, каму пашанцавала не трапіць на вока паліцыі і псіхіятрам. Вядома, што на паліцэйскім і псіхіятрычным перасследзе пералік магчымых прыгодаў не вычэрпваўся.

Вядомы харэограф і спявак Барыс Маісееў нарадзіўся ў 1954 годзе ў Магілёве і скончыў у пачатку 1970-х Беларускае дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча ў Менску. Па заканчэнні вучобы Б. Маісееў працаваў у кардэбалеце Харкаўскага тэатра оперы і балета. Аднойчы ў 1975 годзе да яго ў пакой без папярэджання ўвалілася камендантка гуртажытку і заспела за пацалункамі з суседам па пакоі. Паколькі склада “злачынства” ў пацалунках не было, то не было і крымінальнай справы. Персанальныя справы юных артыстаў балета разабралі на камсамольскім сходзе. Б. Маісееў быў звольнены з працы, яму давялося пераехаць у Каўнас [Моисеев 2007: 58-68]. Барыс Маісееў вядомы як вялікі містыфікатар. Тым не меней, прыведзеная гісторыя выглядае цалкам праўдападобнай, характэрнай для эпохі.

Падобную гісторыю прыводзіць брытанская даследчыца Франчэска Стэла. Адна з рэспандэнтак Франчэскі Стэлы распавяла, што ў 1986 годзе вучылася ў Ленінградзе ў будаўнічым вучылішчы. Яе з іншай дзяўчынай “заспела на гарачым” у пакоі камендантка гуртажытку. Адбыўся “таварыскі суд”, дзяўчат чакалі камсамольскія спагнанні. Маці рэспандэнткі была апавешчана пра “неадпаведныя паводзіны” дачкі лістом. З-за перажытага стрэсу пара амаль адразу распалася [Стелла 2014: 238-240; Stella 2015: 49-51].

На жаль, на падобныя гісторыі ў межах Беларусі не ўдалося натрапіць. Магчыма, іх сляды яшчэ атрымаецца знайсці сярод справаў камсамольскіх арганізацый рознага ўзроўню ў публічных архівах.

З цяжкасцю можна ўявіць, дзе гомасэксуалы адчувалі сябе ў бяспецы. Некаторыя з іх маглі фарміраваць гурткі, удзельнікам якіх можна было не хавацца адно ад аднаго. Дакладна такія гурткі вядомыя па Маскве і Ленінградзе застойных часоў і беларускіх гарадах (напрыклад, Гомелі) 1990-х гадоў. У іншых “багемных” асяродках (адкрытых) гомасэксуалаў маглі

“трываць”, хаця і недалюбліваць. Вось, напрыклад, ілюстрацыя з напісанага ў 1984 годзе апавядання Аляксандра Раманава “Жанчына без імя”: “В этот день - как и всегда - у меня были гости. Впрочем, сегодня их было особенно много. [...] Третьим был Женька, суперинтеллектуал с супернаклонностями – философ по образованию и гомосексуалист по привязанностям. Я терпеть не могу 'голубых' ребят, но перед философами робею: они ведь читали Гегеля, которого я могу только почитать. Впрочем, 'голубые' наклонности Женьки у меня на квартире не проявляются. Он достаточно умён, чтобы понять: ни я, ни мои друзья в эти игры не играют” [Романов 2006]. Гурток Аляксандра Раманава існаваў не толькі ў апавяданнях, але і ў рэальнасці, у Гародні, а правобразам Жэнькі быў Яўген Рубан (1941 – 1997), гарадзенскі шахматыст, выпускнік філасофскага факультэта Ленінградскага ўніверсітэта, віцэ-чэмпіён БССР 1964 года і чэмпіён Ленінграда 1966 года. Галандскі гросмайстар, былы ленінградзец Гена (Генадзь) Сасонка сцвярджае, што Яўген Рубан быў пазбаўлены звання майстра СССР па шахматах з-за таго, што быў асуджаны, а асуджаны ён быў нібыта за аднаполы сэкс у публічным месцы (праўда, па артыкуле “хуліганства”, а не “мужаложства”) [Сосонко 2006: 164-166].

Верагодна, больш прыязным да гомасэксуальных людзей, як і розных іншых людзей, якія не ўкладваліся ў познесавецкую нарматыўнасць, быў менскі гурток Кіма Хадзеева. Кім Хадзееў (1929–2001) быў яркім прадстаўніком багемы. Як і згаданы вышэй Аляксандр Раманаў, Кім Хадзееў адсядзеў тэрмін за крытычныя выказванні пра дзяржаўны лад. Не маючы ніякага афіцыйнага прызнання, а часта – нават не маючы афіцыйнага месца працы, ён меў вялікі аўтарытэт у колах менскай інтэлігенцыі. Энцыклапедычна абазнаны, зарабляў Кім Хадзееў тым, што пісаў на замову кандыдацкія і нават доктарскія дысертацыі па розных галінах гуманітарных навук. У ягонай кватэры заўжды былі госці, якія вялі інтэлектуальныя гутаркі з гаспадаром (ці без яго), а праз гурток К. Хадзеева прайшлі многія відныя дзеячы культуры Беларусі (напрыклад, Уладзімір Рудаў, Мікалай Захаранка, Дзмітрый Строцаў, Юлія Чарняўская). Існуе меркаванне, што Кім Хадзееў быў гомасэксуалам. З іншага боку, гэтыя чуткі многія абвяргаюць [напрыклад: Марговский 2009]. Так ці іначай, з упэўненасцю можна казаць пра гомасацыяльнасць вядомага менскага мысляра. У ягонае бліжняе атачэнне ўваходзілі амаль выключна мужчыны: “Многім людзям

небесстаронняя ўвага Кіма да маладых хлопчыкаў, кожны з якіх у яго – будучая геніяльная фігура ў мастацтве, здавалася падазронай. Прызнаюся, і мне таксама. Аднак нас, якія падазравалі, можна б і зразумець, бо ў гэтага мужыка – ані жонкі, ані палюбоўніцы, вакол толькі «хлопчыкі», «хлопчыкі», «хлопчыкі»...” [Кулон 2013: 171]. Анатоль Астапенка (пад псеўданімам Антон Кулон) адназначна піша пра прысутнасць адкрытых гомасэксуалаў у асяроддзі Хадзеева: “Суіснаванне самых розных людзей: геніяў і няздараў, некранутых дзяўчынак і прастытутак, закаханых хлопчыкаў і асобаў нетрадыцыйнай арыентацыі, юнакоў і пажылых людзей, — усё гэта была «акадэмія Кіма»” [Кулон 2013: 171].

Месцы ў гарадах, дзе бытавала гомасэксуальная субкультура, можна паспрабаваць рэканструяваць праз вусныя ўспаміны яе ўдзельнікаў. Месцы гэтыя былі ў савецкі час абмежаваныя прыбіральнямі, “плешкамі”[5] і лазнямі.

Параўноўваючы познесавецкую субкультуру мужчын-гомасэксуалаў з паўночнаамерыканскай, Дэніэл Шлютэр адзначае, што першую канца 1980-х – пачатку 1990-х можна прыпадобніць да другой 1950-х гадоў. У другой палове 1960-х і асабліва ў 1970-я гады ў ЗША і Канадзе значна павысіўся ўзровень інстытуцыялізаванасці гей-субкультуры – з’явіліся не толькі “свае” бары і саўны, але і арганізацыі, якія задавальнялі практычна любыя патрэбы (ад адвакацкіх бюро да бібліятэк). У канцы 1970-х гадоў у паўночнаамерыканскіх гарадах гомасэксуальная частка насельніцтва была значна больш інстытуцыйна развітай, чым пераважная большасць этнічных груп (этнічных меншасцяў) [Schluter 2002: 31-32]. Д. Шлютэр лічыць, што ступень самаарганізацыі гомасэксуалаў, якую ён пабачыў у СССР у 1988-1991 гадах, можна ахарактарызаваць як братэрства (fraternity), але не супольнасць (community). “Братэрства” праяўлялася праз даволі развітую ідэнтычнасць гомасэксуалаў як групы, а таксама праз вулічныя месцы сустрэч у буйных гарадах. Аднак для таго, каб называць гомасэксуальную субкультуру “супольнасцю”, не ставала фармальных эканамічных, палітычных, грамадскіх і культурных арганізацый, якія абслугоўвалі б гомасэксуальную кліентуру (толькі-толькі пачалі зараджацца профільныя грамадскія арганізацыі і гей-прэса, больш жа нічога не было) [Schluter 2002: 6].

[5] “Плешка” – слэнгавая назва месца сустрэчы гомасэксуалаў. Як правіла, “плешкі” размяшчаліся ў цэнтрах гарадоў, на плошчах ці ў скверах.

У Менску ў другой палове 1980-х (за ранейшы час звестак у нас не атрымалася знайсці) папулярнасцю сярод гомасэксуалаў карысталіся прыбіральня ў падвале аўтавакзала "Цэнтральны", прыбіральня на дыспетчарскай станцыі "Дружная", прыбіральня ў першым паверсе жылога дому на вуліцы Свярдлова (каля скрыжавання з вуліцай Кірава). Вядомымі месцамі сустрэч мужчын-гомасэксуалаў і ў 1990-я гады былі парк Чалюскінцаў, Цэнтральны сквер (у народзе вядомы як "Панікоўка"), лазня на вуліцы Маскоўскай. У 1990-х гадах гомасэксуальныя мужчыны бавілі вольны час таксама каля пэўных лавачак у парку Горкага. Пра самую цікавую менскую "плешку" – "плешку на колах" – чытайце ніжэй.

Для многіх мужчын часам, калі яны атрымалі першы гомасэксуальны досвед, быў час службы ў войску. Для іншых войска было месцам канчатковага ўсведамлення сваёй сэксуальнасці. Адзін з нашых суразмоўцаў распавёў амаль ідылічную гісторыю салдат на маленькай памежнай заставе, якія "сябравалі" парачкамі і часам зачыняліся дзе-небудзь (напрыклад, лазня, качагарка) удвох, каб зняць сэксуальнае напружанне. Часта, аднак, гомасэксульныя стасункі ў войску былі звязаныя са стасункамі дамінацыі і падпарадкавання, з дзедаўшчынай, мелі месца гомасэксуальныя згвалтаванні, у тым ліку групавыя (такая гісторыя таксама сустрэлася ў нашых палявых матэрыялах).

Тэма турэмнай мужчынскай аднаполай сэксуальнасці асветленая, напрыклад, ва ўспамінах Льва Клейна [Клейн 2010: 322-398] і яго кнізе "Перевернуты свет". Уласна беларускага матэрыяла на гэтую тэму ў нас няма.

"Галоснасць" і "перабудова" супалі па часе з пачаткам эпідэміі СНІД у СССР. Прэса, якая атрымала магчымасць асвятляць тое, што раней замоўчвалася, з імпэтам хапалася за "смажаныя" факты і сюжэты. Стала магчымым ужываць слова "гомасэксуалізм" і абмяркоўваць звязаныя з гэтым словам з'явы. Гэта прывяло, з аднаго боку, да з'яўлення значнай колькасці гамафобных публікацый. З іншага боку, з'яўляліся і такія публікацыі, аўтары якіх спрабавалі пераадолець прывітую ім з дзяцінства ў савецкім грамадстве гамафобію і пісалі аб праблемах гомасэксуалаў з некаторым спачуваннем. Так ці інакш, большасць аўтараў звязвала распаўсюд ВІЧ/СНІД з мужчынамі-гомасэксуаламі і называла гомасэксуалаў "групай рызыкі" [Мороз 1990: 50-74].

У гады “перабудовы” ў СССР, у тым ліку і ў БССР, атрымала распаўсюд з’ява, вядомая як “рамонт”. “Рамонтнікі” – моладзевыя банды, якія праяўлялі гамафобны гвалт наступным чынам. На “плешку” засылаўся сімпатычны хлопец, які знаёміўся з ахвярай і вёў яе кудысьці. У пэўным месцы чакала рэшта банды. Ахвяру збівалі і рабавалі, у горшых выпадках маглі згвалтаваць і нават забіць [Владимир Д. 1990]. Часам “засланы казачок” быў непатрэбны – ахвяру маглі высачыць і збіць непадалёк ад “плешкі”. У праведзеных інтэрв’ю “рамонтнікі” згадваліся, напрыклад, у 1990-я гады на “Панікоўцы” ў Менску. Паколькі паліцыя ніяк не абараняла геяў ад “рамонту” і не прымала да разгляду заявы пра здзейсненыя злачынствы, то абараняцца даводзілася самастойна – “рамонтнікі” таксама бывалі бітымі.

## 1990-я і першая палова 2000-х: нараджэнне руху за правы ЛГБТ

“Перабудова” выклікала ў СССР сэксуальную рэвалюцыю. “Ціхая” сэксуальная рэвалюцыя ў краіне адбывалася ўжо з 1960-х гадоў – зніжаўся ўзрост пачатку палавога жыцця, расла колькасць разводаў і маці-адзіночак, грамадства з усё большай пермісіўнасцю ставілася да палавога жыцця па-за шлюбам, сярод насельніцтва расла цікавасць да цяжкадаступнай сэксалагічнай літаратуры. У гады “перабудовы” сталі шырока даступнымі сэксалагічныя веды, а сэксуальнасць была прызнаная як самастойная каштоўнасць і стала шырока абмяркоўвацца ў СМІ. У канцы “перабудовы” СМІ СССР дайшлі і да больш ці менш сур’ёзнага абмеркавання тэмы сэксуальнай “інакшасці”, а таксама ў СССР стала з’яўляцца нішавая гей-лесбі-прэса.

Першым легальным гей-выданнем на расійскай мове стала маскоўская газета “Тема”. У канцы 1990 года яе рэдактар Раман Калінін здолеў зарэгістраваць выданне ў Маскоўскім савеце дэпутатаў. Тое, што “Тему” чыталі ў Беларусі, бачна са зместу выдання. У рубрыцы “Клуб знаёмстваў” рэгулярна публікаваліся абвесткі з розных рэгіёнаў Беларусі, а ў адным з нумароў за 1992 год з’явіўся артыкул “Ля абеліска”. Аўтар артыкула, прыналежны да маскоўскай рэдакцыі выдання, апісваў сваю паездку ў Віцебск, адкуль прыйшло пяць лістоў ад адзінокіх маладых геяў. Дзякуючы эмісару рэдакцыі “Темы” хлопцы пазнаёміліся і стварылі сяброўскае кола. У артыкуле таксама апісвалася “плешка” каля абеліска вызваліцелям Віцебска на плошчы Перамогі [Быстров 1992]. У тым самым нумары “Темы” быў апублікаваны фрагмент ліста чытача з Менску, студэнта ўніверсітэта, які нечакана для сябе знайшоў у горадзе “плешку на колах” на задняй пляцоўцы тралейбуса 2-га маршрута. Тралейбус гэтага маршрута хадзіў па праспекце Скарыны і быў заўжды перапоўнены, што дазваляла незаўважна для іншых абмацваць адно аднога, а потым выходзіць на адным прыпынку і працягваць знаёмства. Існаванне ў 1990-я гады такой “рухомай плешкі” падцвердзіў і адзін з нашых рэспандэнтаў у інтэрв’ю.

Беларуская прэса таксама ўзялася абмяркоўваць раней забароненыя тэмы. Напрыклад, у гарадзенскай газеце “Перспектива” ў лістападзе 1991 – студзені 1992 гадоў з’явілася серыя публікацый, прысвечаных гісторыям дзвюх маладых лесбіек.

15 лістапада 1991 года газета “Перспектива” апублікавала ліст маладой жанчыны. Гэта была просьба да рэдакцыі асвятляць “праблему сэксуальных

меншасцяў”. Аўтарка ліста распавядала пра свой жыццёвы досвед і выказвала спадзяванні, што “хтосьці смялейшы створыць такое таварыства сэксуальных меншасцяў (як у Маскве, Рызе, Пецярбургу) тут у нас, у Гродне”.

Адна з чытачак напісала адказ на гэты ліст, і адказ таксама быў апублікаваны (у нумары ад 29 лістапада). Публікацыя ліста суправаджалася рэдакцыйным каментаром, у якім выказвалася стаўленне рэдакцыі да тэмы: “У лісце чытачкі, апублікаваным са скарачэннямі, утрымліваўся сумнеў адносна пазіцыі рэдакцыі да ўзнятай праблемы, таму адразу ж вызначымся. На нашую думку, грамадства не можа быць дэмакратычным і прававым, калі яно будзе прызнаваць толькі інтарэсы большасці — нацыянальнай, культурнай, сэксуальнай і г. д. З іншага боку, абарона правоў і інтарэсаў меншасцяў — фундамент цывілізацыі, патрабаванне справядлівасці, незалежна ад таго, падабаецца гэта камусьці ці не падабаецца”.

Нягледзячы на вельмі пазітыўныя дэкларацыі, рэальная рэдакцыйная палітыка была не аж настолькі прыязная да ЛГБТ. У тым самым нумары ад 15 лістапада, дзе быў апублікаваны першы ліст, рэдакцыя надрукавала і непадпісаны артыкул «"Я — блудница". Чего еще не знаете о Мадонне». У гэтым артыкуле смакаваліся скандальныя падрабязнасці сэксуальна разняволенага відэа вядомай амерыканскай спявачкі, пры тым да гомасэксуалаў ужывалася слова “педэрасты”.

Гісторыя з лістамі ў газету мела працяг. Паколькі другая чытачка выказала жаданне пазнаёміцца з аўтаркай папярэдняга ліста, то журналіст “Перспективы” Аляксандр Раманаў звязаўся з імі і прапанаваў арганізаваць такую сустрэчу на “нейтральнай тэрыторыі”. Сустрэча сапраўды адбылася, жанчыны пазнаёміліся, пераканаліся, што яны не адны такія ў Гародні. У далейшым яны падтрымлівалі сувязь, дзяліліся адна з адной “тэматычнымі” навінамі і весткамі.

Але Аляксандрам Раманавым, апрача шчырага жадання дапамагчы, кіраваў і прафесійны інтарэс. Па выніках сустрэчы ён стварыў яшчэ адзін матэрыял, які таксама быў апублікаваны ў рубрыцы чытацкіх лістоў пад назвай “Любить женщину — это естественно”. Гэтая публікацыя адбылася ўжо ў студзені 1992 года. Матэрыял заканчваўся прапановай іншым лесбійкам дасылаць лісты па пэўным адрасе, каб пазнаёміцца. Адрасам гэтым з меркаванняў бяспекі быў выбраны хатні адрас А. Раманава.

Больш падрабязна гэтая серыя публікацый разбіраецца ў артыкуле "Ружовае рэтра" [Валодзін 2016]. Варта таксама адзначыць, што журналіст Аляксандр Раманаў і згаданы вышэй аўтар апавядання "Жанчына без імя" Аляксандр Раманаў — адзін і той самы чалавек.

Многія выданні ў пачатку 1990-х размяшчалі прыватныя абвесткі пра знаёмствы. Даволі часта яны (у тым ліку згаданая вышэй газета "Перспектива") друкавалі і абвесткі тых, хто жадаў пазнаёміцца з партнёрам аднаго з сабой полу. Сталі з'яўляцца і профільныя выданні, якія спецыялізаваліся на абвестках пра знаёмствы. Найбольш вядомым з такіх выданняў стаў менскі часопіс "Встреча" (1992 – 1994). Ён распаўсюджваўся не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах, што паўсталі па распадзе СССР. Таму наклад часопіса ў лепшыя часы сягаў 350 тысячаў асобнікаў. Пачынаючы з першага нумара за 1992 год у "Встрече" з'явілася рубрыка "Голубая гостиная" (вёў рубрыку Аляксей Краўчанка), адрасаваная лесбійкам і геям (з №2 за 1993 год рубрыка атрымала назву "Вариант"). Апрача ўласна абвестак, "Встреча" публікавала ўласныя і перакладныя артыкулы пра геяў, лесбіек і транссэксуалаў: ад інтэрв'ю з сэксапатолагам Абрамам Свядашчам да рэпартажу з фестывалю "Кристофер Стрит дэй" у Санкт-Пецярбургу. Апрача Масквы і Пецярбурга, прадстаўнікі Менску даязджалі і да Берліну. Так, у часопісе "Встреча" з'явіўся рэпартаж з фестываля "Homolulu", які прайшоў у сталіцы Нямеччыны ў кастрычніку 1992 года (№1/1993, с. 32-33).

Тое, як асвятляла ў 1990-я гады беларуская прэса пытанні, звязаныя з гомасэксуальнасцю, можа стаць прадметам асобнага даследавання. Кірунак, у якім можа ісці падобнае даследаванне, паказвае падрабязны разбор Насты Манцэвіч публікацый газеты "Переходный возраст" за 1994-2005 гады [Манцэвіч 2014].

У 1994 годзе ў Беларусі вельмі ціха прайшла дэкрыміналізацыя добраахвотнага анальнага сэксу паміж мужчынамі. Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь і некаторыя іншыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь" ад 1 сакавіка 1994 года з артыкула 119 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь была выключаная частка першая. Гэта была адна са ста сарака шасці зменаў, унесеных у крымінальны кодэкс. Змены ўступілі ў сілу з 1 траўня 1994 года [Данилюк, Лукашов и Саркисова 1994: 118]. Дэкрыміналізацыя адбылася пазней, чым ва Украіне (1991 год) і ў Расіі (1993 год). Падобна, што

дэкрымiналiзацыя добраахвотных гомасэксуальных стасункаў адбылася не толькі пад цiскам з боку Рады Еўропы, куды Беларусь рыхтавалася ўступiць, але і планавалася мясцовымi юрыстамi. Так, у 1992 годзе была выдадзена манаграфiя па крымiнальным праве дацэнта Акадэмii мiлiцыi МУС РБ Станiслава Цiшкевiча. У манаграфii прапаноўвалася крымiналiзаваць толькi "[сэксуальныя] дзеяннi [...] у дачыненнi да пацярпелай цi пацярпелага з прымяненнем гвалту, выкарыстаннем бездапаможнага стану цi пагроз, пералiчаных заканадаўцам у складзе вымагання" [Тишкевич 1992: 148].

Зараджаўся гей-бiзнэс, якi быў прыкметай ЛГБТ-супольнасцi, што пачынала фармавацца. Яго першымi праявамi сталi клубы: "Встреча" (iснаваў у другой палове 1990-х гадоў), "Оскар" (1999-2000), "Вавiлон" (2001-2007, бульвар Талбухiна, 4), "Драма" (вул. Цiмiразева, 46), "Нарцыс" (першая палова 2000-х), "Люцiк" (зачынены ў 2007), "Буфет Ёё" (2006-2007, вул. Чкалава, 12), "6а" (iснаваў да 2013 года). Клубы "Встреча", "Нарцыс", "Люцiк", "6а" паслядоўна займалi адно i тое самае памяшканне па адрасе Партызанскi праспект, 6а.

Часам (але значна радзей, чым хацелася б) "тэматычныя" клубы станавiлiся месцамi правядзення не толькi вечарынак, але i публiчных мерапрыемстваў з некаторым грамадзянскiм пафасам. Так, у верасні 2001 года многiя мерапрыемствы гей-прайда (адкрыццё, закрыццё, паэтычныя чытаннi ды iнш.) прайшлi ў клубе "Вавiлон". Цiкавым прыкладам супрацоўнiцтва фемiнiсцкага i ЛГБТ рухаў стала правядзенне фестывалю "Гендэрны маршрут-2" у "Буфеце Ёё" 8-10 снежня 2006 года.

На жаль, за выняткам некаторых гей-фрэндлi бараў (напрыклад, "Саюз-анлайн"), клубы сталi i апошнiмi праявамi гей-бiзнэсу. У Беларусi склалася неспрыяльная для такога прадпрымальнiцтва сiтуацыя, звязаная з гамафобiяй мясцовых уладаў, палiцыi, уласнiкаў памяшканняў, якiя здымалiся пад клубы цi бары.

Так, да закрыцця "Люцiка" спрычынiлася серыя гамафобных публiкацыi ў газеце "Минский курьер", аўтары якiх Iрына Васiльева i Максiм Ягораў наведалi клуб, каб "правесцi журналiсцкае расследаванне" [Мiцкевiч 2007].

Клуб "Оскар" быў зачынены па iнiцыятыве адмiнiстрацыi завода "Прамсувязь", у якой арандаваў памяшканне. Адмiнiстрацыя завода ў аднабаковым парадку разарвала кантракт, вусна пацвярджаючы гамафобную матывацыю сваiх дзеянняў.

У ноч на 3 ліпеня 2001 года ва ўласнай кватэры быў забіты 30-гадовы Іван Сушынскі, адзін з дырэктараў клуба “Оскар”. Гэта адзін з нямногіх прыкладаў гамафобнага гвалту, які стаў апублікаваным [Bortnik 2007: 369], чуткі ж пра забойствы геяў на глебе нянавісці цыркулявалі значна часцей. Адначасова гэты выпадак паказвае, наколькі небяспечна было займацца гей-бізнэсам у Менску.

ВІЧ-сэрвісныя арганізацыі сталі з’яўляцца ў Беларусі з пачатку 1990-х гадоў. Так, у 1994 годзе была зарэгістраваная арганізацыя “Стоп-СНІД Беларусь”, большасць сяброў якой складалі прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці. Арганізацыя, кіраўніком якой быў Яўген Заблоцкі, праіснавала зусім нядоўга (1-2 гады). Хаця і ў складзе іншых арганізацый было шмат “тэматычных” людзей, але стварэнне накіраванай на аблугоўванне МСМ (мужчын, якія маюць сэкс з мужчынамі) арганізацыі “Встреча” адбылося толькі ў 2004 годзе. Раней, з 1998 года “Встреча” ўдзельнічала ў праектах па прафілактыцы ВІЧ/СНІД як ініцыятыўная група.

Зарадзілася “Встреча” як нефармальны клуб вакол аднайменнага часопіса прыватных абвестак пра знаёмства. Калі ў 1995 годзе часопіс спыніў існаванне, аднайменны клуб працягваў дзейнічаць. Яго ўдзельнікі лічылі сябе нечым накшталт ЛГБТ-арганізацыі. Яны аддавалі перавагу таму, каб дзейнічаць “без лішняга шуму”: не імкнуліся зарэгістравацца як структура, рэдка выступалі як публічныя асобы. Галоўнай рэдактаркай часопіса “Встреча”, а потым нефармальнай лідаркай аднайменнай ініцыятывы была Таццяна Зуева (1959/1960 – 2014). Пасля інсульта, які напаткаў Т. Зуеву ў 2001 годзе, яна па стане здароўя не магла прымаць настолькі ж актыўны ўдзел у дзейнасці ініцыятывы, як раней. Тым не меней, Таццяна стала рэдактаркай інфармацыйна-адукацыйнага зборніка “Встреча” (з 2007), была ганаровым членам кіраўніцтва арганізацыі пасля рэгістрацыі ў 2004 годзе [Еремин 2014]. Знаным дзеячам клуба, а пазней арганізацыі “Встреча” быў Алег Яромін, які і да сёння працуе ў грамадскіх арганізацыях у сферы прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі.

У 1998 годзе Эдвард Тарлецкі і кампанія абвясцілі пра стварэнне Беларускай лігі свабоды сэксуальных меншасцяў “Лямбда” (у пазнейшы час назва скарацілася да Беларускай лігі “Лямбда”). Стваральнікі “Лямбды”, наадварот, рабілі стаўку на шырокае агалошванне сваёй дзейнасці: стварылі

выданне, спрабавалі зарэгістраваць арганізацыю, раздавалі інтэрв’ю, ладзілі канферэнцыі і нават гей-прайд.

Па першым часе паміж дзвюма групамі па пытанні публічнасці былі канфлікты. Удзельнікам “Встречи” здавалася, што “залішняя” публічнасць можа выклікаць гамафобную гістэрыю і пашкодзіць справе эмансіпацыі геяў і лесбіек. Удзельнікі БЛЛ падазравалі апанентаў у баязлівасці. З часам, аднак, і тыя, і другія зразумелі, што іх метады дзейнасці не супярэчаць адно аднаму, а ўзаемадапаўняюць.

Беларуская ліга “Лямбда” некалькі гадоў праводзіла даволі бурную дзейнасць. Са жніўня 1998 года выходзіла выданне “Форум”. З васьмістаронкавага чорна-белага бюлетэня, надрукаванага на рызографе, яно паступова ператварылася ў глянцавы часопіс “Forum lambda” аб’ёмам 40 старонак з каляровай вокладкай. У чэрвені 1999 года часопіс быў зарэгістраваны ў Дзяржкамдруку.

Быў створаны звязаны з БЛЛ сайт apagay.com.

Пакуль яшчэ гэта было магчыма, БЛЛ праводзіла пікеты ў Менску (у канцы 1990-х пікеты дазвалялі) з розных нагодаў – гэта былі першыя выхады ў свет пад вясёлкавым сцягам. 6-9 верасня 1999 года ў Менску прайшоў першы беларускі гей-прайд. Хаця першы прайд прайшоў без выхаду на вуліцу (семінары, кінапаказ і вечарынкі адбываліся ў памяшканнях), але АМАП усё адно на яго прыйшоў – на адну з вечарынак. Спроба арганізацыі гей-прайда праз год (7-10 верасня 2000) была амаль цалкам сарваная ўладамі: семінары давялося праводзіць на вуліцы, клубы адмовілі ў памяшканнях для вечарынак. Затое ў 2001 годзе атрымалася “адарвацца” напоўніцу. Перад спектаклем пад назвай “прэзідэнцкія выбары” зверху была дадзеная каманда нікога і нічога не чапаць, каб стварыць прыгожую карцінку для заходніх назіральнікаў. Пачатак верасня 2001 года быў часам “разгулу лібералізму”. Акурат у гэтыя дні (2-9 верасня) і праходзіў гей-прайд. Яму папярэднічала рэтраспектыва фільмаў Франсуа Азона ў кінатэатры “Перамога” (28-31 жніўня). Апрача лекцый, семінараў і вечарынак, у праграме былі нават паэтычныя чытанні. Кульмінацыяй стаў парад кахання 7 верасня, удзельнікі якога прайшлі ад цырку да “Панікоўкі” (Аляксандраўскага скверу).

Парад кахання арганізоўваўся ў супрацоўніцтве з Федэрацыяй анархістаў Беларусі (ФАБ). Анархісты на працягу ўсіх гадоў існавання БЛЛ

заставаліся адзінай палітычнай сілай у Беларусі, якая пастаянна адкрыта падтрымлівала ідэі роўнасці ўсіх людзей незалежна ў тым ліку і ад сэксуальнай арыентацыі ці гендэру. Сярод іншага, ФАБ падтрымала БЛЛ у ліпені 2001 году, калі аргкамітэт Кангрэсу беларускай моладзі адмовіў БЛЛ у праве дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў на кангрэс. Актывісты БЛЛ і ФАБ правялі супольную тэатралізаваную акцыю пратэсту непасрэдна на кангрэсе, дзе заклікалі запісвацца на "Кангрэс грахоўнай беларускай моладзі".

Як вядома, некаторыя відныя дзеячы ФАБу стваралі касцяк рэдакцыі сатырычнай газеты "Навінкі". Не дзіва, што тэма раўнапраўя гомасэксуалаў рэгулярна з'яўлялася на палосах газеты. Хіба найбольш смешнай была наступная гісторыя. У сакавіку 2002 года вядомы гамафоб з лагеру беларускай кансерватыўнай апазіцыі Павал Севярынец разаслаў па рэдакцыях СМІ сваю заяву пад назвай "Апошняе вычварэньне Эдзіка Тарлецкага". Змешчаная ў "Нашай ніве", гэта заява выглядала чарговай гамафобнай атакай, насычанай мовай нянавісці: "Таксама вядома, што ягоная ліга сэксменшасьцяў "Лямбда" займаецца ня толькі фізыялягічнымі вычварэньнямі, але і адкрытай дыскрэдытацыяй дэмакратычнай грамадзкасьці ў краіне. Зьяўленьне гей-сьцягоў, гей-парадаў і іншых гей-правакацыяў на мерапрыемствах зь бел-чырвона-белай сымболікай, на дэманстрацыях супраць рэжыму й урачыстых сходах зьневажае ўвесь нацыянальны рух, дае выключныя аргумэнты БТ і зводзіць сутнасьць паняцьця "правоў чалавека" да правоў на рэкляму разбэшчанасьці й зла" [Севярынец 2002]. Але тая самая заява (ніводнага слова не было зменена!), надрукаваная ў сатырычных "Навінках", гучала зусім па-іншаму: як тонкі сцёб рэдакцыі, якая здолела з дакладнасцю спарадыраваць стыль Севярынца. Як адказ Севярынцу, на апошняй паласе таго самага нумару быў апублікаваны фотакомікс "Папялушка", адну з галоўных роляў у якім сыграў сам Эдвард Тарлецкі. Фотакомікс пачынаўся скаргай Пашы Севярынца на складанасці жыцця ў Беларусі: "Як цяжка жыць хрысьціяніну: народ – хам, у Бога ня верыць, "Навінкі" сьцябуцца, підары прыстаюць…" Заканчваўся ж комікс фразай: "Ад гэтага часу Паша перастаў быць ваяўнічым гамафобам і сэксуальным цемрашалам…" Паглядзець заяву Севярынца і комікс цалкам можна па адрасе: https://belarusianqueerstory.noblogs.org/post/2016/01/02/vystava2/

Падтрымлівалі БЛЛ і асобныя грамадскія арганізацыі, напрыклад, "Аб'яднаны шлях" і "Маладая Грамада". Але, паколькі гэта былі не асацыяцыі

грамадскіх арганізацый, а менавіта асобныя арганізацыі, іх цяжка назваць палітычнай сілай.

Апошнія нумары “Forum lambda” выйшлі ў 2002 годзе. У тым жа годзе прайшоў і апошні (з арганізаваных БЛЛ) гей-прайд, значна больш сціплы, чым у папярэднім годзе.

У 2002 годзе Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала рэспубліканскую моладзевую жаночую грамадскую арганізацыю “Яна”. Фактычна, арганізацыя была не проста жаночай, а лесбійскай. Узначальвала “Яну” Святлана Плаўсюк. У 2004-2005 гадах актывісткі арганізацыі збіралі подпісы для заканадаўчай ініцыятывы аб аднаполых шлюбах. На той час, каб выступіць з заканадаўчай ініцыятывай, неабходна было сабраць 10.000 подпісаў грамадзян. Атрымалася сабраць больш за 4.000. Арганізацыя займалася праектамі па прафілактыцы ВІЧ/СНІД, удзельнічала ў прававаых круглых сталах. У 2003 годзе быў выпушчаны адзіны нумар часопіса (дакладней сказаць, фанзіна) “Связь”. Актывісткі “Яны” разам з актывісткамі арганізацыі “Радзіслава” ды анарха-феміністкамі ўдзельнічалі ў арганізацыі жаночага (феміністкага) летніка ў 2004 годзе пад Ракавам. Прыкладна ў 2008-2009 гадах арганізацыя спыніла дзейнасць.

На першым Беларускім сацыяльным форуме, які адбыўся 5-7 лістапада 2004 года ў Стайках пад Менскам, сабраліся прадстаўнікі каляанархісцкіх і левых колаў (як з больш арыентаваных на палітычную барацьбу, так і з грамадскіх арганізацый). Адна з секцый называлася “Рух за правы меншасцяў у Беларусі” і мадэравалася міжнародным сакратаром Беларускай лігі сэксуальнага раўнапраўя “Лямбда” Сяргеем Тарпачовым [https://belarus.indymedia.org/83]. Секцыя называлася завуалявана, каб не прыцягнуць лішняй увагі адміністрацыі спорткомплекса “Стайкі” ды іншых “кампетэнтных органаў”. Абмяркоўвалася ж на ёй выключна сітуацыя ў ЛГБТ-руху Беларусі. Выступілі кіраўнічка РМЖГА “Яна” Святлана Плаўсюк, Сяргей Ягораў з Гомеля (распавёў пра гомельскае штомесячнае выданне для геяў “Queque sum”, якое выходзіла цягам году) і Уладзіслаў Іваноў (зрабіў даклад пра этнаграфію (гома)сэксуальнасці ў Беларусі). Дыскусію выклікала тэза Святланы Плаўсюк пра неабходнасць ініцыіраваць законапраект аб легалізацыі аднаполых шлюбаў. Сяргей Тарпачоў выказаў перасцярогі адносна таго, што абмеркаванне такога законапраекту выкліча хвалю

гамафобіі, і прапанаваў спачатку засяродзіцца на прыняцці антыдыскрымінацыйнага заканадаўства і закона аб злачынствах нянавісці. Таксама абмяркоўвалася сітуацыя з незаконным блакаваннем ЛГБТ-сайтаў у Беларусі. У прыватнасці, Сяргей Тарпачоў паведаміў, што праз зварот у суд удалося адмяніць блакаванне сайта apagay.com у многіх беларускіх інтэрнэт-кавярнях. Апрача пералічаных арганізацый, у секцыі ўзялі ўдзел прадстаўніцы і прадстаўнікі Федэрацыі анархістаў Беларусі, Жаночага антыкрызіснага цэнтра, “Маладой Грамады” ды іншых аб’яднанняў.

Паступова пытанне правоў ЛГБТ пачынае ўспрымацца як праваабарончае пытанне не толькі самімі геямі і лесбійкамі, але і праваабарончымі арганізацыямі.

“Міжнародная амністыя” яшчэ ў 1990-я гады прызнала правы ЛГБТ неад’емнай часткай правоў чалавека [Dudek et al. 2007: 35-44]. Адпаведна, і беларуская філія гэтай міжнароднай арганізацыі ўдзельнічала ў дакументаванні парушэнняў правоў ЛГБТ ды інфармацыйных кампаніях. Найбольшую актыўнасць па ЛГБТ-пытаннях сярод беларускага аддзялення “Амністыі” праяўляў Вячаслаў Бортнік. Дзякуючы Вячаславу, агляды па прававой сітуацыі ЛГБТ-людзей у Беларусі з’яўляліся не толькі ў бюлетэнях “Amnesty International у Беларусі”, але і ў замежных выданнях [Bortnik 2007; Dudek et al. 2007: 141-146].

Пад уплывам шведскіх партнёраў праваабарончы цэнтр “Вясна” стаў разглядаць дыскрымінацыю гомасэксуалаў у адным шэрагу з дыскрымінацыяй рэлігійных аб’яднанняў і нацыянальных меншасцяў [Вопросы толерантности 2005: 129-148].

Атмасферу пачатку 2000-х гадоў перадае кароткаметражны дакументальны фільм “Яны ўсё адно ўсміхаюцца” (“They still smile”). У 2002 годзе рэжысёрка Ірына Сізова атрымала за свой 17-хвілінны твор узнагароду за лепшы кароткаметражны фільм швейцарскага лесбі-гей-кінафестываля “Ружовы яблык” (“Pink Apple”) [Bütikofer 2002]. Фільм таксама паказваўся ў Варшаве на міжнародным кінафестывалі “Правы чалавека ў фільме” і на некаторых іншых пляцоўках. У “Яны ўсё адно ўсміхаюцца” можна пабачыць кадры з II міжнароднай канферэнцыі “Лесбійскі рух” (Менск, 8-9 сакавіка 2002), а таксама інтэрв’ю з удзельнікамі руху за правы лесбіек і геяў – Кацярынай Мінаковай, Марыяй Дударавай, Паўлам Галушкам, Аляксандрам

Плясецкім (вядомым як травесці Бджолька Мая), Эдвардам Тарлецкім і іншымі, чые імёны не пазначаныя ў субтытрах.

Напрыканцы варта звярнуць увагу на “тэмную” мастацкую літаратуру. Ніякіх “лесбійскіх” ці “гейскіх” літаратурных суполак ці альманахаў за 1990-я гады не з’явілася. Аднак большая адкрытасць у грамадстве і сярод літаратараў прывяла да напісання і публікацыі некаторых гомаэратычных твораў па-беларуску. Паколькі аўтар брашуры – не літаратуразнаўца, то прывядзе толькі пару прыкладаў з беларускай літаратуры да 2007 года. Няхай не пакрыўдзяцца тыя, чые творы тут не згаданыя.

Гомасэксуальнасць Юрыя Гумянюка (1969–2013) абмяркоўвалася пасля яго трагічнай смерці [http://www.svaboda.org/content/article/24879169.html]. У яго творчасці можна знайсці гомаэратычныя вершы. Вось, напрыклад, верш “Ружавокі дракон” з калектыўнага зборніка “Кола” (Гродна, 1993):

Ружавокі дракон мяне вабіць.
Мае ён аксамітную скуру.
Я яго прытулю, як кабету.
Гэта будзе сапраўднае шчасце.

Ружавокі дракон стане добрым
і схавае драпежныя зубы.
Ён адчуе нястомнае сэрца,
ўвойдзе ў транс, як індыйскія ёгі.

Ружавокі дракон адыходзіць,
дзе нічога няма. Толькі мары
ў галаве, нібы піва ў барылцы,
робяць шэра-зялёную пену.

Ружавокі дракон, мой маленькі,
спі салодка да лепшай гадзіны,
спі, пакуль твой адбітак ссівелы
люстраное захоўвае цела.

У 2006 годзе ў Менску выйшаў першы паэтычны зборнік Насты Кудасавай “Лісьце маіх рук”. Многія ўзоры інтымнай лірыкі ў зборніку напісаны ад імя лірычнай гераіні і звернутыя да жанчыны. Такім, напрыклад, з’яўляецца шасцічасткавы верш “Багіня” (з-за недахопу месца прыводзім толькі частку 4):

Лягу побач –
начны лёкай,
не гаворачы
ні кроку,
не гаворачы
ні кропкі,
лягу побач,
каб ты – толькі.
Толькі вобшук
рукі роднай…
Лягу побач
тваім стогнам,
лягу побач –
гарэць догмам!
Нарачоная
мне
Богам!

У сярэдзіне 2000-х заявіла пра сябе як паэтка Наста Манцэвіч, якая не хавала ў сваіх творах аднаполых любоўных перажыванняў. Аднак яе першы і пакуль адзіны зборнік “Птушкі” (2012) выйшаў значна пазней за “верхнюю” дату нашага даследавання.

Святлана Алексіевіч ужо амаль 20 год выпрабоўвае цярпенне прыхільнікаў сваёй творчасці і не выпускае ў друк кнігу “Чудный олень вечной охоты”, кнігу гісторый кахання. Толькі невялікая частка кнігі была апублікавана ў рыжскім часопісе “Даугава” (№4 за 2000 год) і больш не перавыдавалася. Яшчэ меншыя фрагменты з’явіліся ў 2001 годзе ў газетах “Труд” (18 студзеня) і “Российская газета”. Як сцвярджала сама пісьменніца ў адным з інтэрв’ю 1998 года, яна сабрала каля 500 гісторый кахання. Адна з трох гісторый, якія найбольш уразілі аўтарку, – гісторыя кахання двух мужчын, двух работнікаў балета, сталага і юнага. Сталы герой кнігі ўспрымае каханне не проста як радасць, але як дар, як невытлумачальную таямніцу [Кучкина 1998]. На жаль, гісторыя застаецца неапублікаванай (як і ўся кніга “Чудный олень вечной охоты”).

Паколькі табу на абмеркаванне гомасэксуальнасці было знятае, то яе сталі згадваць у сваіх творах і вельмі далёкія ад гомаэратызму пісьменнікі. Так, Васіль Быкаў зрабіў галоўным героем сваёй аповесці “Ваўчыная яма” (1998) салдата, якога згвалціў з дапамогай “дзядоў” сяржант. Забіўшы гвалтаўніка, салдат уцёк з войска ў чарнобыльскую зону.

## Пасляслоўе

На маю думку, стаўленне ў грамадстве да ЛГБТ-людзей адлюстроўвае агульны ўзровень талерантнасці і прыняцця "іншых". Гамафобія, як правіла, існуе не сама па сабе, а ў сувязі з сэксізмам, клерыкалізмам, нацыяналізмам, расізмам, антысемітызмам, мігрантафобіяй, ісламафобіяй ды іншымі забабонамі і фобіямі. Каб ісці да свабоднага грамадства, неабходна выкараняць гэтыя забабоны і фобіі. На жаль, сённяшняя Беларусь ідзе ў процілеглым кірунку. Тым не меней, калі азірнуцца назад, то можна заўважыць некаторыя нагоды для аптымізму. У прыватнасці, становішча гомасэксуалаў і трансгендэраў за апошнія дзесяцігоддзі хутчэй палепшылася, чым пагоршылася.

Для аўтара брашуры актывісцкія, заангажаваныя гістарычныя даследаванні ўяўляюць каштоўнасць як спроба азірнуцца назад. Таксама такія даследаванні дапамагаюць грамадству звярнуць увагу на пэўныя сацыяльныя праблемы сённяшняга дня, напрыклад, дыскрымінацыю пэўных сацыяльных груп, аўтарытарызм, сацыяльную несправядлівасць (бо ў мінулым можна пабачыць ці падобныя з'явы ў іншай форме, ці, наадварот, адсутнасць пэўных з'яў). Нарэшце, у мінулым можна заўважыць не толькі больш ці менш жахлівыя злачынствы, але і прыклады самаарганізацыі і сацыяльнай творчасці, якія могуць натхняць. Па-за межамі сучасных беларускіх універсітэтаў і даследчых установаў можна ўздымаць тэмы, якія ўнутры інстытуцый пакуль застаюцца неартыкуляванымі.

У прыватнасці, у гэтым даследаванні мы (аўтар тэкста і тыя, хто ўдзельнічаў у даследаванні і рэцэнзаванні) спрабуем узняць пытанне рэабілітацыі мужчын, якія былі асуджаныя ў БССР па частцы першай артыкула "мужаложства". Дзяржава і грамадства павінны прынесці афіцыйныя выбачэнні людзям, на якіх незаслужана было пастаўлена кляймо "злачынцаў".

Падчас даследавання давялося сутыкнуцца з праблемай цяжкадаступнасці крыніц. Напрыклад, фільм "Яны ўсё адно ўсміхаюцца" не атрымалася знайсці бліжэй, чым у Schwules Museum; многія кнігі набываліся за мяжой, бо іх папросту няма ў беларускіх бібліятэках. Я гатовы падзяліцца з іншымі даследчыкамі і квір-актывістамі назапашанымі матэрыяламі.

Некаторыя матэрыялы (пераважна, беларускія ЛГБТ-выданні 1990-х – першай паловы 2000-х гадоў) размешчаны ў адкрытым доступе на блогу даследчага праекта па адрасе: https://belarusianqueerstory.noblogs.org/ Тамсама можна знайсці электронную версію дадзенай брашуры.

Пакуль што некаторыя гістарычныя сюжэты атрымалася толькі пазначыць, але не раскрыць. Спадзяюся, што дадзеная брашура дасць штуршок іншым даследаванням, паколькі прадэманструе, што крыніцы ёсць і што да тэмы магчыма падступіцца.

Будзе працягвацца і гэтае даследаванне. У прыватнасці, мы з калегамі працягваем пошук рэспандэнтаў: ЛГБТ-людзей ва ўзросце ад 45 год, якія могуць распавесці пра сваё паўсядзённае жыццё да 1994 года. Калі Вы з'яўляецеся такім чалавекам ці ведаеце такога чалавека, калі ласка, звяжыцеся з намі.

Будзем радыя таксама атрымаць заўвагі і дапаўненні да зместу дадзенай брашуры.

Кантактны адрас для вашых допісаў: history.kruzhelka@gmail.com

## Бібліяграфія

Bortnik 2007 – Viachaslau Bortnik. Hate Crimes against Lesbian, Gay and Bisexual People in Belarus // Beyond the Pink Curtain: Everyday Life of LGBT People in Eastern Europe / Edited by Roman Kuhar and Judit Takacs. Ljubljana, 2007. P. 363-375.

Bosold, Brill und Weitz 2015 – Homosexualität_en / herausgegeben von B. Bosold, D. Brill und D. Weitz, im Auftrag des Deutschen Historischen Museums und Schwulen Museums. Berlin, 2015. S. 98-99, 112, 130, 156-157, 168, 205.

Bütikofer 2002 – Anne Bütikofer. "They still smile" – Lesben in Weissrussland // Die. 2002. №24 (Sommer). S. 20-21.

DIK Fagazine №8 – DIK Fagazine. No. 8. September 2011. [Theme of the issue: “Before ‘89”]

DIK Fagazine №9 – DIK Fagazine. No. 9. August 2014. [Theme of the issue: “Czechoslovakia”]

Dudek et al. 2007 – Das Recht, anders zu sein. Menschenrechtsverletzungen an Lesben, Schwulen und Transgender / Sonja Dudek, Richard Harnisch, Rupert Haag, Kerstin Hanenkamp, Claudia Körner, Colin de la Motte-Sherman (Hg.). Berlin, 2007.

Essig 1999 – Laurie Essig. Queer in Russia: A Story of Sex, Self, and the Other. Durham and London, 1999.

Healey 2012 – Dan Healey. Comrades, Queers, and “Oddballs”: Sodomy, Masculinity, and Gendered Violence in Leningrad Province of the 1950s // Journal of the History of Sexuality. Vol. 21. No. 3. September 2012. P. 496-522.

Kitowicz 1882 – Pamiętniki Ks. A. Kitowicza. Wydanie nowe przejrzane i uporządkowane przez Władysława Zawadskiego. Lwów, 1882. Сучаснае выданне: Jędrzej Kitowicz. Pamiętniki, czyli Historia polska / Tekst opracowała i wstępem poprzedziła Przemysława Matuszewska; komentarz Zofii Lewinówny. Wydanie trzecie. Warszawa, 2009.

Matuszewicz 1986 – Marcin Matuszewicz. Diariusz życia mego. Tom 1. 1714-1757 / Tekst opracował i wstępem poprzedził Bohdan Królikowski; komentarz Zofii Zielińskiej. Warszawa, 1986.

Nastulczyk, Oczko 2012 – Tomasz Nastulczyk, Piotr Oczko. Homoseksualność staropolska. Kraków, 2012.

Riordan 1996 – James Riordan. Sexual minorities: the status of gays and lesbians in Russian–Soviet–Russian society // Women in Russia and Ukraine, ed. by Rosalind Marsh. Cambridge, 1996. P. 156-172.

Ruduša 2014 – Rita Ruduša. Forced Underground. Homosexuals in Soviet Latvia. Riga 2014.

Samma 2015 – Jaanus Samma. Not Suitable For Work. A Chaiman's Tale / Curated by Eugenio Viola. Berlin, 2015.

Schluter 2002 – Daniel P. Schluter. Gay Life in the Former USSR: Fraternity Without Community. New York and London, 2002.

Schwules Museum 2004 – Self-Confidence and Persistence. Two Hundred Years of History, ed. by Schwules Museum. Berlin, 2004. P. 96-137, 149, 163-164.

Sokolova 2014 – Vera Sokolova. State approaches to homosexuality and non-heterosexual lives in Czechoslovakia during state socialism // The Politics of Gender Culture under State Socialism. An expropriated voice / Edited by Hana Havelkova and Libora Oates-Indruchova. London and New York, 2014. P. 82-108.

Stella 2015 – Francesca Stella. Lesbian Lives in Soviet and Post-Soviet Russia. Post/Socialism and Gendered Sexualities. Basingstoke, 2015.

Tomasik 2014 – Krzysztof Tomasik. Homobiografie. Wydanie drugie, poprawione i poszerzone. Warszawa, 2014.

Veispak 1991 – Teet Veispak. Homosexuality in Estonia in the 20th Century: Ideological and Juridical Aspects // Sexual Minorities and Society: the Changing Attitudes toward Homosexuality in the 20th Century Europe. Papers presented to the international conference in Tallinn May 28-30, 1990, ed. by Udo Parikas and Teet Veispak. Tallinn, 1991. P. 105-114.

Авдеев 1959 — Михаил Авдеев. Курс судебной медицины. Москва, 1959.

Андрианов 1968 – Владимир Андрианов. Аутогенная тренировка как метод специальной психотерапии сексуальных расстройств у мужчин // Вопросы психотерапии в общей медицине и психоневрологии: Тезисы и авторефераты конференции (23-27 декабря 1968 г.). Харьков, 1968. С. 423-425.

Аптер 1974 – Статеві розлади / За ред. Йогана Аптера. Друге виправлене видання. Київ, 1974.

Белоусов 2005 – Олег Белоусов. Искусство парадокса (Сергей Параджанов) // Олег Белоусов. Мой город. Минск, 2005. С. 261-266.

Блюмин 1967 – И. Блюмин. Судебно-медицинская экспертиза половых состояний мужчин. Москва, 1967.

Блюмин 1970 – И. Блюмин. Материалы к экспертизе половых состояний. Автореф. дис. на соискание ученой степени канд. мед. наук. Москва, 1970.

Быстров 1992 – Игорь Быстров. У обелиска // Тема. 1992. №1(9). С. 8.

Валодзін 2016 – Уладзімір Валодзін. Ружовае рэтра // Новы час. 2016. 8 студзеня. С. 5.

Васильченко 1983 — Частная сексопатология (Руководство для врачей) / Под ред. Георгия Васильченко. В двух томах. Том 2. Москва, 1983.

Васильченко 1990 — Сексопатология: Справочник / Под ред. Георгия Васильченко; сост. А. Бруенок. Москва, 1990.

Владимир Д. 1990 – Владимир Д. Ремонт // Тема. 1990. №0. С. 7.

Владин и Капустин 1981 — Владислав Владин, Дмитрий Капустин. Гармония брака. Минск, 1981.

Вопросы толерантности 2005 – Вопросы толерантности: история, современность, перспективы / Шведское общество Мира и Арбитража (Svenska Freds); Правозащитный центр “Весна” (Беларусь). Минск, 2005.

Воробьев 2013 – Александр Воробьев. Выборы в Учредительное собрание на территории северо-западных губерний России (Витебской, Минской, Могилевской, Псковской и Смоленской): Учебно-методические материалы. Могилев, 2013.

Гессен 1994 — Маша Гессен. Права гомосексуалов и лесбиянок в Российской Федерации. Отчет Международной комиссии по правам человека для гомосексуалов и лесбиянок. San Francisco, CA, 1994.

Голанд 1968 — Ян Голанд. К вопросу о психотерапии гомосексуализма // Вопросы психотерапии в общей медицине и психоневрологии: Тезисы и авторефераты конференции (23-27 декабря 1968 г.). Харьков, 1968.

Голанд 1972 — Ян Голанд. О ступенчатом построении психотерапии при мужском гомосексуализме // Проблемы современной сексопатологии (сборник трудов). Труды Московского НИИ психиатрии МЗ РСФСР. Том 65. Москва, 1972.

Голанд 1973 — Ян Голанд. Основные этапы процесса психотерапии сексуальных перверсий // Тезисы докладов конференции по психотерапии (г. Москва, март 1973 г.). Москва, 1973.

Голубева 1980 — Ирина Голубева. Гермафродитизм (клиника, диагностика, лечение). Москва, 1980.

Горелик, Ефимов и Тишкевич 1971 – Уголовное право БССР. Часть Особенная / Под ред. Иосифа Горелика, Михаила Ефимова и Ивана Тишкевича. Минск, 1971.

Горелик, Тишкевич 1976 — Иосиф Горелик, Иван Тишкевич. Вопросы уголовного права (Особенной части) в практике Верховного Суда БССР. Минск, 1976.

Григорян 2011 – Левон Григорян. Параджанов. Москва, 2011. – (Серия “Жизнь замечательных людей”).

Данилюк, Лукашов и Саркисова 1994 — Комментарий к Уголовному кодексу Республики Беларусь (изменения и дополнения 1993-94 гг.) / Станислав Данилюк, Алексей Лукашов, Элла Саркисова. Минск, 1994.

Деревинская 1965 — Елизавета Деревинская. Материалы к клинике, патогенезу, терапии женского гомосексуализма. Автореф. дис. … канд. мед. наук. Караганда, 1965.

Деревинская 1967 — Елизавета Деревинская. Об отношении гомосексуализма к психопатиям // Вопросы психиатрии, психотерапии, сексологии. Тезисы докладов конференций психиатров Карагандинской области. Караганда, 1967.

Деревянко — Игорь Деревянко. Гомосексуализм. Москва, 1991.

Еремин 2014 — Олег Еремин. “Мы с вами столько сделали, чтобы геи в этой стране имели право любить...” Ушла из жизни Татьяна Зуева // Вместе. Информационный бюллетень ассоциации “Белсеть АнтиСПИД”. №18(24). Сентябрь 2014. С. 2-3.

Здравомыслов, Анисимова и Либих 1985 — Василий Здравомыслов, Зося Анисимова и Сергей Либих. Функциональная женская сексопатология. Алма-Ата, 1985.

Иванов 2013 – Виктор Иванов. Контрреволюционные организации среди гомосексуалистов Ленинграда в начале 1930-х годов и их погром // Новейшая история России. 2013. №3. С. 126-143. Прагледжана ў сеціве: http://cyberleninka.ru/article/n/kontrrevolyutsionnye-organizatsii-sredi-gomoseksualistov-leningrada-v-nachale-1930-h-godov-i-ih-pogrom.pdf; дата апошняга звароту 14.02.2016.

Иванов 1966 — Николай Иванов. Вопросы психотерапии функциональных сексуальных расстройств. Москва, 1966.

Игнатов 1966 — Алексей Игнатов. Ответственность за преступления против нравственности (Половые преступления). Москва, 1966.

Игнатов 1974 — Алексей Игнатов. Квалификация половых преступлений. Москва, 1974.

Игнатов 1988 — Алексей Игнатов. Об ответственности за половые преступления // Советская юстиция. 1988. №3. С. 28-29.

Имелинский 1973 — Казимир Имелинский. Психогигиена половой жизни / Пер. с польск. Москва, 1973. [Самаробная копія. Менск, 1970-я.]

Имелинский 1986 — Казимир Имелинский. Сексология и сексопатология / Пер. с польск. Москва, 1986.

Исаев 1994 — Дмитрий Исаев. Сексуальные меньшинства // Петербург начала 90-х: безумный, холодный, жестокий… Санкт-Петербург, 1994.

Карнович и Коршик 1958 — Георгий Карнович и Михаил Коршик. Расследование половых преступлений: Пособие для следователей. Москва, 1958.

Кирсанов 2005 – Владимир Кирсанов. 69. Русские геи, лесбиянки, бисексуалы и транссексуалы. Тверь, 2005.

Клейн 2010 – Лев Клейн. Трудно быть Клейном: Автобиография в монологах и диалогах. Санкт-Петербург, 2010.

Клеш 2012 – Артур Клеш. Русский гомосексуал (1905-1938 гг.): парадоксы восприятия // Новое литературное обозрение. 2012. №117. Доступ праз інтэрнэт: http://magazines.russ.ru/nlo/2012/117/k11.html

Клеш 2013 – Артюр Клеш. Историография русской гомосексуальности до и после Октябрьской революции: различные подходы и перспективы // Как мы пишем историю? / Отв. ред. Гийом Гаррета, Грегори Дюфо, Людмила Пименова. Москва, 2013. С. 335-375.

Кон 1978 – Игорь Кон. Психология подростковой и юношеской гомосексуальности // Диагностика, лечение и профилактика половых расстройств. Труды Московского НИИ психиатрии МЗ РСФСР. Том 81. Москва: 1978.

Кон 1988 - Игорь Кон. Введение в сексологию. Москва, 1988.

Кон 2001 – Игорь Кон. Любовь небесного цвета. Санкт-Петербург, 2001.

Кон 2008 – Игорь Кон. 80 лет одиночества. Москва, 2008.

Кон 2010 – Игорь Кон. Клубничка на берёзке: Сексуальная культура в России / 3-е изд., испр. и доп. Москва: 2010.

Кондрашенко 1988 – Валентин Кондрашенко. Девиантное поведение у подростков: Социально-психологические и психиатрические аспекты. Минск, 1988.

Косарев 1967 – В. Косарев. К вопросу о судебно-психиатрическом значении гомосексуализма // Актуальные вопросы сексопатологии. Труды Московского НИИ психиатрии МЗ РСФСР. Том 51. Москва. 1967.

Круталевіч, Юхо, 2000 - Вадзім Круталевіч, Іосіф Юхо. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917-1945 гг.). Мінск, 2000.

Крымінальны Кодэкс 1929 – Крымінальны Кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Менск, 1929.

Крымінальны кодэкс 1935 – Крымінальны кодэкс БССР. Са змяненнямі на 1 чэрвеня 1935 года. Афіцыйны тэкст. Менск, 1935.

Крымінальны кодэкс 1957 – Крымінальны кодэкс Беларускай ССР. Афіцыяльны тэкст са зменамі на 1 мая 1957 года і з дадаткамі сістэматызаваных матэрыялаў (На беларускай і рускай мовах). Мінск, 1957.

Крымінальны кодэкс 1961 – Крымінальны кодэкс Беларускай ССР (на беларускай і рускай мовах). Мінск, 1961.

Кулон 2013 — Антон Кулон. Синяя книга белорусского алкоголика. Алкогольная повесть-быль. Минск, 2013.

Кучкина 1998 — Ольга Кучкина. Светлана Алексиевич: И даже богач мне сказал: “Перед смертью только и вспомню, как пил вино из женской туфельки...” Белорусская писательница собрала в новой книге 500 невыдуманных историй о любви // Народная воля. 11 ліпеня 1998. №122(474). С. 2.

Либерман 1966 — Леонид Либерман. Врожденные нарушения полового развития (генетика, “патогенез”, клиника). Ленинград, 1966.

Лобач 2006 — Владимир Лобач. Эрос в белорусской традиционной культуре // Белорусский эротический фольклор / Издание подготовили Татьяна Володина, Анатолий Федосик. Москва, 2006. С. 53-109.

Манцэвіч 2014 – Наста Манцэвіч. “Вы тоже люди, хоть и немного другие!” Как отвечали на письма гомосексуальных подростков журналисты и психологи газеты №1 для подростков “Переходный возраст” (в 1994-2005 гг.) // Makeout. 20 студзеня 2014. https://makeout.by/2014/01/20/vy-tozhe-lyudi-hot-i-nemnogo-drugie.html

Марговский 2009 — Григорий Марговский. Садовник судеб // Крещатик. 2009. №1. Доступ праз інтэрнэт: http://magazines.russ.ru/kreschatik/2009/1/ma12.html

Марзалюк 2001 – Ігар Марзалюк. Матрыманіяльнасць і секс у Беларусі XI-XVIII стст. // Terra Alba. Т. 2. Homo venerius: Сексуальная прастора беларускай культуры / Пад рэд. С. І. Даніленкі. Мінск, 2001. С. 122-138.

Міцкевіч 2007 – Юля Міцкевіч. Черный пиар: так “работают” беларуские журналисты // Taboo. 2007. №4. С. 2-3.

Моисеев 2007 – Борис Моисеев. Птичка. Живой звук. Тверь, 2007.

Мороз 1990 – Олег Мороз. Группа риска. Москва, 1990.

Осипов 1967 – Павел Осипов. Половые преступления (общее понятие, социальная сущность и система составов). Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата юридических наук. Ленинград, 1967.

Подрабинек 1979 — Александр Подрабинек. Карательная медицина / Под ред. Людмилы Алексеевой. Нью-Йорк, 1979. Электронный вариант: http://www.imwerden.info/belousenko/books/kgb/podrabinek_karat_med.htm

Посвянский 1972 — Павел Посвянский. Циркулярный психоз с периодической эффеминацией (транссексуализмом) // Проблемы современной сексопатологии (сборник трудов). Труды Московского НИИ психиатрии МЗ РСФСР. Том 65. Москва, 1972.

“Примерно наказать…” 1993 – “Примерно наказать этих мерзавцев” // Источник. 1993. №5-6. С. 164-165.

Пятницкий 1910 – Борис Пятницкий. Половые извращения и уголовное право. Могилёв, 1910.

Ролдугина 2016 – Ирина Ролдугина. “Почему мы такие люди?” Раннесоветские гомосексуалы от первого лица: новые источники по истории гомосексуальных идентичностей в России // Ab Imperio. 2016. №3 (в печати).

Романов 2006 — Александр Романов. Избранное (посмертный сборник) / Под ред. Сергея Коленченко. 2006 (http://samlib.ru/k/kolenchenko_s_n/posmertnyjsbornik.shtml).

Роткирх 2011 – Анна Роткирх. Мужской вопрос. Любовь и секс трех поколений в автобиографиях петербуржцев. Санкт-Петербург, 2011.

Свядощ 1974 — Абрам Свядощ. Женская сексопатология. Москва, 1974.

Свядощ, Деревинская 1967 — Абрам Свядощ, Елизавета Деревинская. Комбинированный метод лечения гомосексуализма // Вопросы психиатрии, психотерапии, сексологии. Тезисы докладов конференций психиатров Карагандинской области. Караганда, 1967.

Севярынец 2002 – Павал Севярынец. Апошняе вычварэньне Эдзіка Тарлецкага // Навінкі. 2002. №6(55). С. 1.

Сліж 2015 – Наталля Сліж. Шлюбныя і пазашлюбныя стасункі шляхты Вялікага Княства Літоўскага ў XVI-XVII стст. Смаленск, 2015.

Снежневский 1983 — Руководство по психиатрии / Под ред. Андрея Снежневского. В двух томах. Москва, 1983.

Собрание припадков 1722 — Собрание припадков краткое. Супрасль, 1722.

Соловьева 2007 – Татьяна Соловьева. Классический “треугольник” (Страницы личной жизни Н. П. Румянцева) // Рукописное наследие деятелей отечественной культуры XVIII – XXI вв. Материалы Международной научной конференции (Санкт-Петербург, 14-16 июня 2005 г.). Санкт-Петербург, 2007. С. 33-45.

Сосонко 2006 – Генна Сосонко. Клейменый // Генна Сосонко. Диалоги с шахматным Нострадамусом. Москва, 2006. С. 156-174.

Статут 1989 – Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мінск, 1989.

Стелла 2014 – Франческа Стелла. Исследование жизни лесбиянок в советский период: поколенческий подход // На перепутье: методология, теория и практика ЛГБТ и квир-исследований / Центр независимых социологических исследований; ред.-сост. Александр Кондаков. Санкт-Петербург, 2014. С. 231-248.

Тишкевич 1992 — Станислав Тишкевич. Единая теория уголовного нормотворчества и квалификации преступлений: Основные концептуальные положения. Теоретическая модель уголовного кодекса суверенной Республики Беларусь: Монография. Минск, 1992.

Украинское ЛГБТ-движение 2015 – Украинское ЛГБТ-движение, 25 / Ред. Стас Науменко, Тарас Карасийчук, Максим Касянчук. Киев, 2015.

Хили 2008 - Дан Хили. Гомосексуальное влечение в революционной России: Регулирование сексуально-гендерного диссидентства / Пер. с англ. Москва, 2008.

Хлынцов 1965 – Михаил Хлынцов. Расследование половых преступлений. Саратов, 1965.

Чемоданов, Гришин 1990 — Гомосексуализм. Проституция: Методическое пособие / Авторы-сост. Владимир Чемоданов, Александр Гришин. Москва, 1990.

Шалаев 1966 — Николай Шалаев. Судебномедицинская экспертиза по делам о мужеложстве // Сборник научно-практических работ судебных медиков и криминалистов. Вып. III. Петрозаводск, 1966. С. 31-37.

Шаргородский, Осипов 1973 — Михаил Шаргородский, Павел Осипов. Преступления против личности // Курс советского уголовного права. Т. 3. Часть особенная / Отв. ред. Николай Беляев и Михаил Шаргородский. Ленинград, 1973. С. 473-660.

Шнабль 1982 — Зигфрид Шнабль. Мужчина и женщина. Интимные отношения / Пер. с нем. Кишинев, 1982.

Яковлев 1969 – Яков Яковлев. Половые преступления. Душанбе, 1969.

## Спіс ілюстрацый

1. Ян Юзаф Філіповіч. Партрэт Януша Аляксандра Сангушкі. Медзярыт. Гравюра размешчана на франтыспісе кнігі: Bogatko I., Scientia artium militarium architecturam pyrotechnicam..., Leopoli 1747. Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). Доступ праз інтэрнэт: https://polona.pl/item/643591/
2. Віктар Смоляр (скульптар). Помнік Мікалаю Румянцаву ў Гомелі. Крыніца фотаздымку: https://commons.wikimedia.org/wiki/File:Palace_of_Pashkevichs_in_summer.JPG
3. Юзаф Галевіньскі (Holewiński). Партрэт Марыі Радзевіч. Дрэварыт. Гравюра з выдання: Kłosy, 1889, nr 1265, s. 193. Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі (Варшава). Доступ праз інтэрнэт: https://polona.pl/item/30622506/
4. Юзаф Чапскі. Партрэт Ежы Гедройца. 1971. Са збораў Таварыства Літаратурны Інстытут Культура, Мэзон-Лафіт, Францыя. Фотаздымак Адама Гальца. Доступ праз інтэрнэт: http://kulturaparyska.com/pl/ludzie/pokaz/c/jozef_czapski/multimedia/galerie/kolekcja-sztuki
5. Юзаф Чапскі. Замалёўкі з Нью-Ёрку. Будынак Крайслер. Рэпрадукцыя, змешчаная ў часопісе "Kultura", 1950, nr 4/30, s. 80. Доступ праз інтэрнэт: http://kulturaparyska.com/pl/ludzie/pokaz/c/jozef_czapski/multimedia/galerie/rysunki-jozefa-czapskiego-w-kulturze
6. Леў Клейн. Фота Ігара Сімкіна. Крыніца: https://commons.wikimedia.org/wiki/File:Leo_Klejn_2012.jpg
7. Плакат фільма Сяргея Параджанава "Колер граната". 1968. Крыніца: http://www.kinopoisk.ru/picture/2177091/#
8. Самаробная копія перакладной кнігі польскага сэксолага Казіміра Імеліньскага “Псіхагігіена сэксуальнага жыцця”. З калекцыі аўтара брашуры.
9. Малюнак з кнігі “Прыватная сэксапаталогія” пад рэдакцыяй Георгія Васільчанкі [Васильченко 1983, т. 2: 97].
10. Кім Хадзееў. Крыніца фотаздымку: http://artaktivist.org/kim-xadzeey/
11. Грамадская прыбіральня на скрыжаванні вуліц Свярдлова і Кірава. Сучасны выгляд.
12. Тралейбус 2-га маршрута на праспекце Францішка Скарыны. Менск, 1993. Фота Аарэ Оландэра. Крыніца: http://transphoto.ru/photo/335269/
13. Клуб “Буфет Ёё”. Жнівень 2006. Крыніца фотаздымку: http://www.tiga.by/photo/view/id/1931/
14. Пікет БЛЛ “Лямбда”. Менск, 19 красавіка 1999.
15. Актывіст “Міжнароднай Амністыі” Біл Шылер выступае на прэс-канферэнцыі ў межах фестывалю “Беларусь Гей Прайд-2000” каля помніка Максіму Багдановічу. Менск, 10 верасня 2000.
16. “Парад кахання”. Менск, 7 верасня 2001.




Ян Юзаф Філіповіч. Партрэт Януша Аляксандра Сангушкі. 1747. Медзярыт



Віктар Смоляр (скульптар). Помнік Мікалаю Румянцаву ў Гомелі

Юзаф Галевіньскі
Партрэт Марыі Радзевіч
1889. Дрэварыт




Юзаф Чапскі
Партрэт Ежы Гедройца. 1971





Юзаф Чапскі
Замалёўкі з Нью-Ёрку. Будынак Крайслер
Рэпрадукцыя, змешчаная ў часопісе
«Kultura», 1950, nr 4/30, s. 80



Леў Клейн

Плакат фільма Сяргея Параджанава «Колер граната». 1968




Саваробная копія перакладной кнігі польскага сэксолага Казіміра Імеліньскага «Псіхагігіена сэксуальнага жыцця»

Кім Хадзееў



Малюнак з кнігі
«Прыватная сэксапаталогія»
пад рэдакцыяй
Георгія Васільчанкі




*Рис. 66.* Соотношение полового самосознания, половой роли и типа психосексуальных ориентаций при различных нарушениях психосексуального развития у мужчин и женщин.

А — норма; Б — гомосексуализм с правильной половой ролью; В — трансформированная половая роль с гетеросексуальным влечением; Г — гомосексуализм с трансформированной половой ролью; Д — транссексуализм: а — с гомосексуальным влечением, б — с гетеросексуальным влечением. Окружности (от центра к периферии) обозначают: половое самосознание, половую роль и тип психосексуальных ориентаций. Заштрихованная часть — сформировано по мужскому типу, светлая часть — сформировано по женскому типу. Стрелки указывают нарастание тяжести нарушений психосексуального развития.

Грамадская прыбіральня на скрыжаванні вуліц
Свярдлова і Кірава. Сучасны выгляд

Тралейбус 2-га маршрута на праспекце Францішка Скарыны. Менск, 1993



Клуб «Буфет Ёё»
Жнівень 2006

Пікет БЛЛ «Лямбда»
Менск, 19 красавіка 1999



Актывіст «Міжнароднай Амністыі»
Біл Шылер выступае на
прэс-канферэнцыі ў межах фестывалю
«Беларусь Гей Прайд-2000»
каля помніка Максіму Багдановічу.
Менск, 10 верасня 2000

«Парад кахання»
Менск, 7 верасня 2001

**Квір-гісторыя Беларусі другой паловы XX стагоддзя: спроба набліжэння**

Навукова-папулярнае выданне

Аўтар тэкста:

Уладзімір Валодзін

Удзельнікі даследчай групы:

Наталля Манькоўская

Таня Сяцко

Кацярына Борсук

Кансультанты:

Іра Ралдугіна (Масква)

Валерый Сазаеў (Санкт-Пецярбург)

Уладзіслаў Іваноў (Вільня)

Рэдактар:

Юлія Мацук

Наклад 600 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Электронная версія:

https://belarusianqueerstory.noblogs.org/

Зваротная сувязь:

history.kruzhelka@gmail.com